

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

23 САКАВІКА 2001г. № 12/4096 КОШТ 121 РУБ.

# "КУЛЬТУРА, ПА ВЯЛІКІМ РАХУНКУ, — ГЭТА КУЛЬТУРА ЎЗАЕМААДНОСІН ПАМІЖ ЛЮДЗЬМІ"

***Леанід ГУЛЯКА:*** ***"Ніхто беларускую мову нам не перакрэслівае, ніхто ніколі не кажа ні чыноўніку, ні мастацкаму кіраўніку не размаўляць па-беларуску. Калі твой стан душы вымагае гэтага — размаўляй на роднай мове, ні на што і ні на кога не трэба азірацца, бо няма ніякіх дзяржаўных установак ці забарон".***

**5, 14—15**

# КАБ НЕ ЗНІКАЛІ ДАЛЯГЛЯДЫ

***У рубрыцы "За гарбатай" — перакладчыкі аб праблемах мастацкага перакладу***

**6—7, 13**

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

***Андрэя МАЗЬКО і Сяргея ВЕРАЦІЛЫ***

**8**

# ПАСТКА ДЛЯ ДВАІХ

***Апавяданне Уладзіміра ДАМАШЭВІЧА***

**9, 14—15**

# ПЕРШЫ ФЕСТЫВАЛЬ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

***З нагоды праекта, запачаткаванага ў Заслаўі Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі***

**10—11**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на другі квартал 2001 года. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на тры — **1 800**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на тры — **4 680**.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Подых вясны.* *Фота Г. ЖЫНКОВА*



# КОЛА ДЗЁН

***На мінулым тыдні было цёпла і здавалася, што ўжо вясна прыйшла канчаткова і надоўга. Нават у калгасе "Дружба народаў" Пінскага раёна ішла сяўба і ўжо было засеяна пшаніцай 150 гектараў. Але, як бачым, сёння на вуліцы зноў зіма — снег і мароз да 10 градусаў, а месцамі аж да 18. І гэта ўсё нармальна, бо прырода — гэта прырода, і тое, што хоча ад яе чалавек, не заўсёды выконваецца. Прыродзе не загадаеш. Як не змаглі загадаць савецкай касмічнай станцы "Мир" застацца на сваёй арбіце. Сёння яна ўвайшла ў шчыльныя слаі атмасферы і яе рэшткі ўпалі ў акіян. Гэта адышоў у небыццё апошні яркі сімвал Савецкага Саюза, які і так праіснаваў на дзесяць гадоў больш за сам Саюз. Словам, нічога вечнага няма і ў нас закончыцца зіма...***

## ЧАС ТЫДНЯ

25 сакавіка, якраз у Дзень Волі, стрэлкі гадзіннікаў павінны быць пераведзены на летні час — на адну гадзіну наперад. Пра гэта паведамляецца ў друку і па радыё. Дзень 25 сакавіка сімвалічны для многіх беларусаў, і ў пераводзе гадзіннікаў на адну гадзіну наперад яны хочуць бачыць перамены. Але мы жывём у рэальным свеце, а не ў казцы...

## ВЫБАРЫ ТЫДНЯ

18 сакавіка ў 13 выбарчых акругах адбыліся паўторныя выбары ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. У галасаванні ў сярэднім прынялі ўдзел 72,2 працэнта выбаршчыкаў, а ў некаторых акругах на ўчастկі прыйшлі больш за 82 працэнты. З першага разу абраны два дэпутаты. Імі сталі намеснік кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна сталіцы Галіна Мазуркевіч і загадчыца кафедры псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка Надзея Цыркун. Другі тур выбараў пройдзе 1 красавіка ў астатніх 2 акругах. У другі тур выйшлі толькі чатыры прадстаўнікі палітычных партый: трое ад ПКБ і адзін ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Кіраўнік БСДП НГ М. Статкевіч стаў у Каліноўскай выбарчай акрузе N 107 толькі трэцім, заручыўшыся падтрымкай пятай часткі выбаршчыкаў...

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Ужо не першы год ідуць гаворкі пра рэфармаванне сістэмы сярэдняй адукацыі. Некаму, відаць, даўно здаецца, што гаворкі-гаворкамі, а справу ніякіх. Ды не! Пачынаючы з 1998 года ў рамках рэформы ў школах адначасова навучанне дзяцей з 6 гадоў. І ўжо на сённяшні дзень 95 працэнтаў дзяцей гэтага ўзросту вучацца ў школах. Дзеці, якія пайшлі ў школу ў 1998 годзе, будуць вучыцца 12 гадоў, прычым з 2002 года для іх прадугледжана пяцідзённае навучанне. Усе астатнія на пяцідзёнку пяройдуць толькі да 2008 года. З 2006 года дзеці змогуць вывучаць замежную мову з першага класа. І гэта нядрэнна. Вось бы і родную беларускую мову ўсе вывучалі з першага! Праграмай рэфармавання прадугледжана, што з пяцібальнай ацэнкай ведаў паралельна будзе існаваць і дзесяцібальная сістэма. Але як яно там будзе, пакажа час...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Выйшаў 500 нумар газеты "Наша слова", заснавальнікам якой з'яўляецца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Віншуем тэбэямаўцаў з гэтай падзеяй і жадаем і надалей плёну на ніве беларушчыны!

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Больш за тры тыдні прайшло з таго дня, калі скончыўся час для падачы дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе. І ўжо могуць, як гаворыцца, цяпер спакойна спаць 238 тысяч 825 чалавек. Летась да 1 сакавіка такіх шчасліўчыкаў было 204 тысячы 860. Аднак яшчэ ёсць час да 15 красавіка для тых грамадзян, якія хоць і падалі звесткі, але недакладныя, выправіць свае агрэхі, каб не трапіць у непрыемнасці. Словам, падатковыя органы пакуль што напамінаюць...

## ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ

"Вяртаннем з пекла" можна назваць вяртанне дамоў чатырох грамадзян нашай краіны з борта самалёта ТУ-154 "Унукаўскіх авіяліній", захопленага чачэнскімі тэрарыстамі. Пра ўсе абставіны гэтай трагедыі можна было даведацца з расійскага тэлебачання. Не дай Бог нікому перажыць такое, што перажылі заложнікі тэрарыстаў на ТУ-154!

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Колькі ні пішацца ў газетах, колькі ні гавораць па радыё і тэлебачанні "будзьце асцярожнымі на дарогах", але ўсё роўна людзі гінулі і гінуць пад коламі аўтатранспарту. Толькі за апошнія 10 гадоў у нашай краіне ў дарожна-транспартных здарэннях загінула 18 тысяч чалавек, каля 75 тысяч пацярпелі. Нават у Афганістане за 10 гадоў вайны савецкія войскі страцілі амаль на пяць тысяч салдат менш, чым у нас загінула на дарогах. Аднак, Беларусь не самая горшая ў плане ДТЗ, бо ў нас не так ужо і шмат аўтамабіляў у параўнанні з іншымі краінамі. І ўсё ж і за мінулы год на беларускіх дарогах загінула паўтары тысячы чалавек і шэсць з паловай тысяч былі паранены. Таму не лішнім будзе і цяпер паўтарыць словы: "Будзьце асцярожнымі на дарогах!"

## НАВІНА ТЫДНЯ

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, аб'ём вытворчасці гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў у Беларусі за студзень гэтага года скарацішся на 10,5 працэнта ў параўнанні са студзенем мінулага года і склаў 929 тыс. дал. І ўсё ж, гледзячы на прылаўкі нашых магазінаў, пра скарачэнне вытворчасці гарэлкі не скажаш, Няўжо мы дачакаліся часоў, калі беларусы зразумелі, што піць гарэлку — гэта не толькі не карысна для здароўя, але і накладна для сямейнага бюджэту?..

## ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ўжо афіцыйна аб'яўлена аб заканчэнні эпідэміі грыпу ў нашай сталіцы. За час эпідэміі ў Мінску на грып і ВРЗ перахварэла 98 тысяч чалавек, каля 45 працэнтаў з іх — дзеці. На каранцін зачынілася 68 мінскіх школ. Калі параўнаць з мінулым годам, то гэта не так ужо і шмат. Але лепей бы зусім нікому не хварэць!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Чарговая рада Саюза беларускіх пісьменнікаў па традыцыі першым пытаннем разгледзела прыём у творчую арганізацыю. Прадстаўляючы "абітурыентаў", старшыня прыёмнай камісіі Валянцін Блакіт адзначыў творчую сталасць уступаючых у СБП, іх актыўную грамадзянскую пазіцыю. У абмеркаванні творчасці жадаючых уступіць у саюз прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Янка Сіпакоў, Артур Вольскі, Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Паўлаў, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Пісьмянкоў і іншыя.

У выніку тайнага галасавання ў Саюз беларускіх пісьменнікаў прыняты Андрэй Мазько, Тамара Супрановіч, Зоя Падліпская, Валянціна Паліканіна, Маргарыта Прохар, Станіслаў Суднік, Таіса Трафімава.

Па другім пытанні павесткі дня выступіла в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава. Яна абмалявала сённяшнюю сітуацыю ў творчай арганізацыі, адзначыла здабыткі, вызначыла праблемы, якія стаяць перад Саюзам беларускіх пісьменнікаў на цяперашнім этапе. Пасля абмеркавання, у якім з вострымі палемічнымі прамовамі выступілі Генадзь Бураўкін і Уладзімір Карызна. Было прынята рашэнне аб правядзенні XXIII з'езда пісьменнікаў у трэцяй дэкадзе мая 2001 года. Рада даручыла кіраўніцтву саюза вызначыць і прапанаваць дакладную дату з'езда. Утворана камісія па падрыхтоўцы да з'езда.

Са справаздачным дакладам на пісьменніцкім форуме рада даручыла выступіць Вользе Іпатавай.

Разгледжана таксама пытанне аб галоўным рэдактары часопіса "Крыніца". На гэтую пасаду зацверджана в. а. галоўнага рэдактара пісьменніца Ала Канапелька.

●

Падведзены вынікі рэспубліканскага творчага конкурсу на лепшы літаратурны твор сярод маладых аўтараў, які праводзіў Саюз пісьменнікаў разам з Дзяржаўным камітэтам па друку і Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі. Матэрыялы на конкурс, надрукаваныя ў 2000 годзе, прадстаўлялі перыядычныя выданні.

Па намінацыі "паэзія" першае месца прысуджана Янку Лайкову (вершы ў газеце "ЛіМ"), другое — Вікторыі Бохан (за паэтычную падборку ў часопісе "Полымя").

У намінацыі "крытыка і літаратуразнаўства" першай і другой прэміі вырашана не прысуджаць.

Заахвочвальнымі прэміямі "за істотны ўклад у развіццё беларускай літаратуры" ўзнагароджаны Ірына Шаўлякова і Юрась Барысевіч.

Прэміі і дыпломы пераможцам конкурсу будуць уручаны падчас семінара маладых літаратараў, які адбудзецца ў канцы красавіка.

●

Шмат сяброў і прыхільнікаў сабралася ў бібліятэку Саюза пісьменнікаў, каб павіншаваць з 70-годдзем празаіка, публіцыста, паэта Паўла Місько. І пачалася сустрэча незвычайна — з гукання вясны ў выкананні хлопцаў і дзяўчат з фальклорнага гурта пад кіраўніцтвам Ірыны Мазюк.

Вядучы вечарыны Навум Гальпяровіч зазначыў, што такі пачатак імпрэзы невыпадковы, бо менавіта вясной нарадзіўся юбіляр, што ў такі ж сакавіцкі дзень родная Случчына дала яму пуцёўку ў доўгі шлях у жыццё і літаратуру.

Выступоўцаў было шмат. Гэта і народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, пісьменнікі Генрых Далідовіч, Мікола Чарняўскі, Валянцін Блакіт, Міхась Пазнякоў, Алесь Наварыч, Лідзія Савік, Генадзь Шупенька, Эрнест Ялугін...

Цёплыя словы ў адрас юбіляра гаварыла в. а. старшыні СБП Вольга Іпатава, якая ўручыла яму ганаровую грамату СБП. Гучалі вершы П. Місько ў выкананні Галіны Дзягілевай. Музычныя прывітанні юбіляру дарылі Наталля Матыліцкая і Уладзімір Бербераў, барды Зміцер Сідаровіч і Кастусь Герашчанка.

На завяршэнні выступіў сам Павел Місько. Ён чытаў новыя вершы, пароды і эпіграмы.

**Н. К.**

ФЕСТЫВАЛІ

# "Маладзечанская сакавіца-2001"

З 16 па 18 сакавіка ў Маладзечне адбыўся VII рэспубліканскі тэатральны фестываль "Маладзечанская сакавіца-2001", у якім бралі ўдзел тэатры з Мінска, Магілёва, Віцебска, Маладзечна. Гэты фестываль стаў сапраўдным падарункам для адданых тэатру людзей, якія мелі рэдкую па сённяшнім часе магчымасць пагладзець новыя беларускія спектаклі, ацаніць майстэрства нашых тэатральных калектываў. Журы, якое ўзначаліў беларускі драматург А. Дудараў, сёлета аднадушна аддало прыз за лепшую рэжысуру спектаклю Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра "Трышчан ды Іжота" С. Кавалёва ў пастаноўцы А. Жугжды (гэта дэбют у драматычным тэатры знанага рэжысёра-лялечніка). Магілёўскія артысты паказалі жывы, вясёлы спектакль, да якога з радасцю спрычыніліся гледачы. Падчас паказу "Трышчана ды Іжоты" ўлюбёнкай публікі зрабілася вынаходлівая служка Брагіня, якую сыграла актрыса Г. Лабанок (прыз за лепшае выкананне жаночай ролі). Побач з ёю "зрываў" апладысменты таксама і маладушны рыцар Трышчан У. Саўчыкава (прыз за лепшае выкананне мужчынскай ролі). Цікавымі сцэнічнымі знаходкамі вылучаўся спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы "Брат мой, Сімон" А. Казанцава ў рэжысуры А. Гарцуева. Журы фестывалю прыйшоўся даспадобы вар'ят Сімон у выкананні В. Паўлюця (прыз за лепшае выкананне мужчынскай ролі). Разам з гэтымі пастаноўкамі запомніўся камерны спектакль мінскага Малога тэатра "Я жыць хачу..." ("Гульня ў джын"), у якім з "азартам" сыгралі народны артыст РБ Ю. Сідараў і заслужаная артыстка РБ З. Асмалоўская (прыз за лепшае выкананне жаночай ролі). Многа чакалі ад прэм'ернага спектакля Мінскага абласнога драматычнага тэатра "Кім" па п'есе А. Дударава (ён адкрываў фестываль). Аднак рэжысёр М. Мацкевіч зрабіў даволі традыцыйны спектакль, які не выклікаў асаблівага ўзрушэння. (Здзівіла толькі ігра маладзенькага трынаццацігадовага акцёра Д. Свірыды). Нягледзячы на супраціўленне драматурга, спектакль "Кім" быў адзначаны журы: акцёр А. Пашкевіч, які стварыў вобраз бізнесоўца Каралёва, атрымаў прыз за лепшае выкананне мужчынскай ролі. Асобна А. Дудараў узнагародзіў усіх дзетак-акцёраў, задзейнічаных у "Кіме". Дарэчы, сёлета ў "Маладзечанскай сакавіцы-2001" на роўных з "дарослымі" спектаклямі прагнуў прызнання і дзіцячы спектакль. "Дарога на Віфлеем" па п'есе прытчы С. Кавалёва, якую на сцэне ТЮГа паставіла малады рэжысёр Н. Башава, быў адзначаны прызам за рэжысуру.

Сапраўдным узрушэннем, адкрыццём на фестывалі стаў монаспектакль народнай артысткі СССР А. Клімавай "Мой тэатр" А. Душачкіна. Вядомая актрыса Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага назаўсёды развітвалася са сцэнай — і публіка не хавала слёзы. Адразу ж пасля спектакля А. Клімавай быў уручаны ганаровы дыплом "За ўклад у тэатральнае мастацтва і станаўленне нацыянальнай сцэны" (як адзначыў А. Дудараў, журы прыняло такое рашэнне ўжо падчас спектакля). На жаль, без прызоў паехалі з фестывалю два тэатры: Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа (коласаўцы прывезлі спектакль "Грахі бацькоў" паводле п'есы Ібсена "Прывіды" ў пастаноўцы Ю. Лізянгевіча), а таксама Тэатр-студыя кінаакцёра нацыянальнай студыі "Беларусьфільм", які паказаў спектакль "Філумэна Мартурана" Э. дэ Філіпэ (рэж. А. Яфрэмаў).

У рамках "Маладзечанскай сакавіцы-2001" адбылася таксама рэспубліканская нарада "Творчыя вынікі тэатральнага года" і "круглы стол" па выніках фестывалю (нататкі пра тэатральны фестываль чытайце ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа").

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



*На здымку: рэжысёр А. ЖУГЖДА.*

ВЫСТАВЫ

# Добрая традыцыя

Актыўнае знаёмства прадстаўнікоў Міністэрства замежных спраў Беларусі з выяўленчым мастацтвам працягваецца. У фае першага паверха МЗС адкрылася чарговая выстава — графічных лістоў Юрыя Якавенкі. Мастак, які пасля заканчэння БелАМ стала атабарыўся ў Гродне, на сённяшні дзень з'яўляецца адным з лепшых графікаў краіны. Гэта пацвярджаюць шматлікія міжнародныя ўзнагароды Ю. Якавенкі. Нечаканасць вобразаў, вытанчанасць тэхнікі мастака захапляюць не толькі прафесіяналаў, але і супрацоўнікаў МЗС. Як зазначыў прадстаўнік гэтага міністэрства П. Латушка на прэс-канферэнцыі для журналістаў, "выстава стала добрай традыцыяй, і мы маем намер працягваць яе і далей".

**Н.Ш.**

# Падарунак амбасады

На працягу месяца ў Нацыянальным мастацкім музеі працавала выстава дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва Кітая. Больш як пяць дзесяткаў работ гэтай выставы — падарунак Кітайскай амбасады нашаму музею. Гэта творы сучасных мастакоў і рамеснікаў, што трымаюцца ў сваёй творчасці нацыянальнай традыцыі. Другую частку экспазіцыі складалі творы кітайскага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва 50-х гадоў з фондаў НММ РБ. На прэс-канферэнцыі, якая папярэднічала вернісажу, дырэктар музея сп. Пракапцоў падзякаваў амбасадару Кітайскай Народнай Рэспублікі за падарунак і выказаў спадзяванне, што гэтае пачынанне падтрымаюць іншыя дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Беручы да ўвагі, што аддзел мастацтва Усходу ў нашым музеі не надта багаты, падарунак Кітайскай амбасады аказаўся вельмі дарэчы. На думку экспертаў, гэтыя падарункі зоймуць месца ў навукова-дапаможным фондзе музея.

**Наш кар.**

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Ігар Лучанок вядомы і невядомы

Прэзентацыя новай кнігі Уладзіміра Ліпскага "Басаnож па зорках", якая днямі адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы, сабрала багата прыхільнікаў яркага таленту народнага артыста СССР, кампазітара Ігара Лучанка. Сярод прысутных можна было ўбачыць вядомых дзеячаў культуры, былых камсамольскіх важакоў, людзей у вайсковай форме, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і студэнцкую моладзь.

Іх усіх у гэты вечар аб'яднала шчырая любоў да творчасці слыннага беларускага музыкі. Пра Ігара Лучанка вядомага і невядомага гаварылі аўтары кнігі "Басаnож па зорках" Уладзімір Ліпскі, родная сястра кампазітара Ларыса Міхайлаўна, паэт Генадзь Бураўкін, старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы, калегі па творчым цэху, спевакі... І, вядома ж, самі песні, мелодыі якіх добра ведаюць і любяць людзі розных пакаленняў не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Дарэчы, некаторыя з іх прагучалі ў выкананні самога Ігара Міхайлавіча.

Тут жа на вечарыне можна было атрымаць адразу два аўтографы: аўтара кнігі і ягонага славутага героя.

**Сымон КАНІЦКІ**



*Фота М. ПРУПАСА*

ТЭАТР

# Таганка ў Мінску

Таганка — маскоўская легенда. Для савецкай культуры часоў так званага застою Тэатр на Таганцы адыграў ролю, аналагічную той, як на пачатку мінулага стагоддзя ў Расійскай імперыі славуты МХАТ. Госці Масквы звычайна вылучалі з шэрагу сталічных славутасцяў дзве — ГУМ на Краснай плошчы і Высоцкі ў Тэатры на Таганцы. А той, каму пашчасціла пабачыць Высоцкага на ягонай роднай сцэне, сярод тэатраманаў набываў такі ж статус, як сярод шчырых каталікоў той, хто на свае вочы бачыў Папу Рымскага. Таганка — легенда Масквы, Высоцкі — легенда Таганкі.

Сёння мінскія гледачы маюць магчымасць дакрануцца да легенды. Таганка гастралюе ў нашай сталіцы. Трэба, праўда, удакладніць, што ўжо дзевяць гадоў, як Тэатр падзяліўся на дзве часткі. Адной па-ранейшаму кіруе Любімаў, другой (пад назваю "Садружнасць акцёраў Таганкі") — Губенка. Да нас прыехала "Садружнасць". Адзін са спектакляў гастрольнага рэпертуару створаны паводле п'есы Мікалая Някрасава "Восеньская маркота" і мае красамоўную рускую назву "Дурь". П'еса ўспрымаецца чыста забаўляльнай і пазбаўленай усялякага сацыяльнага зместу. Гэта аповед пра адзін вечар і ноч у маёнтку памешчыка, недзе ў расійскай глыбінцы — "да бліжэйшага горада — сорак вёрст, да бліжэйшага суседа — сямнаццаць", а дарогі такія, што калі па іх вязеш малако, яно ператвараецца ў масла. Шырокая нацыянальная натура галоўнага героя гібее сярод амаль што першабытнай прыроды і спрадвечнае "дурь". Моцна заснуўшы пасля абеду, памешчык мимняшчасце прачнуцца толькі ўвечары, калі звычайныя людзі якраз збіраюцца класціся спаць. Ён з жахам думае пра тое, чым заняць вечар і ноч. Ягоныя сяляне таксама ў жаху, бо калі не спіць "кароль", ды і стомленае за дзень "каралеўства" мусіць трымацца бадзёра. Спачатку наш герой спрабуе запоўніць час пісаннем вершаў — "...как ночь переспать?!.. березки обнять... родина-мать..." і нават — "...а может именье крестьянам отдать?" Усвядоміўшы абсурднасць апошняй думкі, ён кідае эксперыменты з пісьменствам і пачынае "дурить" у больш звыклай для сябе манеры, з танцамі і песнямі. Відавочна, што для ягоных сялян гэтая справа ўжо стала чымсьці накшталт абавязковай баршчыны. Падчас начных канцэртаў яны спеліся і цяпер могуць спяваць пад цыганскі хор, станцаваць пад балет Вялікага тэатра, "изобразить" фальклорны гурт...

Канцэртныя нумары перабіваюцца пошукамі барынавага футра, якое з'ела моль; ключа ад кладоўкі з порахам (чакаецца нашэсце галодных ваўкоў і трэба трымаць абарону); высвятленнем асобаў, з якімі прысутныя тут дваровая дзеўка ходзіць на гарышча. Час ад часу гучыць: "Налівай!". Акампаніятар гэтага дзейства мужык Радыён, якога барын толькі што навучыў іграць на піяніна па прынцыпе "по чёрным бей чаще, по белым — реже".

Нарэшце, агульныя намаганні барына супакоілі. Ён засынае. Гучыць раздольная і шчымлівая руская песня. Заслона.

Кажуць, што сёння гэта самы вясёлы спектакль у Маскве. Падобна, што так яно і ёсць. Акцёры іграюць азартна, так што нават забываеш пра абсурднасць сітуацыі, і ўспрымаеш цалкам натуральна тэксты, якія трапілі ў 19 стагоддзе з нашых дзён.

Гэту п'есу можна лічыць ілюстрацыяй да вядомага выслоўя Дастаеўскага: "Широк человек, я бы сузил". П'еса вясёлая, але ў нейкі момант становіцца страшна... Зрэшты, п'есы Таганкі ніколі не былі адназначнымі.

**Н. К.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Каб вольным быць...

Днямі народны тэатр-студыя "Валянцін" запрасіў магілёўскіх аматараў айчыннай драматургіі на чарговую прэм'еру. Гістарычная драма "Дачка волі" Міхася Карпечанкі сталася пятай па ліку п'есай бялыніцкага драматурга, увасобленай на сцэне заслужаным дзеячам культуры РБ Валянцінам Ермаловічам. Зала Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу, як і заўсёды на спектаклях народнага тэатра, была запоўнена даастатку. І, як зазвычай, гледачы на засталіся абыякавымі да таго, што дзеелася на сцэне...

Беларускіх творцаў ад часоў Купалы прываблівае сваёй загадкавасцю і драматызмам вобраз полацкай князёўны Рагнеды. Мастакі па-рознаму асэнсоўваюць яго, спрабуючы дадумаць, дапоўніць падзеі, скупа выкладзеныя летапісцамі (гл., напрыклад, п'есу Алеся Петрашкевіча "Гора і слава", дзе Рагнеда-Гараслава, падаўляючы сваёй воляй і інтэлектам асобу князя Уладзіміра, па сутнасці выступае правадніцай ідэй хрысціянства на землях Кіеўскай Русі).

Па-свойму паглядзеў на Рагнеду і Міхась Карпечанка. Праўда, ён адпачатку свядома ўскладніў сабе задачу, бо вырашыў не адступацца ад падзей Лаўрэнцеўскай версіі. І тым не менш нават небагатай летапіснай фактуры аказалася дастаткова для стварэння яркіх і запамінальных вобразаў, некаторыя з якіх, набыўшы адпаведнае сэнсавае напаўненне, сталі адметнымі сімваламі. Напрыклад, абаяльная прыгажуня Рагнеда (Таццяна Яфімава) у яго п'есе — не проста няшчасная, але гордая жанчына, што не скараецца тытулаванаму гвалтаўніку. Яна тут найперш — сімвал паланёнай Бацькаўшчыны — Полаччыны, Друччыны, Тураўшчыны, — лепшыя дзеці якой мужна і нястомна змагаюцца з вялікім кіеўскім князем за незалежнасць. У гэтым плане нават эпізод адважнай абароны мащі князя жычам Ізяславам (Яна Бужка) ад мяча Уладзіміра (Алег Дзьячкоў) успрымаецца як своеасаблівая праекцыя народнага змагання. Таму зусім натуральнымі і зразумелымі здаюцца роспачныя словы князевага дзядзькі Дабрыні (Ігар Пушкін), звернутыя да Рагнеды: "Ты ж не супраць Уладзіміра, ты супраць Улады пайшла!".

Увогуле, амаль усе нешматлікія персанажы драмы (іх восем) уражваюць сваёй характэрнасцю. Аднак асабліва выразным аказаўся, на нашу думку, вобраз паганскай багіні Мокаш (Лілія Кузьменка), ахоўніцы і заступніцы ўсходнеславянскіх жанчын. Багіня, якая ў творы апякуе Рагнеду (чытай Полаччыну) і якая нясе жыццядайны пачатак, супрацьстаіць магутнаму сімвалу разбурэння, ваяўнічаму і бязлітаснаму богу князевай дружыны Перуну. Дзякуючы такой не зусім традыцыйнай трактоўцы вобраза Мокаш набываюць надзвычайную сілу вядомыя словы, укладзеныя аўтарам у яе вусны: "Каб вольным быць, народам звацца, радзіму, мову трэба бараніць!"

Пра тое ж, што ідэя дайшла да сэрцаў гледачоў, сведчыць факт, можа, і мала кім з прысутных у зале належна ацэнены: пасля завяршэння дзейства ўзрушаныя тэатралы абдорвалі букетамі кветак толькі акцёраў, што ігралі **становучых** персанажаў. Даруем гледачам "несправядлівасць". Тым больш, што Алег Дзьячкоў, Ігар і Таццяна Пушкіны на іх ніякім чынам не пакрыўдзіліся, бо ў такой "няўвазе" справядліва ўбачылі прызнанне сваёй выдатнай ігры.

Нам думаецца, калі б на спектаклі прысутнічаў сам Мікалай Іванавіч Ермаловіч, светлай памяці якога прысвечана п'еса, а ўгодкам — прэм'ера, ён таксама застаўся б задаволеным.

**Сяргей УКРАІНКА,**
*г. Магілёў*

НАДЗЁННАЕ

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Сцяна бедаў і слёз

*Дазволь нам, Божа,*
*Жыць сваёю верай*
*Паміж сваіх палёў, лясоў і рэк!*
*Над Беларуссю Зоркаю Венерай*
*Мог зноўку б узысці дваццаты век.*

*Сама магла б услед за даўняй марай*
*Ісці да будучых найлепшых дзён.*
*Але па ёй злавеснай чорнай хмарай*
*Цень распаўзаецца з усіх старон.*

*І што нам да сцяны той, што ў Берліне*
*Рассыпалася раптам назаўжды?*

*У нас свая сцяна па ўсёй краіне*
*Пралегла праз нязмерныя гады.*

*Усё яшчэ атрута ў нетры края*
*І ў нашы душы сыплецца з нябёс.*
*І ўсё вышэй, вышэй сцяна ўзрастае*
*Пакутаў нашых, бедаў, горкіх слёз.*

*Яна ляжыць прасцягам бездарожжа*
*Там, дзе вясной квітнеў садоў прастор.*
*І мо Усявышні толькі дапаможа*
*Малітвамі нам адужаць гэты мор?*

14 снежня 2000 г.

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Музей у кватэры

Старэйшыя журналісты і чытачы газеты "Гродзенская праўда" ведаюць жыхара Слоніма Міхаіла Рылко як таленавітага майстра слова. Доўгі час яго замалёўкі і нарысы не сыходзілі са старонак абласной газеты, ушаноўваліся прэміямі. Але ёсць у літаратара і яшчэ адна справа для душы. За апошні час Міхаіл Рылко сабраў даволі багатую калекцыю прылад сялянскай працы, арыгінальных работ народных умельцаў. Не стаў Рылко хаваць свае "скарбы" ад людзей, а ўтварыў своеасаблівы музей у сябе дома. Зацікавіліся да яго жыхары суседніх вёсак, студэнты з Зэльвы, Пружан, Брэста, Мінска. Музеем краязнаўцы зацікавіліся і супрацоўнікі творчага аб'яднання "Летапіс". Рэжысёр Рычард Ясінскі зняў аб калекцыі Міхаіла Рылко дакументальны фільм. Слонімскі краязнаўца асабіста прадставіў гледачам унікальныя экспанаты, а музей у кватэры назваў "Беларускім мястэчкам".

## Стаў ансамбль народным

Фальклорнаму ансамблю вёскі Погіры Дзятлаўскага раёна прысвоена званне народнага. У гэтым вялікая заслуга мастацкага кіраўніка Раісы Дулы. Праграма выступленняў — самая разнастайная. Душа калектыву — гарманіст і танцор Пётр Шыдла. Бадай, самыя галасістыя спявачкі — Марыя Шыдла, Ларыса Маркушэўская, Ганна Едка і Яніна Рудзевіч. Па-майстэрску танцуе Ніна Візгір, а Наталля Шыдла радуе гледачоў байкамі і гумарэскамі. У творчы калектыў уліваецца маладое папаўненне — Соф'я Яцко, Ганна Дваранiна, іншыя энтузіясты мастацкай самадзейнасці.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Полацк — горад выстаў

Як паведамляе газета "Полацкі лабірынт", у выставачнай зале мясцовай дзіцячай мастацкай школы праходзіць выстава дыпломных вучнёўскіх работ "Разбяры Лепельшчыны". А ў музеі беларускага кнігадрукавання адкрыта экспазіцыя батыка Алены Яснавай з Віцебска. Дзве выставы арганізаваны і ў Цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур: экспануюцца рэпрадукцыі карцін М. Чурлёніса і жывапісныя палотны В. Сарокіна, аб'яднаныя ў цыкл "Віцебск — любоў мая".

**Таццяна НЯТБАЕВА**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Рэстаўруецца Камянецкая вежа

Сем вякоў над абшарамі палескіх лясоў і палёў велічна ўзвышаецца Камянецкая вежа. Сюды прыязджаюць сотні экскурсантаў. Але час не шкадуе архітэктурны і гістарычны помнік. Таму прынята рашэнне аб рэстаўрацыі вежы. На сёння цалкам выкананы работы па рэстаўрацыі яе фасада. Зараз ідзе рамонт унутраных памяшканняў. Тут праз пэўны час размесціцца музейная экспазіцыя. Цалкам Камянецкая вежа будзе адрэстаўравана ў верасні бягучага года. Застаецца дадаць, што гэты гістарычны помнік абарончага дойлідства быў узведзены ў трынаццатым стагоддзі па загадзе Валынскага князя Уладзіміра Васількавіча. Таму каштоўнасць Камянецкай вежы пераацаніць цяжка.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Казачны пленэр

Гарвыканкам распрацаваў і зацвердзіў комплексную праграму добраўпарадкавання і паляпшэння эстэтычнага выгляду Гомеля. Летась тут адбыўся міжнародны пленэр скульптараў, кампазіцыі якіх упрыгожылі цэнтральную частку абласнога цэнтра. Для далейшага ўдасканалення эстэтычнага стану гарадской прасторы і развіцця творчых сувязей паміж мастакамі Гомельшчыны і рэспублікі гарвыканкам і абласная арганізацыя Саюза мастакоў прынялі рашэнне аб правядзенні ў чэрвені пленэру скульптараў у дрэве "Персанажы казачных герояў". Работы майстроў будуць устаноўлены ў гомельскіх парках і скверах.

## У госці да Мележа

На радзіме Івана Мележа (вёска Глінішча Хойніцкага раёна) пабывау настаўніцкі калектыў Гомельскай беларуска-славянскай гімназіі № 36, якая носіць імя народнага пісьменніка. Педагогі ўсклалі кветкі да помніка Мележу, наведалі мясцовы музей і перадалі яму ў дар літаратурны альманах, напісаны гімназістамі, а мясцовым дзецям — сабраную бібліятэчку. Затым перад вяскоўцамі ў сельскім Доме культуры выступіў фальклорны гурт з гімназіі "Верасніца".

## Поспех "Мэтра"

У Рагачове вельмі папулярны тэатр "Мэтр". Аснова творчага калектыву — рабочая моладзь. Тэатр прыняў удзел у нядаўнім міжнародным фестывалі тэатральных мініяцюр "Шумны балаган-2001", які праходзіў у Бранску. Рагачоўскі калектыў заняў там першае месца. А артыстка "Мэтра" Ірына Кулухіна прызнана пераможцай у намінацыі "лепшая жаночая роля".

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МІНШЧЫНА*

## Тэатр яго жыцця

16 сакавіка ў Беларускай акадэміі мастацтваў адбылася прэзентацыя дакументальнага фільма "Тэатр". Фільм быў зняты да 20-годдзя існавання творчай лабараторыі Ежы Гратоўскага. Імя польскага рэжысёра ўваходзіць у дваццатку лепшых рэжысёраў XX ст. разам з Станіслаўскім, Мейерхольдам, Брэхтам. Аднак у нашай краіне яно было забаронена да канца 70-х.

Е. Гратоўскі — уладальнік шматлікіх ганаровых званняў, стваральнік аднаго з самых знакамітых спектакляў сучаснасці "Апакаліпсіс у вобразах". Ён увайшоў у гісторыю тэатразнаўства як стваральнік знакамітага тэатра-лабараторыі. Гратоўскі стварыў сваю сістэму ўзаемадзеяння акцёраў і гледачоў. Актор у працэсе ігры прыносіць у ахвяру свой папярэдні вопыт. Выкананне ролі становіцца своеасаблівай споведдзю. У такім тэатры мяняецца функцыя гледача: ён прымае гэту споведзь, і сам непасрэдна ўдзельнічае у спектаклі.

Дакументальная стужка польскага тэлебачання змяшчае запісы маналогаў самога Е. Гратоўскага, успаміны акцёраў які работалі разам з ім, а таксама фрагменты спектакляў.

**Людміла ГУРМАН**

**ЧАСАПІС**

## Множыў дабро, сцвярджаў праўду

**Аўтары ўступнага артыкула да пасмяротна выдадзенай кнігі Сяргея Гусака "Пафас праўды" вядомыя літаратуразнаўцы Ю. Пшыркоў і У. Калеснік дакладна сказалі пра яе аўтара: "Зоркай-знічкай прайшло яго жыццё на беларускім літаратурным небасхіле". Сапраўды, у галіне крытыкі і літаратуразнаўства С. Гусак працаваў няпоўных дзесяць гадоў. За гэты час апублікаваў звыш сарака артыкулаў, выдаў манаграфію "Аляксей Кулакоўскі: Крытыка-біяграфічны нарыс".**

**Нарадзіўся С. Гусак 2 красавіка 1930 года ў вёсцы Іванкаўшчына Мазырскага раёна. Старанна вучыўся ў пачатковай школе ў роднай вёсцы, затым у Мялешкавіцкай сямігодцы і Мазырскай сярэдняй школе. У 1950 годзе стаў студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кіраўнік спецсемінара па беларускай літаратуры Ю. Пшыркоў пазней успамінаў, што падчас працы ва універсітэце яго ўразіла арыгінальная і не па гадах сур'ёзная праца студэнта С. Гусака пра палескія аповесці Я. Коласа. Апошнія два гады вучобы ва універсітэце ён спалучаў з працай у рэдакцыі газеты "Калгасная праўда".**

**Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, непрацяглы час выкладаў беларускую, рускую мову і літаратуру ў Жалудоцкай сярэдняй школе на Гродзеншчыне. У 1956 годзе пераехаў на Берасцейскае Палессе. Спачатку выкладаў родную мову і літаратуру ў Волчынскай, а затым быў завучам Малазводскай сярэдняй школы Высокаўскага раёна. У 1958 годзе Сяргей Адамавіч узначаліў Высокаўскі раённы аддзел народнай асветы. На гэтай пасадзе добра выявіліся яго здольнасці педагога-арганізатара.**

**Аднак неўзабаве ўзялі верх навуковыя схільнасці: С. Гусак становіцца аспірантам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння аспірантуры быў старшым навуковым супрацоўнікам Навукова-даследчага інстытута педагогікі, начальнікам вучэбна-метадычнага аддзела Міністэрства асветы БССР. У 1965 годзе перайшоў у Беларускі дзяржаўны універсітэт, стаў намеснікам дэкана філалагічнага факультэта.**

**Талент С. Гусака як педагога-арганізатара зноў спатрэбіўся, калі ў 1968 яго прызначылі рэктарам Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута. Ветэраны гэтай вышэйшай навучальнай установы, якая пазней стала універсітэтам, помняць, з якім энтузіязмам і энергіяй узяўся Сяргей Адамавіч за ўсталяванне здаровага маральнага клімату ў калектыве, за павышэнне эфектыўнасці вучэбнай, выхаваўчай і навуковай працы. Уласнай працай падаваў усім прыклад. Яго смерць 20 снежня 1969 была нечаканай. І для яго сяброў, і для калег па працы. У тыя жалобныя дні А. Лойка ў вершы "Памяці Сяргея Гусака" пісаў:**

*І я памёр, якім я быў*
*Табою акрылён,*
*Якім мяне ты акрыліў*
*У выраі тых дзён...*

**Светлую памяць пакінуў Сяргей Адамавіч пра сябе ў сэрцах тых, хто вучыўся, працаваў з ім. А чытачам — свае творы. Манаграфія "Аляксей Кулакоўскі" — не толькі літаратурна-творчы партрэт вядомага пісьменніка. У ёй акрэсліваецца адзін са стылявых кірункаў нашай літаратуры, звязаны з мастацкім адлюстраваннем вясковага жыцця. С. Гусаку імпанавала, што А. Кулакоўскі праўдзіва паказваў не жыццё ідэямі, як гэта часта рабілася ў савецкія часы, а, наадварот, ідэі жыццём. Такі падыход у разуменні суадносін жыццёвай і мастацкай праўды быў характэрны і для самога С. Гусака як даследчыка літаратуры. Гэта асабліва ярка выявілася ў артыкулах, што склалі змест кнігі "Пафас праўды". Яе аўтар тонка, прафесійна-дасканала прааналізаваў творы І. Шамякіна, Я. Брыля, І. Навуменкі і інш. Сваё важкае слова ён сказаў пра "Палескую хроніку" І. Мележа. Даследчыку ўдалося выявіць унутраную сувязь паміж творамі беларускай прозы 20—30-х гадоў і гэтым этапным творам нашай нацыянальнай літаратуры.**

**Навуковыя працы Сяргея Адамавіча пісаліся ў далёкія 60-я гады. У іх знайшлі выяўленне літаратурна-мастацкія ідэі таго часу. Але змест артыкулаў удумлівага крытыка і літаратуразнаўцы не вычэрпваецца імі. Ён глядзеў на праблемы літаратурнага развіцця з улікам папярэдняга мастацкага вопыту, ішоў ад рэальнага стану літаратуры і літаратуразнаўчай навукі свайго часу, імкнуўся вызначыць перспектыўныя лініі іх развіцця. Многія выказванні С. Гусаком навуковыя палажэнні не страцілі свайго значэння і сёння. Яны знаходзяць развіццё ў працах сучасных даследчыкаў беларускай прозы.**

**Аляксей МАЙСЕЙЧЫК,**
**прафесар, загадчык кафедры беларускаага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна**

*САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ*

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Пра літаратуру, пра рынак, пра нашу ганьбу і пра "Што ж нам рабіць, браточкі?"

У канцы мінулага года ў газеце "Народная воля" паявілася досыць-такі сенсацыйная публікацыя: "Белорусский писатель замахнулся на Букера" (для недасведчаных патлумачу — г. зн. на адну з недзяржаўных літаратурных прэмій Расіі). Невялікую размову карэспандэнта газеты з прэтэндэнтам на "Букера" І. Тумашам падсумаваў пісьменнік В. Юрчук: "Белорусский писатель напомнил Москве и Европе о том, что еще жива белорусская литература, что она тоже имеет право и на "Букера", и на "Нобеля"..."

"Здорава! — прамільгнула тады ў маіх думках радасць. — Здорава!" І сапраўды: а чаму беларускай літаратуры не ўганараваца гэтай прэстыжнай прэміяй? Ды нават і той жа Нобелеўскай?.. Бо ўжо трохі і крыўдна, што ніякай міжнароднай узнагародай неадзначаны многія выдатныя мастакі беларускага слова, чыя творчасць належыць да літаратуры вельмі высокага класа. Так, вельмі высокага, і толькі тыя, што яе не чытаюць і не ведаюць, дазваляюць сабе гаварыць пра яе абы-што.

Наконт гэтага "абы-што" і хочацца трохі паразважаць.

Ва ўспомненым інтэрв'ю шаноўнага прэтэндэнта на "Букера" заяўлена: "белорусские писатели просто не уверены в своих силах. И вообще, белорусская литература, к сожалению, не выдержала испытания рынком". Вось так, аказваецца. Не вытрымала выпрабавання рынкам! Кніжным, вядома. Такая бяздарная гэтая "тутэйшая", беларуская літаратура, што не сканкуравала з геніяльнай і проста таленавітай небеларускай — і ганебна правалілася. Літаратуру твораць канкрэтныя людзі, пісьменнікі. Дык цікава, хто ж і з кім не сканкураваў? Ага! Ну, ясна. Я так і думаў. Васіль Быкаў, Янка Брыль і Іван Пташнікаў не вытрымалі творчай канкурэнцыі з Міхаілам Пэцкалем, Гаўрыілам Квэцкалем і Даніілам Вэдзгалем.

Ах, панове, панове! Ну хоць бы трошкі сур'ёзней! Хоць бы трошку не так развязна! А то і чытаць няёмка.

Паслухайце, шаноўныя. А хіба мастацкая літаратура ўступае ў канкурэнцыю з пэцканнем, квэцканнем і вэдзганнем? Хіба літаратура спаборнічае з "нелітаратурай"?.. І што трэба мець на ўвазе ў заяве "не вытрымала выпрабавання рынкам"? Што на кнігі Я. Брыля, В. Быкава, І.Пташнікава і многіх іншых сапраўдных мастакоў слова няма на кніжным рынку попыту? Што яны не разыходзяцца? Ляжаць у кнігарнях навалам? Пакажыце ў такім разе пальчыкам — дзе? Як той казаў, я схаджу і набуду, куплю. Рэч, аднак, у тым, што няма такой літаратуры ў продажы, панове, няма! Чытачы пытаюцца, шукаюць, з ног збіваюцца, а яе няма. Яна або зусім не выходзіць у свет, або мільгне так рэдка, што і не ўгледзіш. А навалам на кніжных прылаўках ляжыць літаратурнае пэцканне, шаноўныя, пэцканне — пошлае, вульгарнае і, прабачце, паскуднае пэцканне! За штабялямі гэтага пэцкання знайсці беларускую кніжку — калі нават яна і выдадзена (накладам 100-200 асобнікаў) — нялёгка. Яе і раней, пры бальшавіцкіх уладах, засоўвалі ў кнігарнях у цёмны куток, на самую ніжнюю — на ўзроўні чаравікаў і галёш — паліцу, каб не сагнуўшыся і не ўбачыць... О, колькі за жыццё давялося наглядзецца на гэту патрыятычную павагу і любоў да роднай беларускай кнігі! А колькі пра гэта — смела і нясмела — гаварылася на пісьменніцкіх форумах! Нават колькі пісалася — смела і нясмела — на старонках "ЛіМа". Але тое гаротнае становішча беларускай кнігі не параўнаць з сённяшнім. Сёння яна — няшчасная ахвяра культурнай аўтаноміі, ды яшчэ і кволенькай.

І вось — чарговы безапеляцыйны прысуд: беларуская літаратура не вытрымала выпрабавання рынкам. Уяўляеце, паважаны чытач? Уся нацыянальная літаратура на сваім жа нацыянальным рынку не вытрымала выпрабавання! Ганьба ёй, нікчэмнай — і толькі! Ганьба Васілю Быкаву, Янку Брылю, Івану Пташнікаву, Вячаславу Адамчыку, Анатолю Кудраўцу, Віктару Казько, Алесю Жуку, Віктару Карамазаву, Генрыху Далідовічу, Вользе Іпатавай, Валянціне Коўтун, Міколу Кусянкову, Уладзіміру Арлову, Андрэю Федарэнку і многім іншым беларускім празаікам! Ганьба! Не сканкуравалі! Пабітыя рынкам, падтулілі хвасты і паніклі, недарэкі. Дзе ўжо тут думаць пра нейкую міжнародную прэмію!.. Ганьба Анатолю Вярцінскаму, Васілю Зуёнку, Рыгору Барадуліну, Янку Сіпакову, Генадзю Бураўкіну, Сяргею Законнікаву, Алесю Разанаву, Ніне Мацяш, Мар'яну Дуксу, Алесю Пісьмянкову, Алесю Каско, Алесю Чобату і многім іншым беларускім паэтам! Ганьба! Пацярпелі на кніжным рынку катастрафічны крах. Ганьба драматургам Аляксею Дудараву, Міколу Матукоўскаму і Алесю Петрашкевічу, перакладчыку Васілю Сёмуху, літаратуразнаўцам і крытыкам Уладзіміру Конану, Арсеню Лісу, Аляксею Пяткевічу, Анатолю Клышку, Генадзю Шупеньку, Генадзю Кісялёву, Віктару Каваленку, Міхасю Мушынскаму, Міхасю Тычыну, Уладзіміру Гніламёдаву, Адаму Мальдзісу, Алегу Лойку, Вячаславу Рагойшу, Язэпу Янушкевічу і многім іншым!

Дарэчы, нядаўна адна пісьменніца так і выказалася публічна: мы не хочам, каб ганьба "кучкі адшчапенцаў" лягла на ўсю пісьменніцкую арганізацыю. Адшчапенцы — гэта Быкаў і многія з названых вышэй пісьменнікаў. Госпадзе Усемагутны, абераж Рабу Божую і не дапусці,каб ганьба Быкава на яе звалілася! Хай ужо сваю ганьбу ён нясе сам. А то гэтая ваяўнічая пані не толькі міжнародную, а і больш сціплую айчынную прэмію не атрымае.

Дык што ж нам, ганебна пабітым рынкам, рабіць? Можа, насуперак прысуду, яшчэ трохі паднатужыцца ўсё-такі і паспрабаваць напісаць нешта новае? А раптам? Га, браточкі? А раптам ды што-небудзь дадзім на ўзроўні Пэцкаля, Квэцкаля і Вэдзгаля? І кан'юнктура памяняецца? І рынак трохупатроху стане наш? Заваюем? Га?.. Бо неяк не хочацца верыць, што на кніжных прылаўках у Беларусі будзе вечна свяціцца наша беларуская ганьба.

РОЗГАЛАС

***Артыкул У. Конана "Беларусь на мяжы тысячагоддзяў" зноў агаляе старыя беларускія раны і сведчыць пра чарговую хвалю цікавасці да адраджэння. Нягледзячы на новыя гістарычныя спасылкі, яркія прыклады і параўнанні, артыкулу, здаецца, бракуе прынцыпова новых ідэй, хаця ўсё выказанае аўтарам, бадай, гэтак жа актуальна як і 10 год таму. Стала ўжо традыцыяй, што ледзь не кожны нованавернуты беларус, хай то школьнік або старшыня парламента, праходзіць адзін і той жа шлях духоўна-гістарычнага самапрасвятлення, а свае штудыі і "адкрыцці" выкладае на паперы. Такім шляхам прайшоў і я, таму магу засведчыць, што падобнае "графаманства" не толькі нясе турботы рэдактарам, але і пэўную карысць самім "графаманам" і грамадству ў цэлым. У наш час гэта ці не самы грунтоўны і дзейсны сродак нацыянальнай асветы.***

Але стаяць на месцы нават у справе асветы і самаадукацыі непажадана. Унутраныя абставіны і свет вакол нас за 10 год істотна змяніліся. А вось ці змяніліся мы? Калі змяніліся, то далёка не ўсе і зусім не так, як хацелася б. Як і раней мы — беларусы — застаёмся на мяжы: на мяжы Еўропы і Азіі, Поўначы і Поўдня, заходняга і ўсходняга хрысціянства, дэмакратыі і таталітарызму, веры і бязвер'я, а зараз яшчэ і на мяжы стагоддзяў. Прычым гэтыя межы праходзяць праз душу і сэрца беларуса, разбураюць нацыянальны падмурак.

Можа, беларускі ДОМ трэба будаваць на "сваях", ці па якіх больш сучасных тэхналогіях? Відавочна, што занадта вялікі ўхіл у адзін бок (напрыклад, на ўсход) пагражае поўнасцю забурыць нашу недабудаваную хату. Пэўна, беларусам наканавана яшчэ доўгі час балансаваць між розных уплываў у супраць аднае моцнае "цягі" знаходзіць адпаведную "процівагу". Звалі нас "людзямі на балоце" і "на нафтавай трубе", але самае галоўнае, што мы — людзі на мяжы, якая совяецца тудысюды, а мы сядзім і толькі лыпаем вачыма. І не імперыі тут вінаватыя, а мы самі, што не стварылі сваю. Але гэта справы мінулыя, сёння імперыі не ў модзе, бо дужа нерэнтабельныя. Ганьбіць іх справа мо і прыемная, аднак не вельмі плённая. Тым больш, што ў тым ці іншым выглядзе яны будуць існаваць, бо рэч гэта такая ж непазбежная як нацыі і дзяржавы. Хіба што імперыі "духоўныя" — з'явы цалкам нерэальныя, бо дух заўсёды вольны і непадуладны дыктату іерархіі.

Немэтазгоднымі мне здаюцца і пастаянныя чорныя прароцтвы ў дачыненні нашай усходняй суседкі: хай нават Расея не захаваецца як маналітна-бюракратычная дзяржава (урэшце гэта таксама натуральны ход гісторыі), але не варта занадта зласлівіць і лішні раз наступаць расейцам на балючае месца, гэта можа адазвацца і нам. Лепш звярнуць увагу на свае хваробы, якіх больш чым дастаткова. Сярод іншых я б назваў залішнюю рэтраспектыўнасць і нават рэтраградаснасць беларускіх эліт. Гаворка ідзе не толькі пра сённяшніх уладатрымальнікаў, але і нацыянальна свядомых, адукаваных дзеячаў. Напрыклад, сп. Конан абураецца "фельетонным стылем", быццам бы характэрным для сённяшняй культуры. Але ж фельетоны даўно ўжо вялікая рэдкасць, і тое, што сёння пануе мас-медыя, я б назваў эклектычна-кліпавым ці шоу-рэкламным стылем. І няма чаго тут наракаць на паніжэнне ўзроўню масавай культуры, бо таму ёсць важкія аб'ектыўныя падставы, і каму як не філосафу іх ведаць. Існуе сёння, як і 100 год назад прафесійная навука, элітарнае мастацтва і высокая літаратура, у якіх, праўда, разбіраецца вузкае кола спецыялістаў, знаўцаў і эстэтаў. А вось тыя фельетоны, ток-шоу, конкурсы, гульні, пародыі ды іншая "мешанка" і ёсць спосаб данесці да масавага спажыўца завумна-элітарныя ідэі ў лёгкім, даступным выглядзе. Колькасць інфармацыі ў сотні і тысячы разоў большая, чым у часы Германа Гесэ, вымушае надаваць ёй новыя формы і якасці — сцісласць, відовішчнасць, займальнасць, універсальнасць. І калі мы таксама хочам данесці свае думкі і меркаванні да шырокага кола людзей, то мусім вучыцца гэтаму эклектычнаму стылю. Калі сёння пачаць пісаць у вычварна-барочным стылі, то мала хто дачытае і першы сказ, калі ў пафасна-класічным — не адолее і першага абзаца, калі ў гратэскна-фельетонным — не дабярэцца і да сярэдзіны, а калі ў афарыстычна-правакацыйным — то, можа, дойдзе і да канца. А лепш нават у стылі "рэп" — з рытмамі, акордамі ды відэашэрагам. Тэорыю беларускага этнагенезу такім чынам будзе выкласці цяжкавата, аднак ёсць яшчэ і гісторыя літаратуры 19 ст., і эстэтыкі сярэдзіны 20 і г. д.

Адным словам, каб выжыць, беларушчына мусіць не толькі ісці ў нагу з часам, але нават крыху апярэджваць яго. А перакоўваючы "дзіды і мячы" на "сярпы і плугі", далей калгаса не заедзеш. Як мінімум іх трэба пераплаўляць у "калькулятары і камп'ютэры". Справа хіба што за "кавалямі" — ці шмат у нас такіх спецыялістаў? А гэта ўжо пытанне да кожнага з чытачоў, каму менш за 40 год: ці гатовы вы перайсці "мяжу" і працаваць па стандартах 21 ст.? Спяшайцеся, спадарства, часу амаль няма... Вось такі атрымліваецца "фельетон". Хаця, можа, і не фельетон. Урэшце, якая розніца, як яго назваць — галоўнае, каб яно дыхала і варушылася. А Беларусь — будзе жыць і жыць будзе вечна.

**В. АЎРАМЕНКА**

Леанід ГУЛЯКА:

# “Культура, па вялікім рахунку, — гэта культура ўзаемаадносін паміж людзьмі”

## МІНІСТР КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Леанід ГУЛЯКА АДКАЗВАЕ НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА

**— Леанід Паўлавіч, зважаючы на тое, што вы нядаўна занялі гэтую пасаду, першае пытанне мусіць быць, напэўна, такім прыкладна: як вы пачуваецеся на новым месцы? Наколькі яно новае для вас? Патрэбны вам быў так званы ўваходны, азнаямленчы перыяд ці ўзвалілі, выбачайце, на сябе ярэмца міністра з ходу?**

— Пытанне гэтае цікавае. Я прыйшоў працаваць у апарат Міністэрства культуры, у якасці інспектара ўпраўлення культасветустаноў, ажно ў 1971 годзе. І ўсе гэтыя трыццаць, можна ўжо так сказаць, гадоў ад культуры не адрываўся, у тым ліку і тады, калі працаваў у Савеце Міністраў. Тры гады быў намеснікам міністра культуры і друку. Апошнім часам, працуючы начальнікам Упраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі Савета Міністраў, пытаннямі культуры займаўся практычна штодзённа, што могуць пацвердзіць кіраўнікі тэатраў, канцэртных арганізацый, старшыні творчых саюзаў. Таму лічу, што прыйшоў у тое міністэрства, дзе так званага перыяду ўваходжання ў справы мне не спатрэбілася. Тым не менш, не скажу, што ўжо ўсё чыста мне вядома і знаёма, што я ўжо ўхапіў, як кажуць, Бога за бараду і адно застаецца — кіраваць. Трапіў я ў сітуацыю досыць складаную. Не паспеў папрацаваць на новым месцы й тыдня, як трэба было рыхтавацца і выязджаць для правядзення Дзён культуры Беларусі ў Маскве і іншых гарадах Расійскай Федэрацыі. Справа была сур'ёзная і адказная: больш за 400 чалавек выязджалі на сцэнічныя пляцоўкі Расіі. А затым адразу ж — падрыхтоўка да нарады, якая адбылася 1 лютага з удзелам Прэзідэнта краіны. Напярэдадні трэба было правесці шмат сустрэч з кіраўнікамі рэспубліканскіх арганізацый і ўстаноў, з работнікамі сферы культуры і мастацтва, з творцамі самага рознага рангу і профілю, дзе вялася вельмі канкрэтная і сур'ёзная гаворка. Усе разумныя прапановы ўвайшлі ў план дзейнасці Міністэрства культуры. Няхай сабе гэты план мы зацвердзілі трошкі пазней, у пачатку сакавіка, пасля нарады, але затое я з поўнай упэўненасцю магу сказаць, што гэта — сапраўдны план работы апарату міністэрства.

**— Як жывецца сёння культуры, Леанід Паўлавіч? Маецца, вядома, на ўвазе ўсё тое, што вы курыруеце. Чаму пытаюся найперш пра гэта? Бо, мяркуючы па тых ці іншых вонкавых праявах, па шматлікіх фестывалях, аглядах, конкурсах, прэм'ерах, выставах і іншых імпрэзах, — культура нібы працвітае. А як яно на самай справе, спадар міністр?**

— Зноў хачу звярнуцца да нарады па пытаннях культуры, якая адбылася з удзелам Прэзідэнта. Мы ўжо атрымалі пратакол даручэнняў Прэзідэнта. Паверце мне, як чыноўніку з пэўным вопытам работы: такія пратаколы, з такімі падыходамі — гэта падарунак для кіраўніцтва міністэрства. Прэзідэнцкія даручэнні акрэсліваюць вырашэнне многіх пытанняў, найперш у тых інстанцыях, куды без гэтых высокіх даручэнняў уваходзіць было б надзвычай цяжка. Гэта па-першае. Па-другое, усё тое, што было падрыхтавана і прапанавана міністэрствам, амаль на сто працэнтаў увайшло ў выхадны дакумент. Гэта нас радуе, гэта сведчыць аб аднолькавых падыходах кіраўніцтва краіны да запатрабаванняў сферы культуры. А пытанняў і праблем тут нямала. Пра сёе-тое гавораць і вонкавыя праявы, як вы кажаце. Фестываляў, аглядаў і г. д. праводзіцца шмат. Мы ставім задачу, каб іх было яшчэ больш, прынамсі, не менш, чым раней, нават больш, але галоўнае — каб іх мастацкі ўзровень не пагоршаў, не паніжаўся. Мы тут практыкуем канцэнтрацыю сродкаў міністэрства і мясцовых улад. Што маецца на ўвазе? Скажам, запрашаем нейкі мастацкі калектыў на сталічную сцэну. Міністэрства бярэ на сябе выдаткі на гасцініцу, харчаванне, а праезд і некаторыя іншыя выдаткі — за кошт мясцовых улад. Такі вопыт спалучэння сродкаў у нас ёсць з Магілёўскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцямі.

З другога боку, мы не павінны ператварацца ў міністэрства сталічных мерапрыемстваў. На жаль, такі ўхіл сяды-тады праглядваецца. Мы ставім задачу зняць гэтую праблему. Якім чынам? А хоць бы тым, што прыгадваем даўнейшы вопыт, памятаючы: не ўсё старое — благое. У кожнай вобласці мы бяром па два раёны, у якія паедуць творчыя калектывы высокага мастацкага ўзроўню, накшталт хору імя Цітовіча, аркестра Жыновіча, аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, ці тыя ж славутыя “Песняры”, акадэмічныя тэатры. Хай яны пабываюць у глыбінцы пад старой-новай назвай “Майстры мастацтваў — працаўнікам вёскі”. Гэта не наша вынаходніцтва, але ж гэта й не самае дрэннае з таго, што было. І калі мы скарыстаем дзеля гэтага і міністэрскія, і мясцовыя сродкі — гэта і будзе нейкім новым падыходам. А карысць — тая ж, ранейшая: прапаганда культуры і мастацтва, духоўны ўздым нашага народа. Важна, вядома, паказваць наша мастацтва за мяжой, аднак куды важней наталяць духоўную, мастацкую прагу нашых людзей. І вельмі важна, каб і там, у глыбінцы, і мастацкія калектывы, і асобныя творцы не зніжалі якасці сваіх выступленняў, захоўвалі, як кажуць, узровень.

**— І яшчэ адно свайго роду ўводнае пытанне. Культура наогул, як філасофскае паняцце, і культура ў тым значэнні, якое заключана ў назове вашага і нашага міністэрства — якая між імі повязь? Прынамсі, між імі няма відочнага падзелу?**

— Лічу, што ніякага падзелу няма. Назва Міністэрства культуры павінна адпавядаць таму, чым яно займаецца на самай справе. З другога боку, калі мы гаворым культура, дык, безумоўна, маем на ўвазе і нешта большае. Сёння няма ніводнай галіны народнай гаспадаркі, ніводнага накірунку жыцця і дзейнасці чалавека, з якімі б не стасавалася, з якімі б не судакраналася паняцце культура. Культуру ўзаемаадносін можна не лічыць клопатам міністэрства? А можа, гэта самае галоўнае? Бо культура, па вялікім рахунку, — гэта культура ўзаемаадносін паміж людзьмі. Аддзяляць адно ад другога складана і наўрад ці трэба. Само сабою, культура — гэта не чыноўнічы апарат Міністэрства культуры, а культура нашых людзей у самым шырокім значэнні гэтага слова. І калі сваю нішу мы знойдзем, а я лічу, што мы знаходзім яе, то тады і падзелу такога рабіць не трэба.

**— Леанід Паўлавіч, які сёння матэрыяльны стан асяродкаў культуры — бібліятэк, музеяў, тэатраў, выставачных залаў і галерэй, эстрадна-філарманічных калектываў, клубаў і дамоў культуры? Мы здолелі зберагчы ўсё гэта ці, як у Расіі, да прыкладу, многія з іх зачыніліся, разваліліся, распаліся, зліквідаваліся?**

— Адназначна — здолелі зберагчы. Прэзідэнт нашай краіны ў сваім выступленні на нарадзе (я буду вяртацца да яе, напэўна, неаднойчы) падкрэсліў, што трэба берагчы тое, што захавалі, тое, што маем. Калі разваліваліся, не маглі ўтрымлівацца калгасныя клубы, прафсаюзныя дамы культуры і бібліятэкі, іх узялі на мясцовы бюджэт. Там жа, дзе няма пільнай неабходнасці, каб існавалі, як раней, асобна бібліятэка і клуб, іх аб'ядналі, што не паўплывала адмоўна на культурнае абслугоўванне насельніцтва, аднак жа дазволіла захаваць і матэрыяльную базу, і падкарэкціраваць фінансавыя магчымасці. Яны, вядома, не раскашуюць — а хто сёння раскашуе? — але ж існуюць, працуюць і робяць сваю добрую справу. Што да стану спраў нашых канцэртных арганізацый, тэатраў, дык, зноў жа, яны жывуць і працуюць. Сёння ў нашых вядучых драматычных тэатрах колькасць новых пастановак (а гэта паказчык фінансавання іх з боку дзяржавы) не зменшылася. Зусім нядаўна на калегіі мы абмяркоўвалі пытанне святкавання 75-годдзя аднаго са старэйшых нашых тэатраў — Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Мы зацвердзілі ажно пяць новых пастановак. Пагадзіцеся, што гэта нямала. Што да фінансавання культуры з дзяржаўнага бюджэту наогул, дык, паводле закона, у нашу сферу павінна ўкладацца 3 працэнты ад даходнай часткі бюджэту. Па выніках мінулага года гэтая лічба была ў межах 1,7—1,75 працэнта, сёлета павінна паднясцца да 1,95 працэнта. Але я павінен вам сказаць, што гэта нямала. Міністру мо й не трэба было б гэтак гаварыць, але ўсё, як кажуць, бачыцца ў параўнанні. Ну, напрыклад, той жа Мікалай Губенка, які прысутнічаў на нашай нарадзе, сказаў, што ў Расійскай Федэрацыі на культуру на 2001 год выдзелена з бюджэту 0,49 працэнта. Гэта па-першае. Па-другое, давайце паглядзім на тое, якім чынам фінансуюцца нашы драматычныя, лялечныя, музычныя тэатры. Яны датуюцца з дзяржаўнага бюджэту не менш як на 85—98 працэнтаў. Я не хачу сказаць, што мы тут паперадзе ўсёй Еўропы, але й назваць іншую дзяржаву, дзе б з бюджэту выдзяляліся б такія сродкі на ўтрыманне тэатраў, нялёгка. Пры ўсім гэтым нельга сказаць, што нашы тэатры жывуць багата і ў іх няма праблем і складанасцяў. Тым не менш, сёння кіраўніцтва тэатраў не ведае клопатаў з выплатай зарплаты, з аплатай камунальных паслуг і г. д. — гэта гарантавана бюджэтнымі асігнаваннямі. Возьмем кінастудыю “Беларусьфільм”. Яна ў нас гаспадарча-разліковая арганізацыя. Тым не менш, за кошт таго, што міністэрства ўвесь час робіць ёй дзяржаўныя заказы на стварэнне кінастужак — мастацкіх, мультыплікацыйных і іншых, яна атрымала летась 98,2 працэнта сродкаў на сваё ўтрыманне. Нярэдка можна пачуць, што вельмі ўжо,



маўляў, абяздоленыя нашы артысты, што занадта жабрачыя ў іх зарплаты. Я гэтак не лічу. Вядома, не ўсё так добра, як хацелася б, але зноў жа, у параўнанні з тым, што робіцца ў суседзяў, мы выглядаем не самым горшым чынам. Жывём мы гэтак, як можам сабе дазволіць. А пабагацее краіна, пабагацее і сфера культуры. Мы верым у гэта.

**— Леанід Паўлавіч, а як папаўняюцца сёння фонды нашых бібліятэк? Ці трапляе ў іх беларуская кніжка, якая стала рэдкай госцяй у планах нашых выдавецтваў — дзяржаўных і прыватных — і амаль не заўважаецца кнігагандлем? А газеты і часопісы? Мяркуючы па сённяшніх тыражах, многія з іх, у тым ліку і нашага “ЛіМа”, няма ў бібліятэках, у дамах і палацах культуры?**

— У вашым пытанні ёсць і адказ. Я сапраўды гатоў пагадзіцца, што з нашай беларускай кніжкай, і не толькі беларускай, у бібліятэках справа складаная, пачынаючы ад нашай Нацыянальнай бібліятэкі і канчаючы сельскімі, раённымі бібліятэкамі. Апошнім часам я быў у Нясвіжскім, Лепельскім і Клімавіцкім раёнах трох абласцей. Сапраўды, кніжная праблема існуе ўсюды. Але я зноў вярнуся да даручэнняў Прэзідэнта, да згаданага ўжо пратакола. У ім ёсць запіс: Дзяржкамдруку разам з Міністэрствам культуры займацца пытаннямі дзяржзаказу па выданні літаратуры, у тым ліку і для бібліятэк. Гэтае даручэнне вельмі важнае для нас, бо мы цяпер можам больш канкрэтна будаваць свае адносіны з Дзяржкамдрукам. Аднак гэта не здымае фінансавых пытанняў, бо каб атрымаць тую ці іншую кнігу, трэба мець сродкі.

У рамках Дзён культуры, пра якія я гаварыў ужо, мы ўпершыню правялі сумеснае пасяджэнне калегій нашага і расійскага міністэрстваў культуры. Дарэчы, на пасяджэнні прысутнічала пісьменніцкая дэлегацыя на чале з Вольгай Іпатавай. І там гаварылася, у прыватнасці, аб тым, каб і расійскія кнігі і часопісы маглі трапляць да нас па больш даступнай цане, чым зараз. Што да часопісаў і газет, дык сапраўды сёння не кожны чалавек дазволіць сабе выпісаць тыя з іх, якія б хацеў. Я, будучы ў Лепелі, быў здзіўлены, калі пачуў, што ў раённую бібліятэку патрапіць, бывае, немагчыма — людзі ідуць туды чытаць прэсу. Аказваецца, многае залежыць ад таго, хто і як умее працаваць. Лепельская раённая бібліятэка выпісвае больш чым 130 найменняў газет і часопісаў. Сродкі на гэта выкарыстоўваюцца не толькі бюджэтныя — даюць і мясцовыя ўлады, і мясцовыя прадпрыемствы і прадпрымальнікі.

**— Вернемся яшчэ раз да тэатраў. Працуюць яны стабільна, як і раней? Што сёння пераважае ў рэпертуары нашых тэатраў? Якое месца займае ў іх беларуская п'еса? Што новага прыўносіць у тэатральнае жыццё з'яўленне так званых незалежных тэатраў, труп і антрэпрыз? Як сёння ладзяцца гастролі — далёкія і блізкія?**

— Да таго, што гаварыў, дадам наступнае. Па тэатральных афішах можна ўбачыць, што адна з апошніх прэм'ер — “Барыс Гадуноў” у тэатры оперы. Зараз Елізар'еў працуе ў тэатры балета над “Спячай прыгажуняй”. У купалаўцаў мы парадаваліся “Князю Вітаўту”, а ўжо выйшла “Чорная панна Нясвіжа” таго ж Дударава — высокапрафесійны спектакль, які з годнасцю можа прадстаўляць наш першы Нацыянальны тэатр.

Наконт прэм'ер сёлетніх. Сярод іх будуць і спектаклі па п'есах беларускіх аўтараў, і паводле апрабаванай сусветнай класікі. Але хацелася б, каб сцэнічны вобраз спектакляў быў больш яскравы. Справа ў тым, што ва ўмовах абмежаваных фінансавых магчымасцей перш за ўсё цэрпіць мастацкае афармленне спектакляў. І калі нам часам не падабаюцца дэкарацыі, то гэта зусім не заўсёды віна мастака, а вынік недахопу сродкаў.

Недзяржаўным тэатрам ніхто не ставіць кіёў у колы, не забараняе і не перашкаджае ім працаваць. На жаль, у нас ёсць тэатры, якія хочуць лічыць сябе дзяржаўнымі ў сэнсе фінансавання, але не зусім дзяржаўнымі ў сэнсе рэпертуару, падыходаў да тых ці іншых жыццёвых рэалій і г. д. Сёння ў нас няма ніякай цэнзуры, няма ніякіх міністэрскіх камісій, якія б прымалі ці забаранялі гэтыя спектаклі, давалі б ім ацэнку, хоць раней гэта было і, трэба прызнаць, не самым горшым чынам выкарыстоўвалася. Але ж не можа такога быць, каб дзяржава фінансавала і не мела права пацікавіцца, што яна прафінансавала.

**— Міністэрства рэгулярна праводзіць конкурсы на напісанне п'ес для ўсіх тэатраў краіны — драматычных, лялечных, дзіцячых. Падводзяцца вынікі, аўтары атрымліваюць прэміі, а ці сказваюцца гэтыя вынікі на тэатральных афішах, ці ўплываюць на іх і якім чынам?**

— Мы ўжо і ў гэтым годзе падпісалі сумеснае рашэнне калегіі Міністэрства культуры і праўлення Саюза тэатральных дзеячаў аб нашых прэміях для заахвочвання аўтараў. Практыка апошніх гадоў паказвае, што яны з цікавасцю і адказнасцю ставяцца да ўдзелу ў конкурсах. Выпадковых людзей тут амаль не бывае. Вядома, нам хацелася б, каб тое, што трапляе ў лік пераможцаў, з'яўлялася на сцэнічных пляцоўках. На жаль, не заўсёды гэта атрымліваецца. І фінансавыя магчымасці не заўсёды знаходзяцца, і не кожны рэжысёр бярэцца за тое, што атрымала прэмію. Тут права рэжысёра-пастаноўшчыка, мастацкага кіраўніка тэатра і г. д. Трэба, можа быць, і глыбей прапрацоўваць некаторыя пытанні на стадыі абмеркавання і прыняцця рашэнняў.

**— Які лёс Маладзечанскага фестывалю беларускай песні і паэзіі? Сёлета ён зноў будзе праходзіць там, дзе нарадзіўся? Стане ён адным з галоўных нашых фестываляў?**

— Сярод нашых фестываляў, якія прыжыліся ўжо, мы паставілі задачу адрадзіць і Маладзечанскі фестываль беларускай песні і паэзіі. Ён будзе праходзіць тры дні ў чэрвені. Мы лічым, што ён павінен атрымацца, бо ў нас ёсць напрацоўкі таго, як ён павінен выглядаць, ёсць аргкамітэт, які працуе над падрыхтоўкай і правядзеннем гэтага фестывалю, ёсць дамоўленасць аб яго фінансаванні, якое будзе размяркоўвацца ў адпаведных суадносінах паміж Міністэрствам культуры, Мінскім аблвыканкамам і Маладзечанскім гарвыканкамам. Зноў падкрэслю гэты момант — фінансаванне з некалькіх крыніц. Зрэшты, мо гэта і не галоўнае. Што да Маладзечанскага фестывалю, дык мы, відаць, на нейкім этапе проста забыліся на яго сутнасць. А на гэта забываць нельга. Беларуская музыка, беларускае слова, беларуская песня павінны гучаць, бо ўсё гэта — наша, роднае, сваё.

**— У сувязі з Маладзечнам напрошваецца і пытанне пра Віцебск. Сёлета фестываль там юбілейны, — здаецца — дзесяты. У друку і па радыё прагучала, што ў ім прыме ўдзел каля 40 дзяржаў. Ну, а ці будзе калі-небудзь яго гаспадаром Беларусь? Калі ён стане працаваць найперш на Беларусь, на развіццё нашай музычнай культуры? А заадно — і пра лёс фестывалю “Магутны Божа” ў Магілёве. Улады, найперш мясцовыя, павернуцца калі-небудзь да яго тварам?**

— Пачну з апошняга. Фестываль “Магутны Божа” праводзіцца не першы год, ягоны мастацкі кіраўнік — маэстра Віктар Уладзіміравіч Роўда. Канешне ж, павінна быць зацікаўленасць Магілёўскага аблвыканкама. І калі ўзнікаюць якія-небудзь складанасці з правядзеннем гэтага фестывалю, дык вырашаць іх трэба ўсё ж там, у Магілёве, як кажуць, на месцы.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## І векавечны толькі край...



Ёсць кнігі, адкрыўшы першую старонку якіх цяжка адарвацца. Забываеш пра самыя, здавалася б, неадкладныя справы, каб толькі хутчэй даведацца пра тое, аб чым расказвае аўтар. У шэрагу падобных кніг, несумненна, і гэтая, што нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Полымя": "І векавечны толькі край..."

Імя яе аўтара Алеся Карлюкевіча знаёма па шматлікіх публікацыях і лімаўскаму чытачу. Яны ведаюць добра многія яго папярэднія кнігі "Вяртанне да... Беларусі", "За Цітаўкаю — Слабада", "Чаканне Айчыны" і іншыя. Гэтым разам А. Карлюкевіч запрашае да далейшага знаёмства з нашымі выдатнымі землякамі, многія з якіх незаслужана забыты. Згадкі пра выдатных людзей можна найперш знайсці ў раздзеле (сам аўтар пазначае яго як частку кнігі) "Далёкія і блізкія суродзічы". Для прыкладу некалькі імёнаў, якія, думаецца, зацікавяць многіх. Узяць хоць бы тыя, што прадстаўлены ў падборцы "Беларускія салаўі".

Героямі нарысаў, нататак А. Карлюкевіча сталі Анна Жарабцова ("Выдатная спявачка на стыку стагоддзяў"), "славутая артыстка Наталля Караф ("З роду Карафа-Корбутаў"), А. Альтшулер, які ўжо варты ўвагі хоць бы таму, што пачынаў сваю творчую біяграфію разам са знакамітым С. Дзягілевым ("Альтуці з сям'і полацкага рамесніка"), Вольга Бутома-Названава ("Камерная спявачка з Быхава"), Уладзімір Любімаў ("Антрэпрэнёр Леаніда Собінава і Фёдара Шаляпіна").

Адкрываецца ж кніга нарысам "Загадка Макрыны Мечыслаўскай", напісаным А. Карлюкевічам разам з Алесем Баркоўскім. Гэтая жанчына была добра знаёма з Адамам Міцкевічам, з ёй паэт сустракаўся ў Рыме і яны разам абмяркоўвалі магчымасць стварэння польскага легіёна ў Італіі. Звесткі, што захаваліся пра М. Мечыслаўскую, няпоўныя, у нечым супярэчлівыя, але яны падаюцца так, што выклікаюць на роздум, даюць мажлівасць яшчэ раз задумацца над тым, як мы слаба ведаем нацыянальную гісторыю і як шмат у ёй "белых плям", якіх можна пазбавіцца толькі намаганнямі многіх, у тым ліку і такімі, адраджэнска-настроенымі аўтарамі, як А. Карлюкевіч. А яшчэ ён цікавы тым, што не першы год, паслядоўна і мэтанакіравана, даследуе зямлю, на якой узгадаваўся. Вынікам такога па-сапраўднаму даследчыцкага пошуку сталі і матэрыялы, што склалі частку "Родная Пухавіцкая старонка". І гэтым разам А. Карлюкевіч знаёміць з некаторымі выдатнымі людзьмі, але адначасова яго памкненні больш шырокія. Чаго толькі варты артыкул "Тапанімічная біяграфія Пухаўшчыны", у якім гаворка ідзе не пра адзін дзесятак тамашніх назваў. Узняць такі пласт далёка не кожнаму па сіле, але калі ты па-сапраўднаму ўлюбёны ў зямлю маленства, як не ўзяцца за гэта. А. Карлюкевіч і ў дадзеным выпадку ды і ў іншым таксама працуе з той упэўненасцю, што займацца краязнаўствам абавязак кожнага нацыянальна сумленнага чалавека.

Клопатам аб тым, каб наша нацыянальная даўніна працавала на будучае, прасякнуты раздзел "З далёкіх і блізкіх вандровак". Гаворка ідзе пра старыя, найчасцей панскія сядзібы, пераважная большасць з якіх знаходзіцца ў запушчаным стане, а гэта ж таксама частка беларускай гісторыі, і што можа быць больш удзячнае, чым як мага хутчэйшае адраджэнне іх.

Увайшлі ў кнігу і "Дыялогі пра зямлю і Айчыну". Субяседнікамі А. Карлюкевіча з'яўляюцца вядомы мастак, цяпер парыжанін Барыс Забораў, пісьменнік, на жаль, ужо нябожчык Яраслаў Пархута; народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і іншыя. Дарэчы, аўтар узяў эпіграфам да сваёй кнігі адзін з вершаў Рыгора Іванавіча: "Радзімазнаўства — // Мудрая навука, // Яе адолець могуць дзівакі, // Якім з рукі // Ад сну прачнуць вякі..." Добра, калі ёсць на свеце такія дзівакі. Тады і з'яўляюцца вельмі патрэбныя кнігі, як і гэтая — "І векавечны толькі край..."

Міхась ГЕНЬКА

***Калі рускаму паэту Міхаілу Святлову доўга не выплачвалі ганарар за пераклад вершаў аднаго малдаўскага паэта, той пры сустрэчы прыгразіў аўтару, які і быў дырэктарам выдавецтва: "Я цябе назад на малдаўскую перакладу!"***

***Здараецца часам, што аўтар і сам прасіў бы перакладчыка: "Перакладзі мяне назад!" Добры пераклад — удача для любой літаратуры, а пераклад шэдэўра, роўны па вартасці арыгіналу, — выбітная падзея для ўсяго чалавецтва. Беларуская літаратура можа пахваліцца тут выдатнымі дасягненнямі. Але гаварыць, што ўсё гладка ў гэтай сферы, не выпадае. Праблем мноства, і якія балючыя! Нездарма на чарговую лімаўскую "гарбату", прысвечаную праблеме мастацкага перакладу, сабралася незвычайна шмат гасцей. На гэты раз яны нават не змясціліся на традыцыйную канапу. Дзе яшчэ пагутарыць, паспрачацца літаратарам, як не ў Доме літаратара? Вось і сабраліся за сталом пісьменніцкага дома госці ...Калі пералічваць мовы, з якіх яны перакладаюць, утворыцца карціна амаль усяго свету. Вольга ІПАТАВА, пісьменніца, якая выконвае абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, перакладала з рускай, украінскай, нямецкай моў. Міхась КЕНЬКА, літаратуразнаўца, даследчык мастацкага перакладу — з рускай, польскай, чэшскай, славацкай, украінскай. Сяржук МІНСКЕВІЧ, паэт, супрацоўнік часопіса "Першацвет"— з польскай, славенскай моў. Андрэй ДЫНЬКО, дырэктар часопіса "АРХЭ" і в.а. галоўнага рэдактара газеты "Наша Ніва" перакладае з многіх моў, у прыватнасці, французскай, італьянскай, англійскай. Паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей ЗАКОННІКАЎ — з украінскай, нямецкай, Уладзімір АНІСКОВІЧ, літаратурны крытык і перакладчык— з балгарскай і рускай, Андрэй ХАДАНОВІЧ, паэт, літаратуразнаўца і перакладчык — з французскай, польскай і ўкраінскай, Іван ЧАРОТА, літаратуразнаўца, старшыня секцыі перакладу Саюза беларускіх пісьменнікаў — з югаславянскіх моў, Васіль СЁМУХА, старэйшына беларускага перакладчыцкага цэху — з нямецкай, польскай, латышскай і англійскай моў. Галіна СКАКУН, перакладчыца Інстытута Гётэ — з нямецкай. Леанід КАЗЫРА, літаратуразнаўца, дацэнт лінгвістычнага ўніверсітэта — з французскай, англійскай, рускай моў. У гутарцы таксама бралі ўдзел фраў Беата КАХЛОВІУС (загадчыца бібліятэкі Інстытута Гётэ), намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ і пісьменніца, рэдактар аддзела крытыкі "ЛіМа", гаспадыня лімаўскай гасцёўні Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.***

ЗА ГАРБАТАЙ

# Каб не знікалі далягляды

**Людміла Рублеўская.** Няма такога пісьменніка, які б не выступаў хаця б эпізадычна ў якасці перакладчыка. Але ці можам мы казаць сёння пра існаванне на Беларусі школы мастацкага перакладу? Калі яна ёсць, якімі прынцыпамі кіруецца? І ці адна яна?

**Васіль Сёмуха.** Я б сказаў, што такая школа ёсць. Але напачатку трэба высветліць, што такое школа перакладу?

**Іван Чарота.** А ці шмат у нас літаратараў, якія лічаць сябе непасрэдна перакладчыкамі і не лічацца ў іншых літаратурных цэхах? Ці ёсць у нас "чыстыя" перакладчыкі літаратуры? Я ведаю толькі аднаго такога чалавека на Беларусі — гэта Васіль Сёмуха. А вось нават прызнаны ўсімі, аўтарытэтны перакладчык Язэп Семяжон, калі выступаў на літаратурных вечарынах, пачынаў з таго, што чытаў свае байкі. Ён прадстаўляўся не як перакладчык, а як аўтар арыгінальных твораў. У нас чамусьці створаны статус перакладчыка — як бы "недапісьменніка".

**Міхась Кенька.** Сапраўды, лічыцца, што аўтар арыгінальных твораў мае большую прастору для самавыяўлення, чым перакладчык.

**Сяргей Законнікаў.** Але той жа Васіль Сёмуха і ў савецкія часы ніколі не перакладаў таго, каго не хацеў. Таму што ён прафесіянал высокай пробы.

**В.Сёмуха.** Думаю, ёсць і іншыя перакладчыкі ў "чыстым выглядзе". Вось сядзіць Лявон Казыра. Хіба ён піша свае вершы?

**І. Чарота.** Але займацца літаратуразнаўствам — гэта таксама іншая сфера дзейнасці, творчасці. Часам, калі прадстаўляць літаратара шырэйшага дыяпазону творчасці менавіта як перакладчыка — дык ён і пакрыўдзіцца. У літаратарскім коле існуе нават такое іранічнае азначэнне — "перакрадчык".

**Андрэй Дынько.** Цяжка гаварыць пра мастацкі пераклад на Беларусі, калі ўласна вышэйшай школы перакладу на Беларусі няма. Вядома, што Мінскі лінгвістычны універсітэт, колішні Інстытут замежных моў, арганізаваны пасля другой сусветнай вайны з дапамогай расійскіх выкладчыкаў, адна з "самых рускамоўных" навучальных устаноў на Беларусі. Хаця Лінгвістычны універсітэт мае вельмі шчыльныя кантакты з Еўропай, што мусіла б спрыяць нацыяналізацыі. Вядома, колішнія ўлады не былі зацікаўленыя ў сувязях напрамую між Беларуссю і, напрыклад, Нямеччынай. Усе такія кантакты мусілі адбывацца праз пасрэдніцтва Масквы. Ды й цяпер — як казаць пра школу перакладу, калі дзяржава фундуе, мабыць, не больш адной перакладной кніжкі ў год? Няма спецыяльнага дзяржаўнага выдання, якое друкавала б пераклады з замежных моў на беларускую, затое ёсць выданне, якое друкуе пераклады з усіх моў на рускую — часопіс "Всемирная литература".

**І.Чарота.** Думаю, мы можам гаварыць не столькі пра школу перакладу, колькі пра існаванне асоб, якія самі ўвасабляюць працэс і набыткі перакладу і вакол якіх гуртуюцца маладзейшыя аматары гэтай справы.

**А.Дынько.** Адным з такіх асобаў якраз і з'яўляецца прысутны тут Васіль Сёмуха. Яго вучні — Лявон Баршчэўскі, Валерка Булгакаў, Андрэй Хадановіч... Прычым школа перакладу з нямецкай настолькі багатая, што кожны з названых перакладчыкаў ужо можа крытычна ставіцца да стылю другога.

**В.Сёмуха.** Але сёння я перакладаю збольшага ў шуфляду.

**А.Дынько.** Пераклад ёсць справай палітычнай. Пераклад з замежных моў на нацыянальную мову ўмацоўвае нацыянальную ідэнтычнасць. І нармальная школа перакладу ў нас з'явіцца тады, калі наша дзяржава будзе зацікаўленая ва ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці.

**Уладзімір Анісковіч.** Я асабіста лічу сябе вучнем Ніла Гілевіча, які таксама выгадаваў шмат перакладчыкаў і з'яўляецца майстрам перакладу са славянскіх моў. І не толькі я магу назвацца яго вучнем. Фактычна, Ніл Гілевіч увасабляе сабою таксама школу перакладу.

**М.Кенька.** Беларускі мастацкі пераклад знаходзіцца ва унікальных умовах. Ён, можа, адзіны ў свеце, які амаль што не выконваў многія гады сваю галоўную ролю — пазнавальную. Кожны беларус разумее рускую мову — а на яе перакладзена ўсё лепшае з сусветнай літаратуры. Вось і жывіцца наш чытач чужым багаццем. Гэта ўвайшло ў прывычку, не заўважалася нават. Я ўспамінаю свае дзіцячыя гады. Мы вывучалі ў школе нямецкую мову, але ні я, ні мае аднакласнікі не ўсведамлялі, чаму мы вучымся перакладаць з нямецкай мовы на рускую. Чаму ў нас нямецка-рускія падручнікі, нямецка-рускія слоўнікі. А мы ў Беларусі жывём, па-беларуску гаворым. Дык чаму б не мець нямецка-беларускіх? Але і сёння мы абкружаныя перакладной літаратурай на рускай мове. І нам гавораць: навошта нам Пушкін па-беларуску, навошта нам мець Бальзака на беларускай мове, калі ён ёсць на рускай? Функцыя сувязі з замежнымі культурамі ў нашай мовы значна аслабленая. Калі ў 1991 годзе паўстала беларуская дзяржаўнасць, беларуская мова была аб'яўленая дзяржаўнай, як тады ажывілася справа перакладу! Патрабаваліся хрэстаматыі па замежных літаратурах на беларускай мове, школьныя падручнікі на беларускай мове, творы сусветнай літаратуры, якія вывучаюцца ў школе і ВНУ, таксама трэба было перакладаць. Праіснавала некалькі гадоў гэтая раскоша, а пасля — двухмоўе... І зноў беларускі мастацкі пераклад незапатрабаваны. Зніклі альманахі "Далягляды", "Братэрства", серыя "Скарбы замежнай літаратуры". Хаця нешта і робіцца — часопіс "Полымя" выпускае тэматычныя нумары, прысвечаныя перакладной літаратуры. Выдавецтва "Беларускі кнігазбор" выдае добрыя кніжкі, сярод якіх ёсць і перакладныя.

**Сяржук Мінскевіч.** Каб існавала школа перакладу, для яе трэба падмурак — вывучэнне класічных моў. А ў нашым лінгвістычным універсітэце першы выпуск класічнага аддзялення адбыўся ў мінулым годзе. Мы не маем на беларускай мове старагрэцкай літаратуры, лацінскай... А першыя крокі перакладу пачынаюцца менавіта з лаціны. Ну, а хто ў нас перакладае з іўрыту?

**Вольга Іпатава.** Я ўспамінаю пра пераклад на беларускую мову "Новага Запавету" Анатоля Клышкі, які быў надрукаваны ў часопісе "Спадчына", дзе я была намеснікам галоўнага рэдактара. Каб надрукаваць гэты пераклад, я хадзіла неаднойчы ў ЦК партыі, і па паўтары гадзіны даказвала кожнаму чыноўніку, што Біблію трэба перакладаць, і яна можа быць надрукаваная ў свецкім выданні. Я згодна з думкай, што пакуль няма дзяржаўнай падтрымкі беларускага мастацкага перакладу, але мы павінны дзейнічаць у двух накірунках. Першае — дабівацца ад дзяржавы такой падтрымкі, а па-другое, я лічу, што нашай секцыі перакладчыкаў можна гуртавацца вакол некалькіх выданняў, якія маглі б сёння друкаваць пераклады. У свой час у газеце "Культура" мы разам з Валянцінам Акудовічам заснавалі дадатак "ЗНО", куточак для беларускіх інтэлектуалаў і перакладчыкаў. Вядома, прыходзілася гэтую справу "прабіваць". Пасля гэтую функцыю ўзяла на сябе "Крыніца". Але газета "Культура" магла б аднавіць старонку перакладу. Вельмі крыўдна было пачуць, што Васіль Сёмуха перакладае сёння ў шуфляду. Мне здаецца, што і "ЛіМ", і "Беларусь", і "Полымя", і "Маладосць" змаглі б даваць на сваіх старонках месца перакладам. Саюз пісьменнікаў можа паставіць такое пытанне.

**В.Сёмуха.** Я ў такім узросце, што мяне мала цікавіць, ці мяне друкуюць, ці не друкуюць. Я не ведаю, які Богам адведзены мне яшчэ час, і хачу скарыстаць яго напоўніцу. А таму я працую ў асноўным для сябе. Можа, па маёй смерці нешта будзе надрукаванае. А не будзе — я маю ад працы свой "кайф" і свайго чытача — сябе. Я разумею нашы выданні. У іх няма грошай. А што тычыцца школы перакладу, мне б хацелася, каб вы не гаварылі пра яе як пра нейкую інстытуцыю, якая рыхтуе перакладчыкаў, вучыць мовам і гэтак далей. Школа перакладу — гэта творчы метад. І калі так, то ў нас ёсць свая школа, са сваімі плынямі, якія ўздзейнічаюць на ўсю літаратуру, прадстаўленыя такімі ключавымі асобамі, як Семяжон, Дубоўка, Куляшоў. Вельмі непадобныя між сабой, але ў той жа час высокія ўзоры майстэрства. У Варшаве на адным семінары вялася вялікая спрэчка пра творчы метад Язэпа Семяжона. Не ведалі, як яго ацаніць, бо гэта вельмі беларуская з'ява. Цяпер, у гэтыя цяжкія часы вылучылася група маладых перакладчыкаў, вельмі здольных. У іх свой почырк. Я не ўмею перакладаць так, як перакладае Дынько ці Хадановіч. Школа перакладу — гэта з'ява самаадукацыі. Ніхто перакладчыка не навучыць перакладаць. Толькі ён сам навучыць сябе, аналізуючы творы сваіх калег, і перакладчыкаў, і пісьменнікаў. І мы можам ісці ў свет з горда ўзнятай галавой. У перакладзе Шэкспіра той жа Гаўрук узняўся вышэй за расійскіх перакладчыкаў. Я не ведаю, як дасягнуць той дакладнасці ў перадачы паэтычных вобразаў блізкай нам рускай мовы, якая была ў Куляшова. Пераклады з іспанскай мовы Рыгора Барадуліна, пераклады, заўважце, з падрадкоўніка,— гэта таксама школа. Рыгор Барадулін — тонкі паэт, які адчувае слова, і можа перадаць любы вобраз пасвойму, можа быць і не падобна на арыгінал.

**С.Законнікаў.** Я абсалютна згодны, што школа перакладу ў нас ёсць, і не толькі ў "чыстага" перакладчыка. Але і ў паэта-перакладчыка, празаіка-перакладчыка. Але згодны і з тым, што ў развіцці мастацкага перакладу наступіла паўза, перакладчыку няма дзе надрукаваць свае творы. Мы ў сваім часопісе спрабуем вырашаць гэтую праблему, выпускаем тэматычныя нумары. Але праблема мусіць рашацца на самым высокім узроўні. Скарыстаць паслугі нашых перакладчыкаў мы можам заўсёды — перакладчыкі ў нас выдатныя. Але для таго, каб здзейсніць вялікую падборку, дзе былі б прадстаўленыя і вершы, і проза, і эсэ, — мы назвалі такія падборкі "Галасы свету" — патрэбны не адзін перакладчык. Першую такую падборку мы прысвяцілі нямецкай літаратуры, прадставілі ў ёй творы ад класікі да сучаснасці. Мне самому даводзілася працаваць з падрадкоўнікамі. Але я лічу, што для таго, каб зрабіць паўнавартасны пераклад мастацкага твора, перакладчык павінен не толькі выдатна валодаць мовай, але і ведаць казкі, легенды, міфы таго народа, чый твор перакладае, ведаць яго гісторыю, этнаграфію, фальклор. І ўсю нацыянальную літаратуру. Калі я перакладаў з нямецкай па падрадкоўніку, сустрэў фразу: "Недзе ў Іспаніі".

Пры чым тут Іспанія? Аказалася — у нямецкай мове такі выраз азначае "недзе вельмі далёка". Звяртаюся да ўсіх перакладчыкаў — давайце аб'ядноўвацца вакол часопіса "Полымя". Наша плошча дазваляе друкаваць пераклады. Выйшлі ўжо нумары, у якіх прадстаўлена нямецкая, славацкая, чэшская, украінская, балгарская літаратуры. Я вельмі ўдзячны Інстытуту Гётэ і Галіне Аляксееўне Скакун, якія зараз дапамагаюць нам падрыхтаваць падборку твораў маладых нямецкіх празаікаў. Збіраемся прадставіць гэтак жа і маладых нямецкіх паэтаў. Але ёсць і фінансавыя цяжкасці. Калі мы плацім сваім перакладчыкам, то для гэтага існуе саўмінаўская стаўка. А як плаціць замежным? Калі б краіна, творы чыіх пісьменнікаў перакладаюцца на беларускую мову, была б зацікаўленая ў такім перакладзе і падтрымала б яго фінансава, было б выдатна.

**В.Сёмуха.** А трэба ж плаціць аўтарам за арыгіналы!

**С.Законнікаў.** Многія нашы праекты правальваюцца з-за адсутнасці фінансаў. Ужо чатыры гады вядуцца перамовы з палякамі, якія сказалі, што без грошай ніводнага твора на пераклад не аддадуць. Я вёў перамовы са старшынёй Саюза пісьменнікаў Латвіі, каб Інстытут капітала культуры Латвіі выдзеліў сродкі заплаціць латышскім аўтарам, якія будуць друкавацца ў "Полымі". Хаця, напрыклад, з балгарамі атрымалася вельмі добра. З украінцамі таксама дамовіліся. Яны не патрабавалі аплаты. А так... паспрабуй перакласці без аплаты нешта з твораў Нобелеўскіх лаўрэатаў! Адразу — суд! Штрафныя санкцыі.

**Беата Кахловіус.** Інстытут Гётэ мае прыклад плённага супрацоўніцтва з беларускімі літаратарамі — нядаўна выйшла кніжка "Коска, коска, працяжнік", сярод аўтараў якой — вядомая нямецкая паэтэса Сара Кірш. Інстытут звярнуўся да яе з просьбай даць права на публікацыю без аплаты, і яна пагадзілася.

**С.Законнікаў**. І ўсе балгарскія пісьменнікі згадзіліся, калі пасольства па маёй просьбе правяло з імі перамовы.

**Л. Рублеўская.** Для абсалютнай большасці беларускіх пісьменнікаў такога пытання і не ўзнікае. Калі дзе пераклалі, надрукавалі — дык і за тое дзякуй. Добра яшчэ, калі выданне тое дашлюць...

**А.Дынько.** Пераклады павінны друкавацца ў спецыяльных часопісах, або выходзіць асобнымі кніжкамі. Перакладчыку патрэбен добры рэдактар. Мы не можам сабе дазволіць ніякай прафанацыі ў перакладчыцкай дзейнасці.

**В.Іпатава.** Безумоўна, добра, калі пераклады выдаюцца асобнымі кніжкамі. Але хіба кожны перакладчык у сённяшніх умовах можа сабе гэта дазволіць? Навошта адмаўляцца ад друкавання ў сталых беларускамоўных выданнях? Якая ад гэтага карысць? І дзе, на ваш погляд, рэальная альтэрнатыва?

**Навум Гальпяровіч.** Чым больш будзе выданняў, якія друкуюць пераклады, тым лепш. Я заўсёды словы "або—або" падмяняю словамі "і—і".

**А.Дынько.** Толькі тыя праекты, якія паўстануць з незалежнай ініцыятывы, акажуцца жыццястойкімі. Перакладчык павінен чуйна рэагаваць на патрабаванні часу. Як той жа Васіль Сёмуха. Мне здаецца, што дзяржаўныя выданні часта анахранічныя ў выбары твораў, тым самым умацоўваючы стэрэатып анахранічнасці беларускага пісьменства.

У савецкія часы выдатнымі перакладчыкамі рабіліся тыя, хто не мог друкавацца як арыгінальны пісьменнік. Той жа Дубоўка, прыкладам. І я не сумняваюся, што Васіль Сёмуха быў бы выдатным празаікам.

**Л.Рублеўская.** Хаця літаратуразнаўцы даўно зрабілі выснову, што выдатны пісьменнік рэдка робіцца добрым перакладчыкам. Геній заўсёды эгацэнтрыст, ён падпарадкоўвае сабе другога генія. У лепшым выпадку атрымліваецца, што замест таго, каб шэдэўр загучаў на дзвюх мовах, утвараюцца два разнамоўныя шэдэўры. Шэкспір — і Шэкспір Шлегеля і Ціка — розныя пісьменнікі.

**С.Законнікаў.** Перакладчыкі, якія супрацоўнічаюць з "Полымем", — гэта і Сёмуха, і Лявон Баршчэўскі... Якая тут можа быць анахранічнасць?

**В.Іпатава.** Нельга падзяляць і без таго невялікія беларускія інтэлектуальныя сілы. Калі знікне носьбіт мовы, носьбіт беларускай культуры, каму будуць патрэбны нашы звышінтэлектуальныя высілкі? Дзяржаўныя выданні працуюць сёння на капейкі, яны ў горшым становішчы, чым незалежныя, у сэнсе волі друку, але яны ёсць, яны робяць сваю справу — беларускую справу.

**М.Кенька.** Не думаю, што сучаснаму беларускаму чытачу цяпер цікавае адно постмадэрнісцкае. Мы так доўга былі адарваныя ад сусветнага кантэксту, што для нас ёсць шмат цікавага і ў "старой" літаратуры. Не ўсё ж у часы СССР і дазвалялася перакладаць. Так, з нямецкай літаратуры друкаваліся пераважна пісьменнікі з ГДР, ды і то з вялікім разборам. Неяк я прысутнічаў на сустрэчы з нямецкімі пісьменнікамі, якую арганізаваў Інстытут Гётэ, і гаварыў, што мы на Беларусі амаль не ведаем нямецкай літаратуры, ні цяперашняй, ні ранейшай. Хаця ўсё, што выдавалася, мела чытацкі попыт. Так, мне некалі было вельмі цікава пачытаць аповесць "Прыгоды Вернера Хольта" пісьменніка Дзітэра Ноля, упершыню ўбачыць вайну вачыма таго нямецкага салдата, які ваяваў па другі бок акопаў.

**Лявон Казыра.** У часы застою, якія цяпер так крытыкуюцца, было лягчэй надрукаваць пераклад. Кожны малады чалавек, які пачынаў перакладчыцкую дзейнасць, мог сябе сцвердзіць у друку. Мы адчувалі апеку старэйшых калегаў. У рэдакцыі замежнай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура" працавалі Васіль Сёмуха, Язэп Семяжон, Рыгор Барадулін. Сёння, на жаль, нашы дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, выдавецтвы, тэлебачанне не даюць нам такой магчымасці. Ёсць такі лацініст Уладзімір Шатон. Ён доўгія гады не можа надрукаваць другую рэдакцыю свайго перакладу "Песні пра Зубра". Можна па-рознаму ставіцца да перакладчыцкага метаду Шатона, які вельмі схільны да літаралісцкага падыходу... Але справа не ў тым. Першая рэакцыя, якую сустракае Шатон у любой рэдакцыі: "Слухайце, быў ужо пераклад Семяжона, быў ваш пераклад.Навошта яшчэ адзін?" Але ж у рускай літаратуры было па дзесяць рэдакцый перакладаў Шэкспіра, і расейцы зноў і зноў гатовыя тыя ж творы перакладаць. А ў нас з'явілася два пераклады шэдэўра нацыянальнай літаратуры, і надрукаваць немагчыма! Да таго ж, такіх лацiністаў, як Шатон, у нашай рэспубліцы адзінкі. А што рабіць маладому чалавеку, які прынясе першы перакладзены твор? Я ўяўляю, з якімі адносінамі ён сустрэнецца ў дзяржаўным выдавецтве... Мне здаецца, што наша гутарка мае нейкі сюррэалістычны характар. Дом наш разваліўся, страха працякае, падлога прагніла, а мы ў гэты час думаем, якімі шпалерамі будзем упрыгожваць пакоі.

**І. Чарота.** Як можна казаць пра школу беларускага перакладу, калі мы не маем гісторыі перакладу, не маем сваёй тэорыі перакладу. А яны павінны існаваць. Васіль Сяргеевіч абсалютна правільна згадаў сузор'е імёнаў, і правільна вызначыў гэтыя імёны: і Дубоўка, і Куляшоў, і Семяжон, і Гаўрук... Але кожны з іх па творчай метадалогіі адрозны ад іншых. І ў такім выпадку хацелася б задаць пытанне і Васілю Сяргеевічу, і іншым: а да якой школы перакладу, пазначанай вышэйназванымі імёнамі, вы сябе адносіце?

**У.Аніскові̇ч.** Так нельга ставіць пытанне. Перакладчык можа прыўлашчыць сабе нешта з розных творчых метадаў тое, што больш адпавядае яму.

**І.Чарота.** Школа — і гэта пераемнасць. Непасрэдная сувязь "настаўнік — вучань".

**С.Мінскевіч.** Такога ў нас няма.

**І.Чарота.** Таму няма і школы . Васіль Сяргеевіч правільна згадаў пра з'яўленне новай плеяды перакладчыкаў у апошні час. Ён да яе ставіцца адназначна прыхільна, адназначна ўхвальна. Частка яе з'яўляецца пераемніцай хвалі канца 80-х, суполкі маладых перакладчыкаў, якая называлася "Бабілёнам". Але сённяшнія маладыя перакладчыкі існуюць з нейкім стэрэатыпам пра мінулае. Сцвярджаць, што да гэтага ўсе заказы на пераклады ішлі праз Маскву, нельга. Сведчу, што калі я быў у іхнім узросце, мог перакладаць і выдавацца без аглядкі на цэнзуру. Больш таго, калі я казаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура", як югаславіст, што трэба перакладаць і выдаваць, гэта выдавалі, і з Масквой не раіліся. Пераклад можна рабіць як справу палітычную. Ды гэта ўжо індывідуальная задача. Бо мы ішлі ў мастацкі пераклад з місіяй абсалютна апалітычнай. Як у справу літаратурную, творча-мастацкую. Пераклад — сродак ідэнтыфікацыі нацыянальнай літаратуры. А гэтага не хоча ўсвядоміць не толькі наш брат літаратар не з перакладчыцкага цэху — мы ж нібыта недапісьменнікі — але і літаратуразнаўцы не звяртаюць належнай увагі. І вось мы маем гісторыю літаратуры без гісторыі перакладу! Нонсенс.

**С.Мінскевіч.** Але ж у падручніках гавораць пра пераклады Скарыны, Гусоўскага. Расказваецца пра Мялецію Смятрыцкага, які сам перакладаў, пра пераклады "Трышчана і Ізольды"...

**І. Чарота.** І яны падаюцца як асобныя тэксты, як "рэчы ў сабе". Вось адкажыце, калі вы памятаеце змест падручніка, хто першы пераклаў "Трышчана і Ізольду" ?

**С.Мінскевіч.** А хто першы пераклаў "Біблію" на ангельскую мову? Тут немагчыма вызначыць.

**Андрэй Хадановіч.** Толькі што была выказаная думка пра статус перакладу як "недаарыгінальнага жанру", перакладчыка, як недатворцы, недапісьменніка. Скажыце, калі ласка, а празаік ёсць недапаэтам? Гэта здаецца пытаннем жанру і не больш за тое. Чаму ж у свядомасці чытача перакладчык часцяком можа быць недатворцам? На маю думку, кожная нацыянальная літаратура мае перакладчыкаў, якіх чытаюць больш ахвотна, чым добрых творцаў тае самай літаратуры. На вялікі жаль, мушу сцвердзіць, што перакладчыкі самі часткова спрычыніліся да таго, што ёсць эліта перакладчыкаў, і ёсць ананімы, так бы мовіць, пераклад, пастаўлены на паток. Звычайна пераклад не ёсць справа палітычная. Але, на вялікі жаль, ёсць культурныя сітуацыі, калі пераклад мусіць быць справай палітычнай. Нядаўна Сяржук Мінскевіч здзейсніў першы пераклад на беларускую мову "Дзядоў" Адама Міцкевіча. Чаму гэты твор дасюль не перакладаўся цалкам на беларускую мову? Ён жа нібыта створаны для беларускай літаратуры! Але няма ідэальных, спрыяльных часоў. Я маю досвед выкладання замежнай літаратуры ў ВНУ, і сутыкнуўся там са стэрэатыпам мастацкай непаўнавартасці беларускага перакладу. Ягонай неканкурэнтаздольнасці ў вачах пераважнай колькасці студэнтаў, нават тых, што атрымліваюць беларускую спецыяльнасць. Чаму такія стэрэатыпы ўзнікаюць? Напэўна, ёсць літаратуры, якія раз і назаўсёды вырашылі пытанне, абмяркоўваць ці не абмяркоўваць эквілінеарнасць перакладу. Можна ці не можна перакладаць вялікі твор так, каб ён у выніку павяліччыўся ў паўтара раза?

**М.Кенька.** Напэўна ж, маецца на ўвазе пераклад Язэпам Семяжонам "Пана Тадэвуша".

**А.Хадановіч.** У некаторых літаратурах раз і назаўсёды вырашана, што пераклад такога быць не можа. Ці кожны беларускі перакладчык можа дазволіць сабе двухмоўнае "люстранае" выданне? Выданне, дзе арыгінальны тэкст друкуецца злева, а ягоны пераклад — справа? Далёка не кожны. Як толькі з'яўляецца чарговы беларускамоўны пераклад, з'яўляецца асцярожнае пытанне: з якой мовы перакладалася? Мабыць, доўгая плённая традыцыя перакладу з расійскай мовы спрычынілася да ўзнікнення гэтага сумнага стэрэатыпу. Чаму гэтае пытанне не ўзнікае ў дачыненні да польскіх, расійскіх ці іншых нашых калег? Так, можна перакладаць вершы з "падрадкоўніка". Але ж...Гэта дзве вельмі розныя рэчы — перакладаць з падрадкоўніка, і перакладаць пераклад. Кожнае з'яўленне шэдэўра, перакладзенага з мовы арыгінала, які па-беларуску вытрымлівае канкурэнцыю з расійскамоўнымі перакладамі, — справа палітычная. Але пакуль назіраецца сумная заканамернасць. Чытаеш літаратурных крытыкаў, якія разважаюць пра Рэмбо, пра Чэслава Мілаша, і машынальна, не агаворваючыся, пачынаюць цытаваць расійскамоўны тэкст. Я адразу згадваю байку Салтыкова-Шчадрына пра мужыка і двух генералаў. Генералы былі ўпэўненыя, што булкі нараджаюцца на дрэвах адразу так, як іх да кавы падаюць. На вялікі жаль, у свядомасці тых, хто цытуе згаданых аўтараў, ёсць думка, што гэтыя творы так і нарадзіліся на расійскай мове. Менавіта па-расійску пісаў свае "Галосныя" Арцюр Рэмбо, менавіта так пісаў свае творы Чэслаў Мілаш — дарэчы, па-расійску Чэслава Мілаша цытаваў Леанід Галубовіч на старонках "ЛіМа". І гэта праз некалькі месяцаў пасля з'яўлення ў "Фрагментах" беларускага перакладу .

**М.Кенька.** Напэўна, Леанід Галубовіч не чытаў тых "Фрагментаў". І не дзіўна. Гэтае выданне распаўсюджваецца ў вельмі вузкім коле.

**А.Хадановіч.** Кожны перакладчык увесь час будзе змагацца паміж дзвюма рэчамі: дакладнасцю, якая патрабуе сваёй даніны, і мастацкасцю, якая таксама вымагае свайго.

**Галіна Скакун.** Часам перакладчык сапраўды вагаецца паміж гэтымі двума полюсамі, лічыць, што павінен зрабіць выбар на карысць аднаго з іх. Аднак рацыю маюць тыя, хто сцвярджае, што спрэчкі тут быць не павінна. Пры перакладзе трэба прытрымлівацца і таго, і другога. Інакш гэта ўжо або нейкі выраб рамесніка, які літаратурным творам не назавеш, або "перастварэнне па матывах". І, на жаль, часам даводзіцца заўважаць, што пры пэўнай мастацкай вартасці перакладу ў ім зашмат недакладнасцяў. З паэзіяй — справа іншая, там без адступленняў ад канкрэтнага значэння, напэўна, не абысціся. Але як зразумець такое ў прозе? Няўжо мастацкая вартасці перакладу зменшыліся б, калі б у ім, скажам, замест "ён быў не намнога старэйшы" было б напісана, як у арыгінале, "ён быў намнога старэйшы", або калі б герой застаўся саракадвухгадовым, а не ператварыўся ў дваццацічатырохгадовага? Я лічу, што ў перакладзе прозы фактычная дакладнасць — рэч абавязковая. Калі размаўляеш з тымі, каго перакладаюць, то зноў і зноў пераконваешся, наколькі творцу абурае, калі словы, знойдзеныя ім часам пасля доўгага пошуку, нават у пакутах, у перакладзе замяняюцца нейкімі выпадковымі ці нават — што, на жаль, зусім не выключана — супрацьлеглымі па сэнсе. Думаю, што і прысутныя тут пісьменнікі на такое не пагадзіліся б. Прафесійны абавязак змушае мяне час ад часу параўноўваць пераклады на розныя мовы, у прыватнасці, на рускую і на беларускую. Ёсць выдатная школа перакладу на рускую мову, думаю, гэта цяжка аспрэчваць. Ёсць шмат выдатных і безумоўна самастойных перакладаў аднаго і таго ж твора на абедзве мовы. Аднак здараецца заўважаць і даволі дзіўную рэч: у некаторых перакладах, зробленых пры адсутнасці рускага адпаведніка, імкненне да "уласнага бачання твора", да "перастварэння" праяўляецца непараўнальна больш, чым пры наяўнасці перакладу таго ж твора на рускую мову, — у гэтым выпадку перакладчык сваю свабоду ў дачыненні да дакладнасці вельмі абмяжоўвае. Хіба не напрошваецца пэўныя высновы?

**А.Хадановіч.** У дзённікавых запісах Сяргея Даўлатава згадваецца, як Вера Панова спытала ў яго, у каго з рускіх празаікаў лепшая мастацкая мова. Адказ быў такі: "У перакладчыцы Райт-Кавалёвай". Абураная рэпліка Пановай: "Вы сцвярджаеце, што Райт-Кавалёва, перакладаючы іншаземных аўтараў, піша лепш за Федзіна ці кагосьці іншага?" "Сцвярджаю". "Гэта жахліва", — адрэагавала Панова. Не нам меркаваць, жахліва гэта ці не , але дзякаваць Богу, што ёсць такая перакладзеная проза, якая вытрымлівае канкурэнцыю з арыгінальнай, і чытаецца з большай цікавасцю. Сумна, калі часам класікі сусветнай паэзіі гучаць, як сярэднія беларускія паэты. Калі мы бяромся чытаць замежных паэтаў, загадзя пагаджаючыся, што гэта пераклад , і нешта важнае страчана.

**І.Чарота.** Гэта адназначна спрэчна. Бо прадугледжвае, што перакладчык здольны пераўзысці арыгінал. Перакладчык у прынцыпе не можа ставіць такой задачы.

**Л.Рублеўская.** Дазвольце працытаваць аднаго амерыканскага крытыка, які казаў, што ў свеце існуе два пісьменнікі па прозвішчы По: першы — амерыканец, даволі пасрэдны пісьменнік, а другі — геніяльны француз Эдгар По, пераасэнсаваны і пераўвасоблены Бадлерам ды Малармэ.

**В.Сёмуха.** Я б не сказаў, што рускія перакладчыкі дапускаюць менш вольнасцяў, чым беларускія. Пераклад заўсёды патрабуе стылізацыі. Перад кожным перакладчыкам стаіць гэтая праблема — перакладаць увесь твор, а не асобна сказы, словы. Прывяду прыклад са сваёй практыкі. Калі я перакладаў "Сімпліцысімуса", вывучаў эпоху барока. Я ведаю, што ёсць рускі пераклад Марозава. Ён ляжаў у мяне на стале падчас працы. Але ў выніку ў нас з гэтым рускім перакладчыкам атрымаліся абсалютна непадобныя творы. Руская мова патрабуе сваіх метадаў стылізацыі, беларуская мова — сваіх. Уплывае і тое , як перакладчык разумее стылістыку барока. Прытым я расцэньваю свой пераклад як вострапалітычны. Цяпер у мяне на стале вельмі цікавая кніга Клаўса Мана "Мэфіста". Усе мае напрацоўкі, зробленыя ў працэсе перакладу бацькі гэтага пісьменніка, Томаса Мана, іншых нямецкіх пісьменнікаў, — нядзейсныя. Трэба вучыцца наноў. Літаральная дакладнасць патрэбная ў вусным перакладзе, але не ў літаратурным. У літаратурнага перакладу больш глабальныя задачы. Трэба, каб чытач, прачытаўшы "Сімпліцысімуса" на любой мове, сказаў: "Гэта Грымельсгаўзен. Гэта барока".

**А.Хадановіч.** На першых старонках "Сімпліцысімуса" згадваецца, што ў хаце галоўнага героя вокны прысвечаны святому Нідгласу. Гэта гульня слоў — спалучаецца імя святога Міколы і намёк на тое, што гаспадары хаты не могуць дазволіць сабе сапраўднага шкла. Марозаў у сваім перакладзе прыдумаў па аналогіі з Янам Беззямельным святога "Николу Бесстекольного".У перакладзе Васіля Сёмухі ўзнікае шыкоўны вобраз — вокны хаты прысвечаны святому Міколку Няшклоўскаму. Хто цяпер скажа, што пераклад — не палітычная з'ява?

**М.Кенька.** Проста перакладчык не ведае мову арыгінала. Калі добра ведаць мову арыгінала, тады не будзе такіх памылак.

**В.Сёмуха.** Думаю, што за перакладчыкам варта прызнаць права на элементарную ідыёцкую памылку, ён жа таксама чалавек, як гэта прызнаў сам Гасподзь Бог у "Фаўсце":

***Пакуль жыве мой раб,***
***Датуль ён можа памыляцца...***

**Г.Скакун.** Справа ў колькасці таких памылак і ў стаўленні перакладчыка да іх.

**М.Кенька.** Пытанне аб дрэнным веданні мовы арыгінала павінна ставіцца вельмі сур'ёзна.

**С.Мінскевіч.** У кожнага перакладчыка павінен быць рэдактар, які таксама ведае мову арыгінала. Увесь мой пераклад "Дзядоў", напрыклад, пільна рэдагавала Інэса Кур'ян. Але перакладчык павінен быць і актoрам. Ён ужываецца ў вобраз паэта, якога перакладае, і тады вобразы арыгінала таксама пераўтвараюцца па-акторску.

**В.Сёмуха.** Я і называю гэта стылізацыяй.

*(Працяг на стар. 13)*

## "Балаган"




Пакуль кніга паэзіі Людмілы Рублеўскай "Экзархіс" шмат гадоў прабівае сабе дарогу ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", да чытача прыйшоў яе зборнік вершаў "Балаган", аб выпуску якога парупілася Таварыства Вольных Літаратараў і ён стаў восьмай кнігай "Бібліятэкі часопіса "Калосьсе". Гэта той выпадак, калі назва набывае асабліва глыбокі сэнс, бо дае адчуць, што хвалюе аўтара, якія праблемы цікавяць яго на сённяшні дзень, да чаго імкнецца ягоная душа і чаго не прымае. Лірычная гераіня Л. Рублеўскай (і не толькі ў вершы "Балаган", але менавіта "Балаган" у гэтым сэнсе асабліва характэрны) знаходзіцца ў тым роздуме над жыццём, калі неабходнасць асэнсавання яго (а пераасэнсавання не ў меншай ступені) — душэўная і духоўная патрэба. Адначасова і — сведчанне пасталення, якое непазбежна прыводзіць да вывярэння жыццёвых арыенціраў, да ўсведамлення таго, што ты — частка ўсяго жыцця, але не маеш права ўспрымаць яго толькі такім, якім яно ёсць, а і мусіш імкнуцца, каб шмат у чым перайначыць, пазбаўўшыся ўсёй гэтай "балаганнасці":

*...Абрыд мне балаган, дзе вумнасці гавораць.*
*Абрыдла фальш вакол, мастацкасці фальга:*
*Куды там зорку ў лоб —*
*задавальняйся шнарам.*

Тым не менш "балаган" — рэальнасць, ад якой нікуды не дзенешся:

*Мне спрыту не стае.*
*Смяецца балаган.*
*Ды за пацеху ў ім не кідаюць дынары.*
*Парыпвае вазок,*
*пагруквае ланцуг...*
*Дзяўчынка ўсё пяе пра салаўя і ружу.*
*А песня ўсё далей...*
*Асоту белы пух*
*Услед за ёй ляціць*
*між аблачын і лужын.*

Неўладкаванасць, нейкая непрыкаянасць напаўняюць наступны верш, роздум у якім — тая ж прага ачышчэння, жаданне пазбавіцца ад гнятлівага друзу паўсядзённасці:

*Жыццё прыцісне, як магільная зямля.*
*Не распрастаеш крыл, і не расціснеш веснаў.*
*Крыжы царкоўныя над горадам ляцяць,*
*На іх ляцяць раскрыжаваныя Ісусы.*
*Не адрадзіць нікому горад мерцвякоў.*
*Нашто ахвяры, самаспальванне і вершы?*
*Я за пісьмовы стол сядаю зноў і зноў,*
*І зноў натхненне за радком канае першым.*
*Усё цяжэй сваю адрозненасць трываць,*
*Сваю нуздольнасць*
*далучыцца да грамадства.*
*Так неадольна часам хочацца лятаць,*
*Што застаецца толькі горка рассмяяцца.*

У пэўнай ступені працяг гэтага няпростага роздуму ў вершы "Позна": "душа лірычнай гераіні працівіцца "гораду, які існуе на спадмане // Каменныя спіны згінае стамлёна". Душа паэта: "Сусвет рассыпаецца дробнасцю светаў, // Вялікасцю хрусткай карон маскарадных. // І свеціцца поўня ў вачніцах паэтаў, // Да працы карыснай зямной непрыдатных".

Ды паэты — на тое і паэты, каб пастаянна жыць вялікім і непаўторным, якое не прысутнічае заўсёды ў буднях, але да якога хочацца дайсці, усведамляючы, што разам з ім прыйдзе адкрыццё. У гэтым — свая прывабнасць. Пра гэта адзін з лепшых вершаў кнігі — "Шчаслівая":

*Ці Цэзар, ці ніхто.*
*Чакаць зацята*
*Фіранкі непразрыстыя завесціць.*
*І сыпаць у камін сухую мяту,*
*І ля агню пісаць, пісаць і крэсліць.*
*І ўсё чакаць.*
*Ці Цэзар, ці самота.*

"Балаган" — падстава для роздуму. У гэтым і адметнасць кнігі, бо вельмі добра, калі ёсць магчымасць чытаць не толькі тое, што, як кажуць, у радках, а і тое, што гучыць пазатэкстава.

Міхась ГЕНЬКА

## ПАЭЗІЯ

Андрэй МАЗЬКО



# Не пакідай

### Далонь

*Далонь мая —*
*Доля мая,*
*Жывымі рубцамі*
*Вытканая.*
*Вятрамі сушыў,*
*Потам саліў.*
*Што я нажыў?*
*Адны мазалі...*

### Не пакідай

*Не пакідай,*
*Калі я на скрыжалях*
*Не ведаю, дарога мая*
*Дзе.*
*Не пакідай,*
*Калі пякучым жалем*
*Я захлынуся ў заўтрашняй*
*Бядзе.*

*Не пакідай,*
*Надзея як астыне*
*І роспач ахіне маю*
*Душу.*
*Не пакідай,*
*Апошняя святыня,*
*Любоў мая... Прашу цябе,*
*Прашу!..*

### Яшчэ!

*З вуснаў мілай не магу напіцца —*
*Смага зноў і зноў мяне пячэ.*
*Прагну іх, нібы жывой вадзіцы,*
*Самі просяць "Пі яшчэ!"*

*І святло ліецца залатое*
*Ад тваіх аголеных плячэй.*
*І гучыць малітваю святою*
*Ласкава-п'янлівае: "Яшчэ!"*

### Аксіёмы

*Шчасце — калі дарога*
*Зноўку дамоў вядзе.*
*Шчасце — калі трывога*
*Не адбярэ надзей.*

*Шчасце — калі юначым*
*Сэрца гарыць агнём.*
*Шчасце — калі дзіцячым*
*Поўніцца смехам дом.*

*Шчасце — калі прарочу:*
*Горшае ўсё — міне!*
*Шчасце — калі і ноччу*
*Не адзінока мне...*

### Не вучыце мяне

*Пайшло б усё яно прахам!*
*Чым цяпер даражыць?*
*Смаркач з міліцэйскай бляхай*
*Вучыць мяне, як жыць.*

*Ці з глузду я з'ехаў, людзі?*
*Чым цяпер даражыць?*
*Злодзей, надзьмуўшы грудзі,*
*Вучыць мяне, як жыць.*

*Няма нідзе супакою.*
*Чым цяпер даражыць?*
*Хлусня адусюль — ракою,*
*Хлус мяне вучыць жыць.*

*Выйсце — хіба напіцца?*
*Чым цяпер даражыць?*
*Ужо і мая маладзіца*
*Вучыць мяне, як жыць.*

*Хоць памірай тут ранкам.*
*Чым цяпер даражыць?*
*Мая душа-паланянка*
*Вучыць мяне, як жыць...*

●

*Варажы, зязюлечка-цыганка,*
*Колькі йшчэ назначана прайсці.*
*Не жыццё — вясновая маланка*
*Мільгане і — следу не знайсці.*

*А гляджу: не зроблена нічога.*
*І губіў, і марна бавіў час.*
*Дзён у Бога, гаварылі, многа,*
*Ды казалі гэтак — не пра нас.*

*Варажы на шчасце і на гора.*
*Мая жытка хутка дагарыць?*
*Маё сёння, мабыць, ужо ўчора,*
*Майго заўтра можа і не быць...*

●

*Я на свеце гэтым*
*Нежаданы госць,*
*Ды душу паэта*
*Не калечыць злосць.*

*Зайздрасцю ніколі*
*Кроў не атручу*
*І чужое долі*
*Я не захачу.*

*Толькі цісне грудзі*
*Боль за родны край.*
*Дзе жывём мы, людзі,*
*Дзе наш Божы рай?*

*Ці туды дарога,*
*Па якой ідзём?*
*Большае — трывогі,*
*Меншае — надзей.*

●

*Дзень чарговы, як лучына,*
*дагарае.*
*І свядомасць зноў атручана*
*быццём.*
*На якім я Беларускім*
*паміраю,*
*Хоць прызваны быў на светлае*
*жыццё?*

*Дзе адказы — невядома,*
*дзе прычыны?..*
*І прарокі і злачынцы —*
*Хто тут, дзе?*
*Не паспееш разабрацца,*
*як лучынай*
*Незваротна дакурыць*
*апошні дзень...*

### Хата матчына

*Хата матчына*
*З горкай доляю*
*Да зямлі сырой*
*Ціха туліцца.*
*Мая спадчына,*
*Ды не здолею*
*Усміхнуцца ёй*
*Сёння з вуліцы.*
*Не гарыць святло*
*Больш у вокнах тут,*
*Бо цяпер жытло —*
*Сіратлівы кут,*
*Бо ніхто ужо*
*Не чакае ў ім...*
*Стала больш крыжоў*
*За сялом маім...*

Сяргей ВЕРАЦІЛА

### Піва ці іншае

*1. Спасцігаю навуку супраціву,*
*Стараючыся не зважаць на страты.*
*Хоць незаўважна,*
*Але затое няўхільна*
*Падкрадваецца восень.*

*2. Грабеньчык уступае ў стасункі*
*з валасамі,*
*Даводзячы іх да парадку,*
*Не запытваючыся ў іх дазволу,*
*Не ўлічваючы іхніх пажаданняў.*
*Але цяпер мой грабеньчык —*
*у шуфлядцы:*
*Я пайшоў і пастрыгся.*

*3. Размяркоўваючы жаданні,*
*Пакідаю мейсца для смеху,*
*Як неабходнае ўмове выратавання.*
*А таму яшчэ раз нагадаю,*
*Што і я — смяротны.*

*4. Напружана, бліскучая,*
*утрапёна і бясконца*
*У жыццё ўзіраецца*
*Год за годам*
*І аб мінулым не ўзгадае,*
*І пра будучае не памяркуе*
*Бязглузда-празрыстая шыба.*

*5. Спаміж амальгамаю й шклом*
*Пражываюць адлюстранні.*
*Іхні выгляд — вынік нашых эмоцый,*
*З якімі падыходзім да люстэрка.*

*6. У гадзіннікавым механізме*
*Жывуць чалавечкі —*
*Так я думаў*
*Раней, у маленстве.*
*Яны ўвесь час даганяюць і ловяць:*
*Гадзіны, хвіліны, секунды*
*І паказваюць нам на сваю здабычу.*
*Неяк, можа, і невыпадкова*
*Я даведаўся пра існаванне*
*Тэрцыяў.*
*Імі цяпер мераю*
*Жыццё ў эпоху мікраарганікі.*

*7. Гадзіннік, як сродак баўлення часу:*
*Паназіраю за стрэлкамі —*
*Вось і да вечара не так ужо і далёка.*

*8. Спёка. Стужу галаву ў піве.*
*Паволі плюшчацца вочы,*
*І чарговая зорка*
*Прытуляецца да пляча.*

### Быў дома

*1. Сляпыя вокны*
*млын стары,*
*Шумлівы вадаспад.*
*Жыццё прайшло —*
*Не вернецца назад.*
*Прамінулі вясёлыя гады*
*Метафарай сплываючай вады.*
*Сляпыя вокны,*
*млын стары...*

*2. Такі сірочы вечар за вакном*
*Сёння.*
*А ўчора, так здаецца ўчора —*
*Поўня.*
*Загадкавы прымроіўся мне сон.*
*Тады таксама помню:*
*У небе — поўня.*

*3. Тут ракіты падмятаюць неба,*
*Тут — мая зямля,*
*Тут бацька мой ляжыць,*
*Побач з ім ляжыць ягоны бацька.*
*Тут ракітаю мне мейсца падмялі.*

*4. Не паспела пачацца лета,*
*А мне чамусьці думаецца восень:*
*Жоўтае лісце,*
*Халодныя марасейкі...*
*Мусіць, пачынае "ехаць крыша".*
*Нездарма мама казала,*
*Каб падлатаў дах на хляве.*

*5. Дзьмухне вецер*
*Ці то з поўначы, ці то з захаду,*
*І падасца, што халодна.*
*Але гэта — падман.*
*Па начох яшчэ скачуць жабы,*
*Падбіраючы чырвоныя бакі*
*Па апошніх трускалках.*
*Любяць, халера, салодкае.*

*6. Устану рана, да світанку,*
*Пабягу хутчэй да лесу,*
*Дзе схаваўся пад ялінай*
*Грыб.*
*Я падужаюся з грыбам*
*Забяру яго дахаты...*
*"Мусіць ты, сынок, не клаўся", —*
*Кажа мама мне з дакорам.*

*7. Пасля дажджу ў лесе*
*Пахне грыбамі.*
*Пасля дажджу каля сажалкі*
*Пахне рыбаю.*
*Пахне маленствам кватэра:*
*З маладога бацвіння баршчу*
*Наварыла мне мама.*

*8. Усё калісьці канчаецца,*
*Усё калісьці канчаецца.*
*Бычок на дошцы хістаецца.*
*Што з яго атрымаецца?*

ПРОЗА

ЯНА СТАЯЛА ў чарзе па хлеб. Канчаўся рабочы дзень, чарга была доўгая, пасоўвалася паволі, і яна, стоячы, пазіраючы на людзей, думала пра свой родны горад, у якім апынулася нядаўна, — прыехала на бацькоўскую гаспадарку, якую трэба неяк даглядаць, бо маці перад канцом адпісала ёй усю спадчыну: хату, сад і агарод — рабі, дачка, што хочаш. Перш за ўсё стаў новы плот, бо стары ўвесь пагніў, праз вялікія дзюркі лазяць не толькі чужыя куры і сабакі, але і людзі, асабліва вечарамі, а некаторыя аматары выпіць на прыродзе прыходзілі ў сад цэлымі кампаніямі і на траўцы, як на мяккім дыване, уладкоўваліся, як у сябе дома, нават заводзілі песні. Раніцай можна было сабраць з дзесятак пустых бутэлек.

Урэшце чарга дайшла да яе, яна ўзяла батон і пахучы свежы бохан хлеба кантовай формы, расплацілася і ўжо за

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ



# ПАСТКА ДЛЯ ДВАІХ

АПАВЯДАННЕ

парогам крамы пачула раптам сваё рэдкае імя "Ружэна", сказанае мужчынам.

Яна азірнулася: яе даганяў высокі мужчына ў гадах, лысаваты, з прадаўгаватым тварам, на якім красаваўся вялікі, трохі чырвоны на канцы нос. Вусны былі тонкія і сіняватыя, як у сардэчніка. Не, такога чалавека яна не ведала і бачыла яго першы раз. Але адкуль ён ведае яе імя?

— Не пазнаеш? — падышоўшы, спытаўся задышліва мужчына і ўсміхнуўся, паказаўшы зубы, з якіх добрая палова былі "жалезныя".

Яна паўзіралася ў яго твар больш уважліва — і нешта як бы знаёмае пачало праступаць ёй праз сетку зморшчын, праз цёмную выдубленую вятрамі і сонцам скуру твару, праз выцвілыя, з цяжкімі пачырванелымі павекамі і вялікімі цёмнымі падковамі, вочы.

— Няўжо Стафан? — вырвалася ў яе, і яна ажно здрыганулася: так нечакана яе адкінула далёка-далёка назад — у яе маладосць, у яго маладосць, у гады акупацыі, калі яны ўсе жылі пад страхам. Але там яны не былі ўдваіх, а заўсёды ўтраіх, а ён, Стафан, быў "трэці лішні". Другім быў Віктар, ці Віктор, як яго тады называлі на французскі лад.

— Але, Стафан. — Ён падаў ёй руку — рука была халодная і нейкая сырая, непрыемная. — А я цябе пазнаў адразу. Ты зусім мала змянілася. І ўсё так жа цвіцеш, як і некалі...

Гаварыў ён неяк гледзячы міма яе — то ўлева, то ўправа, нібы хацеў некага ўбачыць.

— Цвіцеш! — перадражніла яго Ружэна і лёгка вызваліла сваю руку з яго далоні. — Я ўжо даўно адцвіла. А цяпер вось засыхаю...

— Не прыбядняйся, не прыбядняйся! — А потым спытаўся: — Ці даўно тут, у нашым раённым... раі?

— Усяго трэці дзень... — яна неяк сцялася, не ведала, што пытаць, што гаварыць. Пра яго, пра сябе? Ды і неяк так на хаду яна не ўмела, тым болей, што ўсё тое, што было, — такое балючае.

— А я тут паспеў ужо абжыцца. Маю гаспадарку...

Яна ведала, што тут, у бацькавай хаце, у яго жыла сястра з сям'ёю, гэта недалёка ад Ружэнінай хаты, але на другой вуліцы, а сам Стафан жыў недзе ў Сыктыўкары, у Комі, дзе адбываў свой тэрмін, а потым быў на вольным пасяленні. Яна нічога яму не адказала, думала, што ён адчэпіцца ад яе, але ў яго, відаць, былі зусім іншыя намеры.

— Дык пайшлі, — як вырашанае, сказаў ён. — Нам жа па дарозе. Сёе-тое табе раскажу... І пра Віктара. Ты яго яшчэ не забыла?

Яе апяклі гэтыя словы, як агнём. Але яна нічога не адказала, нічога не спыталася — чакала.

А ён сказаў пра Віктара з лёгкасцю, як між іншым, не ведаючы, як глыбока раніць яе сэрца. А мо ён так гаварыў знарок, каб укалоць яе ў балючае месца? Можа, проста хацеў адпомсціць ёй за тое, што яна тады, у маладосці, на яго не глядзела, а толькі на яго сябра, Віктара Навумовіча?

На іх пазіралі людзі, што заходзілі ў краму, і тыя, што выходзілі, — хто абыякава, а хто з цікаўнасцю. Некаторыя ведалі Стафана, многія з ім выпівалі, асабліва мужчыны яго веку, ды і маладзейшыя: пляшка — гэта такая пані, што да яе горнуцца і старыя, і маладыя, яна ўзросту не прызнае. А Ружэну Акаловіч ведалі толькі старэйшыя, бо яна тут ужо не жыла гадоў пад трыццаць: як паехала ў Мінск на вучобу, дык там і засталася, выйшла замуж, завяла сям'ю, а сюды прыязджала толькі ў госці да бацькоў, пакуль тыя былі жывы.

Ды заўтра пойдзе пагалоска па гарадку, што вось Стафан Галкоўскі і Ружэна Акаловіч спаткаліся каля хлебнае крамы і разам пайшлі ў свой бок, а вось як было там, ужо ніхто не ведае, але затое застаецца вольнае поле для плётак: мо ён заходзіў да яе, ці яна да яго, хоць у яго і сям'я, а яна — вольная птушка, удава са стажам. Хутчэй за ўсё, што ён да яе...

Але было наадварот: яна зайшла да яго, да іх. Ён прыстаў, як смала: зайдзі ды зайдзі, пабачыш, як я жыву. Нібы ёй вунь як было цікава, як ён жыве. Тым болей, што ў яго сям'я, жонку ён прывёз яшчэ з Комі, дачка начальніка лагера, у якім ён адбываў свае пяцігодкі. Усё гэта яна ўжо чула ад людзей, пераважна суседзяў, якія ведалі ўсё аб усіх, ведалі і тое, што яны некалі, у вайну, сябравалі разам з яшчэ адным хлопцам — Віктарам, які потым апынуўся на Захадзе — разам з братам уцяклі з немцамі.

Ружэна пайшла не таму, што ён яе ўгаворваў, а толькі таму, што думала даведацца яшчэ што-небудзь пра свайго хлопца Віктара, які сябраваў з Стафанам, яны разам вучыліся ў тэхнічнай школе і былі ў СБМ — Саюзе беларускай моладзі.

— Вось мой дом... ці хата — называй як хочаш, — сказаў Стафан, калі яны зайшлі ў двор — даволі цесны, але добра агароджаны густым штыкетнікам, з калодзезем усярэдзіне. Хата была ашалявана дошкамі, пафарбаваная ў жоўты колер, і глядзелася як новая. Вокны рамаў і ліштвы былі пафарбаваны ў белае і прыгожа глядзеліся на жоўтым полі.

Гаспадар адамкнуў унутраны замок у сенях, адчыніў дзверы і прайшоў першы сам, адчыніў дзверы ў хату і запрасіў Ружэну ўсярэдзіну. Яна неяк нясмела, як спутаная, спынілася ў сенцах. У нос ударыў пах незнаёмага жытла.

— Смялей, смялей. Тут можна ногі паламаць, але ты на гэта не глядзі, — пажартаваў Стафан. Ён прыняў нейкае вядро, якое стаяла на праходзе, і запрасіў у кухню, даволі цесную і змрочную. На кухонным стале было поўна ўсякага посуду, стаялі пустыя бутэлькі, міскі і талеркі, на відным месцы ляжаў добра зацёрты палатняны ручнік, адзнака вясковага побыту.

— Ты не зважай на гэты бардак, мы пойдзем туды, на чыстую палавіну, — як павініўся Стафан. — Там прасторней.

Чыстая палавіна была падзелена на два пакоі. У гэтым, дзе яны апынуліся, стаяла шафа пры сцяне, сервант, канапа бурачковага колеру, круглы невялікі стол быў засланы белым настольнікам, з крышталёваю вазаю ў цэнтры, у якой стаялі ўжо трохі прывялыя фіялетавыя астры — кветкі восені. Убачыўшы іх, Ружэна неяк супакоілася і спытала ў Стафана:

— А дзе ж твая жонка? Куды ты яе адправіў?

— Ды зараз прыйдзе, — неяк няпэўна адказаў Стафан. — Ты сядай на канапу, а я тут што-небудзь згарбузую. Адзін момант!

— Нічога не трэба, Стафан, я толькі на хвілінку, каб цябе не пакрыўдзіць.

— Як на хвілінку — дык і пакрыўдзіш, — сказаў ён і на момант затрымаў свой позірк на яе твары. — Ты — мой вялікі госць... Госця, — паправіўся ён.

— Без жонкі — якая я госця? Што людзі скажуць — на цябе, на мяне? Ты пра гэта падумаў? — устурбавалася Ружэна, але ўсё ж такі села на канапу з самага краю, бліжэй да дзвярэй.

— Людзі знойдуць што сказаць і што падумаць, — адказаў на гэта Стафан, завіхаючыся на кухні каля халадзільніка. — Ты толькі іх слухай! Па мне дык хай што хочуць гавораць — я не баюся.

— Ну, ты мужчына, ты можаш быць смелы. А я баюся, кажу табе шчыра. Навошта мне ўсякія пагаласкі?!

— Ды кінь ты! Усё роўна пойдуць пагаласкі, раз ты зайшла сюды — на пяць хвілін ці на трыццаць пяць. Так што будзь спакойна. Я зараз... А ты там паглядзі газеты... Ці можаш уключыць тэлевізар...

Ружэна толькі цяпер убачыла, што ў куце каля канапы на шырокай тумбачцы стаіць вялікі тэлевізар, мо нават каляровік. Ля яго ляжалі газеты, старыя і свежыя. Яна паглядзела, перавярнула некалькі — усе былі на рускай мове.

"Ну вось, а сядзеў за СБМ, — падумала Ружэна. — Няўжо з яго выбілі ўсё сваё, беларускае? Не можа быць!"

Стафан між тым прынёс на стол хлеб у пластмасавай салатавай хлебніцы, паставіў вялікую белую талерку з нарэзанай вялікімі скрылікамі вяндлінай, з сялянскаю каўбасою. Потым прынёс дзве невялікія талеркі, два відэльцы і два сталовыя нажы. І апошняе — бутэльку рускай горкай і дробна нарэзаныя кіслыя агуркі. Чаркі дастаў з серванта, неяк спяшаючыся расставіў усё на стале, адкаркаваў бутэльку.

Як на яе жаночае вока, усё было трохі не так, але як для мужчыны выглядала нават даволі самавіта — відаць, што чалавек стараўся, бо ажно спацеў.

— А дзе твая гаспадыня? — зноў спыталася Ружэна. — Як гэта мы тут будзем піць без яе? Ні з таго, ні з сяго.

— Ды чаго ты пра яе турбуешся? Мы тут і без яе пакуль што абыдземся, — як бы з нейкім намёкам на нешта адказаў Стафан. — Мне проста пашэнціла, што яе няма. Часам не зашкодзіць адпачыць ад жонкі. Ты ж сама жонкаю была, ведаеш... Ці не?

— Ведаю, як вас, мужчын, на свежае цягне, — рашыла падыграць Ружэна Стафану. — Але, як правіла, гэта ўсё кепска канчаецца.

— Як для каго, — няпэўна адказаў Стафан.

Ён скінуў з плеч свой шэры пінжачок і павесіў яго на сцяне — нібы да гэтага не мог! — і застаўся ў паласатай, як у зэкаў, кашулі навыпуск з кішэнямі ўнізе, у якіх ён увесь час трымаў рукі, калі гаварыў. Здаецца, там у яго нешта пазвоньвала — як звязка ключоў. Падышоў да стала, агледзеў крытычным вокам, ці ўсё зроблена і пастаўлена, пстрыкнуў пальцамі, выдаўшы моцны гук-стрэл і сказаў да Ружэны:

— Ну, госця дарагая, прашу да стала. — Паставіў ёй крэсла перад талеркай, потым сабе, запрасіў сесці яе, потым сеў сам.

Можа, у яго гэта атрымалася аўтаматычна, а мо ён добра ведаў этыкет, — невядома, але Ружэна нават здзівілася Стафанавай культуры паводзін.

— Наліваем, — аб'явіў Стафан урачысты момант. — Я не запіваю, а ты, як хочаш, бяры бярозавы сок вось у гэтай бутлі.

Яна так і не заўважыла, калі ён яе прынёс. Яна шмат чаго не заўважала, асабліва таго, які душэўны стан у гаспадара хаты, як ён хвалюецца і ўвесь час косіць вокам на яе, госцю, і ўсё як бы нечага чакае ці сам нешта хоча зрабіць: абняць яе ці што, мо нават пацалаваць? А мо проста хоча адпомсціць ёй за яе гордасць, за халоднасць да яго, Стафана? І за адданасць аднаму Віктару, яго лепшаму сябру, з якім яны разам прыходзілі да іх, Акаловічаў. Адзін Віктар ніколі не асмеліўся б прыйсці да яе, а Стафан быў даволі бесцырымонны: калі яму нешта трэба, ён не саромеўся і не міндальнічаў. Ружэна яму падабалася, як і Віктару. Да таго ж ён ведаў, што Ружэніна маці лепш ставіцца да яго, Стафана, чым да вясковага хлопца Віктара, і цераз яе ён збіраўся перацягнуць на свой бок і Ружэну, непрыкметна падстаўляючы ножку свайму лепшаму сябру. У ім гаварыла не так закаханасць, як рэўнасць: чаму яна выбрала яго, а не мяне? Я дакажу, што я лепшы! Аднак не даказаў: жыццё павярнулася так, што Віктар апынуўся за мяжою, а Стафан трапіў у Чырвоную Армію, а адтуль — проста на Поўнач. І дарогі іх — яе, Віктара і Стафана — разышліся назаўсёды.

І вось праз шмат гадоў за гэтым сталом яны выпадкова апынуліся побач — ужо без трэцяга, Віктара, які тады быў другім, а Стафан — трэцім лішнім. І гэта ўзнімала Стафана ў яго ўласных вачах. Вось мы ўдваіх, без трэцяга, без лішняга! Я ўжо не лішні, я ўжо другі! А твой хвалёны Віктар, дарагая Ружэнка, недзе там далёка-далёка — адгэтуль не відаць.

Ці шкадаваў ён, што яны сустрэліся так позна — цяжка сказаць, але, відаць, лічыў, што сёння яму можа ўдасца стаць на месца таго шчаслівчыка, які быў яго сябрам і ў той жа час — сапернікам. Няўжо яшчэ і цяпер?

Стафан дрыготкаю рукою наліваў у даволі вялікія крышталёвыя чаркі з разьбою — спачатку сабе, потым — ёй, і не трошкі, а поўную.

Ружэна запратэставала, сказаўшы, што не п'е, што ў яе гіпертанія, але ён не паверыў.

— У цябе гіпертанія? Не можа гэтага быць. Я па табе бачу. Вось у мяне — адразу відаць... А ты... Але хопіць. Першую — поўную, а там як хто хоча. За сустрэчу! Да дна!

Яны чокнуліся, ён выпіў адным махам, укінуў у рот скрылёк кіслага агурка, паволі пажаваў яго, нібы хацеў разабрацца, які ён на смак. А Ружэна некалькі разоў падносіла чаргу да губ, а ў ёй так і не меншала.

— Ну, госцейка дарагая, так не гадзіцца. Як мы дамаўляліся? Першую — да дна...

— А я не магу. Не прымушай... Няўжо ты хочаш, каб мне стала кепска?

Ён нічога не адказаў, толькі неяк насупіўся, наліў сабе яшчэ чарку, чокнуўся з ёю і выпіў. Зноў укінуў у рот скрылёк агурка.

— Ты закусвай, не глядзі на мяне. Я тут ужо ад'еўся, на вяндліне... Каштуй, можна есці...

Ён рабіўся змрочны, твар у яго пацямнеў, нібы памяняўся: шчокі прыкметна абвіслі, нос рабіўся ажно буры і патаўсцеў, як груша, вочы сталі каламутныя, невыразныя — ад іх можна было чакаць усяго.

Такую перамену з чалавекам Ружэна бачыла на свае вочы ўпершыню — і яе ахапіў страх.

А Стафан глянуў на яе сваімі каламутнымі вачыма і загаварыў:

— Ты ведаеш, колькі я цябе не бачыў? Дваццаць сем гадоў... І ты з дваццаць сёмага года... А мне цяпер пяцьдзесят чатыры... Нейкая містыка-пабалістыка... Лёгка вылічыць, з якога я года, каб і забыўся. Смешна, хоць і не да смеху. Мы з Віктарам з аднаго года. На два гады за цябе старэйшыя. Алёс у кожнага — свой... Чаго таму Віктару было ўцякаць? З-за брата, што працаваў у тэхнічнай школе? Ну і што? Ніхто яго не зачапіў бы...

— Аднак жа цябе зачапілі, хоць ты быў толькі вучнем тае школы, — уставіла Ружэна.

— Праз памылку... Складалі спіс... Я ў яго трапіў памылкова... Мне потым сказалі... Дакладна...

— І Віктара не ўзялі б? І яго брата?

— Відаць, узялі б. Яны былі ў спісе, хоць іх не было ў горадзе... Хоць яны былі далёка... Не паверылі...

Пра які спіс гаварыў Стафан, Ружэна не разумела. Нехта склаў нейкі спіс, па якім арыштоўвалі. Так звычайна было пры ўсіх рэжымах: свае прадавалі сваіх.

Ён гаварыў, наліваў сабе і піў, ківаючы ёй галавою і ўжо не гледзячы, ці п'е яна, ці закусвае. Ён рабіўся нейкі зусім чужы для яе, незнаёмы, і тыя ўсе рысы, што былі прабіліся наверх і яна па іх пазнала яго, недзе як усё роўна схаваліся ўсярэдзіну.

— І каб ён быў са мною, мы, можа, разам сядзелі б тут за гэтым сталом... Не, ён вярнуўся б недзе ў пяцьдзесят шостым... Ты была ўжо замужам? Была... Але што там! Такое каханне! Магла разысціся з тым і сысціся з гэтым... Мо скажаш няпраўда? Ты ж яго кахаеш і дагэтуль, я ведаю... І ён цябе... Я ведаю. А чаму? Чаму? Ты не пытаеш, бо думаеш, што сама ведаеш... Нічога ты не ведаеш... Я адзін ведаю... Бо ён мне пісаў лісты... Адтуль, з-за мора...

— Пісаў? — вырвалася ў Ружэны само сабою.

Ён паківаў галавою:

— Пісаў... Не толькі мне. Ён нават табе пісаў. Ты гэта ведаеш?

Яна пра гэта нічога не ведала і нават не падазравала. Але чаму яго лісты не даходзілі да яе? Няўжо ён затрымліваў іх у сябе? — укалола яе здагадка.

— А чаму ты мне не перадаваў? — з гневам спыталася яна ў Стафана. — Як ты пасмеў?

— Пасмеў! Чаго захацела! Я пытаўся ў тваё маткі... І яна забараніла мне гэта рабіць. Каб не сапсаваць табе біяграфіі... Каб не сапсаваць картачкі, як мы казалі... Твая маці была разумная кабета... Далёка бачыла... І я яе паслухаў... Да таго ж ты была ўжо замужам... Што табе гэта дыло б? Адны згрызоты, больш нічога добрага. Нічога!

— А што ты яму адказваў? — спыталася Ружэна, аглушаная і дабітая пачутым.

— Адказваў, што ты замужам недзе ў Мінску і не хочаш яму нічога адказваць... Але ён мне не верыў і ўсё роўна пісаў — табе і мне. Каб я перадаваў табе...

(Працяг на стар. 14—15)



**ЧАСАПІС**

## *Канцэрт ансамбля "Сьвята"*

**"Сьвята" — менавіта такую назву мае калектыў народнай музыкі, які не так даўно дэманстраваў сваё майстэрства на сцэне філармоніі. Адчуванню нацыянальнага каларыту, які прысутнічаў на працягу ўсяго канцэрта, вельмі спрыяла ўпрыгожаная сцэна. Цудоўныя ручнікі з беларускім арнаментам добра гарманіравалі з касцюмамі музыкантаў.**

**Выканаўцы прадэманстравалі перад гледачамі віртуознасць валодання народнымі музычнымі інструментамі — гармонікам, дудой, цымбаламі, бубнам, кантрабасам, кларнетам, пішчыкам. Рэпертуар канцэрта складаўся, галоўным чынам, з беларускіх народных песень, прыпевак, а таксама і інструментальных найгрышаў.**

**Талент артыстаў ператварыў акадэмічны канцэрт у тэатралізаваны спектакль. Гэта было сапраўднае свята!**

**Таццяна КЛІМ, студэнтка БАМ**

## *Пра беларускую музыку па-беларуску*

**Вось і адбылося тое, пра што гаварылі слухачы, музыкі і крытыкі, звязаныя з беларускім рок-рухам. Першы нумар "самага чэснага" беларускамоўнага**



**музычнага выдання "Post'r" накладам у 299 асобнікаў пабачыў свет. Па першых жа яго старонках можна меркаваць, што ствараўся ён пад модны зараз вобраз "жоўтага" выдання: да болю знаёмыя рубрыкі "Рэзананс", "Актуальны рэпартаж", "Залаты шлягер", правакацыйныя матэрыялы і здымкі, шмат маладзёвага слэнгу, сцёбу...**

**Выдаўцы "Post'ra" — маладзёвая ініцыятыва БМА-груп, галоўны рэдактар С. Цукрановіч (чытай С. Сахараў і В. Супрановіч) у рэдакцыйным артыкуле дэкларуюць свае мэты: "Мы спадзяёмся, што нашыя чытачы ўбачаць у часопісе "'R" абаронцу сваіх правоў на атрыманне праўдзівай, а не заангажаванай, музычнай інфармацыі".**

**Грунтуючыся на гэтым пастулаце аўтары "Post'ra" прапануюць неардынарныя інтэрв'ю з удзельнікамі вакальна-інструментальнага атрада ВІА "Zet" і адным з самых вядомых музычных журналістаў Беларусі А. Клімавым.**

**Вялікую цікаўнасць для беларускіх меламанаў уяўляюць рэцэнзіі на самыя вядомыя рэлізы беларускай дыскаграфіі. Тут і водгукі на новыя дыскі М. Забэйды-Суміцкага, І. Кірчука (Этна-трыо "Троіца", і гуртоў "NRM", "Deviation", "Ur'ia", "Ляпіс Трубяцкой".**

**Ну а пад рубрыкай "Залаты шлягер" выдаўцы прапануюць словы і акорды песень з абодвух кампіляцый "Вольныя танцы". Так што, найбольш адданыя прыхільнікі БМА-груп, "Вольных танцаў" і бел. рока (тэрміналогія "Post'r") змогуць "зняць" хіты "Уліса", "NRM", "Happy Face" і заспяваць разам са сваімі кумірамі. Да таго ж, чытачоў чакае сюрпрыз — каляровы постэр наваполацкага гурта "Мясцовы час".**

**З цікавасцю пагартаўшы старонкі "самага чэснага" музычнага часопіса зазначым, што першынцу беларускай рок-крытыкі яшчэ не хапае ўзважанасці, балансу паміж грунтоўнасцю "Музыкальнай газеты" і рафініраваным сцёбам "Навінак", на якія, відавочна, арыентаваліся выдаўцы.**

**Жадаем новаму часопісу хутчэй знайсці і заняць сваю нішу, стаць адметнай з'явай на нацыянальным рынку музычных выданняў.**

**Наступны крок — другі нумар — кажуць, самы цяжкі, таму пажадаем БМА-груп плёну, лёгкасці пяра, грунтоўнасці адзнак творчасці беларускіх музыкаў. Ну а першы нумар "Post'r" можна атрымаць, замовіўшы яго па адрасе: а/с 5, 220085, г. Мінск, Беларусь.**

**А. МІТРАНОВІЧ**

НОВАЕ

# Першы фестываль тысячагоддзя

## З НАГОДЫ ПРАЕКТА, ЗАПАЧАТКАВАНАГА Ў ЗАСЛАЎІ ДЗЯРЖАЎНЫМ КАНЦЭРТНЫМ АРКЕСТРАМ БЕЛАРУСІ

### Асновай было слова

Дзень беларускага пісьменства, свята шанавання роднага слова, можна лічыць і днём нараджэння новай ідэі, новага свята ў музычным жыцці. Свята слова беларускага летась ладкавалася ў Заслаўі. На добраўпарадкаванне гэтага знакавага для нашай краіны горада, на ўзнаўленне ў ягоным абліччы прыкмет колішняй гістарычнай годнасці былі скіраваны і дзяржаўная ўвага, і значныя сродкі.

Да пачатку верасня 2000 года Заслаўе змянілася. І, відавочна, не толькі вонкава.

Уладзімір Дражын, першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама, успамінаў, што падрыхтоўка чарговага свята беларускага пісьменства лічылася зусім не разовай акцыяй, а пачаткам вялікай культурнай працы.

І тое, што 3-га верасня ў Заслаўі ўсё прайшло выдатна, падказала перспектыўныя кірункі развіцця горада. Поспех адносна новага, маладога свята, аб'яднанага з нашымі нацыянальнымі традыцыямі, з адроджаным кірмашовым рухам, пераконваў у неабходнасці зрабіць Заслаўе гэткім "анклавам" сталічнай культуры, асяродкам фестывальнага жыцця і турызму.

Першы крок у перспектыўным кірунку зрабіў нястомны маэстра Міхал Фінберг, прапанаваўшы запачаткаваць новы фестываль камернай музыкі з удзелам творчых калектываў, якія працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, з магчымым запрашэннем іншых выканаўцаў. Прапанову падтрымалі Міністэрства культуры, Мінскі аблвыканкам, Заслаўскі гарвыканкам. Фестываль "Заслаўе-2001" прайшоў у студзені, стаўшыся для Беларусі **першым фестывалем новага тысячагоддзя.**

### Засталася спадчына — і "спадчына"

Што ведае пра Заслаўе ўяўны сярэднестатыстычны жыхар нашай краіны? Бяруся сцвярджаць: амаль нічога.

Легендарны горад Рагнеды і сына яе Ізяслава, імя якога ператварылася ў тапонім, з боку самай ажыўленай, чыгункавай, магістралі надоўга схаваўся пад псеўданімам "Беларусь" — нібыта гістарычна вытлумачальнай, ды надта ж дзіўнай для шарговай станцыі, назвай. Нават адзначыўшы ў 1985-м сваё тысячагоддзе і набыўшы статус горада абласнога падпарадкавання, Заслаўе ўсё ж заставалася несамавітым мястэчкам, безумоўна, менш папулярным у цікаўных падарожнікаў, чым яго не надта блізкая суседка — Купалава вёска Вязынка, чым ягоны аднайменнік — рэстаран каля Мінскага мора...

Хвала адлізе адраджэння: праз 15 гадоў пасля таго вялікага юбілею акрэслілася ў жыцці горада годная перспектыва. Вельмі дарэчы выйшла і змястоўная, багатая на захапляючыя старонкі, кніга, якая спрыяе разуменню парадоксаў яго біяграфіі, — кніга "Заслаўе" з серыі гісторыка-дакументальных аповедаў "Памяць".

Ад першабытных часоў да Полацкай дзяржавы; ад падзей у Вялікім Княстве Літоўскім да лёсу ў складзе Рэчы Паспалітай; ад веку пад уладай Расійскай імперыі да жыцця пры савецкай уладзе... Як салёнагаркавая кропля вады нясе ў сабе інфармацыю пра "смак жыцця" цэлага мора, так, пэўна, і лаканічная хроніка невялікага горада сведчыць пра салёна-гаркавы лёс цэлага краю.

Чытайце пра Заслаўе! Пра неўмацаванае крывіцкае паселішча на беразе Свіслачы, якое зменіў дыхтоўны "Замэчак", названы ў 985 годзе горадам Ізяслаўлем, што на пачатку XII ст. быў ужо цэнтрам удзельнага княства Полацкай зямлі. Пра ўваход Ізяслаўскага княства ў склад Мінскай зямлі, а пры канцы XIII ст. — у ВКЛ. Пра пераход Заслаўя ад Гедымінавічаў да Глябовічаў, з уласнасці Сапегаў ва ўласнасць роду Пшаздзецкіх, ад пазнейшага ўладара М. Прушынскага да П. Хамянтоўскага і г. д. Пра пажары, міжусобіцы, разрабаванні. Пра год жыцця "пад Польшчай" і пра трагічны перыяд гітлераўскай акупацыі. Пра пасляваеннае аднаўленне горада. Пра яго людзей...

Старшыня Заслаўскага гарвыканкама Валянцін Раманавіч Сітнік падчас прэс-канферэнцыі з нагоды першага фестывалю тысячагоддзя выказаў меркаванні, мабыць, сугучныя думкам сучасных рамантыкаў-рэалістаў.

Мінск, заўважыў ён, з'явіўся на карце толькі таму, што пасля смерці Рагнеды і Ізяслава іх горад пераходзіў з рук у рукі, усе яго чарговыя гаспадары хацелі ўзяць — узяць, нічога не даючы гэтай зямлі, а пакуль яны сцвярджалі сваю ўладу, пачаў развівацца Мінск. Калі б уладальнікі Заслаўя паводзілі сябе інакш, іншым быў бы і яго гістарычны лёс. Прынамсі, не ператварыўся б горад з больш як тысячагадовым радаводам у мястэчка побач з мегаполісам, у "спадарожнік", якому выпаў кон абслугоўваць, забяспечваць прамысловыя патрэбы сталіцы. І хаця ў 1967 г. тут заснаваны гісторыка-археалагічны запаведнік, над ацалелымі фрагментамі архітэктурна-ландшафтнай спадчыны ўпэўнена дамінуюць такія "культурныя прыярытэты", як завод жалезабетонных вырабаў, ПМК, складскія пабудовы...

Узводзілі індустрыяльныя аб'екты — а варта было б ствараць навучальныя ўстановы, развіваць установы культуры, будаваць гасцініцы. У атачэнні цудоўнай прыроды, на зямлі, па якой хадзілі Рагнеда і яе сын, павінна існаваць адпаведнае духоўнае, культурнае асяроддзе. Каб кожны госць сталіцы імкнуўся наведаць і гэтую святую мясціну!

Ідэя ў кіраўніцтва горада — прыгожая і практычная, да таго ж, падтрыманая кіраўніцтвам вобласці. А як яе спраўдзіць? Ёсць план, частка якога — правядзенне ў Заслаўі фестывалю камернай музыкі.

### Культуры замнога не бывае

Ці не кожнае з беларускіх мястэчак вабіць, як далёкая зорачка, святлом сваёй адметнай мінуўшчыны. У гэтым — унікальнасць нашай краіны, яе поліцэнтравай культуры, яе неадназначнай гісторыі, старонкі якой нітуюцца з вельмі рознымі гарадамі, мястэчкамі, паселішчамі, нават сядзібамі, што тры стагоддзі таму зведалі смак еўрапейскай цывілізацыі.

Па-еўрапейску ладкавалася і жыццё ў Заслаўі.

Тут працаваў італьянскі дойлід К. Спампані. Тут нейкі час жыў беларускі асветнік, філосаф, гісторык, тэолаг С. Будны. Тут друкаваў кнігі Д. Лянчыцкі. Тут надавалася вялікая ўвага адукацыі дзяцей. У Заслаўскім маёнтку была мастацкая галерэя, з нагоды ўрачыстасцяў выступалі музыканты мясцовай капэлы.

Рэлігійнае жыццё вызначалася поліканфесійнасцю. З 16 ст. мела значны ўплыў рэфармацыйная царква (пра што і сёння сведчыць мураваны кальвінскі збор, у якім цяпер — Спаса-Праабражэнская праваслаўная царква). Пры канцы 18 ст. пераважалі уніяты...

З пункту гледжання эканомікі Заслаўе таксама спазнала росквіт. Нават за межамі краіны прадаваліся прадукцыя цагельні, суконнай фабрыкі, завода па вырабе дахоўкі, вапны. Еўрапейскую вядомасць меў конны завод... Ладная гаспадарка была ў графаў Пшаздзецкіх, пароднёных, дарэчы, з Агінскімі, Радзівіламі, Тызенгаўзамі.

А яшчэ Заслаўе мела прывілей: чатыры разы на год праводзіць кірмашы. З'язджаліся на іх больш як 20 тысяч пакупнікоў ды гандляроў. А дзе кірмаш — там і музыка...

Не дзіўна, што і кірмашы, і музыка, і музы вяртаюцца ў Заслаўе.

А як "Музы Нясвіжа"? Спакроўленасць з фестывалем у Заслаўі для іх — толькі на карысць.

За пяць гадоў нясвіжскі фэст набыў своеадметнае аблічча, пэўныя традыцыі, сярод якіх, на думку мастацкага кіраўніка імпрэзы М. Фінберга, вылучаецца значная навуковая праца. (Штогод падчас тэарэтычнай канферэнцыі ў Нясвіжы выступаюць мастацтвазнаўцы, гісторыкі, філосафы, спецыялісты-практыкі, дзеячы культуры. Імі падрыхтавана ўжо больш за сотню дакладаў, навуковых паведамленняў, і гэтыя працы не толькі "агучваліся" для ўдзельнікаў фестывалю, але і публікаваліся ў асобных зборніках).

Натхнёўшы арганізатараў новага фестывалю, "Музы Нясвіжа" прымуць у маі сімвалічны водгалас заслаўскіх канцэртаў і... перададуць далей. Фестывалю беларускай паэзіі ды песні "Маладзечна-2001". Нязвыкла? Рэч у тым, што М. Фінберг, ініцыятар папулярнага некалі, ды воляю чыноўнікаў змардаванага нацыянальнага свята, дамогся, нарэшце, яго вяртання ў жыццё краіны, а вяртанне мае быць гучным і яскравым. Побач з самымі рознымі беларускімі песнямі — народнымі, класічнымі, сённяшнімі; побач з родным словам і традыцыйнай мелодыяй, на думку маэстра, павінны гучаць і высокія ўзоры камернай, акадэмічнай музыкі, якая жыла на гэтай зямлі ў даўнія часы і ствараецца тут у нашы дні.

Заслаўе — Нясвіж — Маладзечна... І гэта — не мяжа! Ёсць ідэя: атуліць "музычнымі чарамі" ўсю сталічную вобласць. А потым, сабраўшы сілы ды сродкі, пашукаць аднадумцаў, такіх, як У. Дражын, Л. Крупец, В.



Сітнік, у мястэчках, блізкіх да Міншчыны. А потым — па ўсёй краіне...

Вось Валянцін Раманавіч Сітнік упэўнены, што многія нашы нягоды не ад уласна эканамічных праблем, а з тае бяды, што паміж практычным досведам, навыкам, і веданнем у нас няма "культурнай праслойкі". Яе трэба ствараць! Прынамсі, з дапамогай сур'ёзных фестываляў. Гэта цяжка, калі ў горадзе — толькі адна прыдатная для гучання жывой акустычнай музыкі зала на 120 месцаў. Але ж сюды прыйдуць і дзеці, якія, пасталеўшы, зробяць усё магчымае, каб у родным горадзе з'явілася годная канцэртная зала! А ўсім тым, хто незадаволена спасылаецца на эканамічныя цяжкасці — маўляў, арганізацыя кожнага канцэрта чагосьці каштуе, мэр Заслаўя можа нагадаць, што ўтрыманне папраўча-працоўных калоній каштуе грамадству даражэй...

Ён верыць: багацце нашай краіны будзе прымнажацца культурай маленькіх беларускіх гарадоў.

### Травеньскія мроі

"Заслаўе-2001" — свята двух музычных вечароў. Скарыстаўшы суседства з Мінскам, арганізатары зэканомілі на гатэлі ды на харчаванні артыстаў, заплаціўшы толькі за транспарт і за рэкламу. На ганарарах таксама зэканомілі: музыканты пагадзіліся выступаць бясплатна. Запрашальныя білеты распаўсюджваліся ў працоўных калектывах Заслаўя, сярод настаўнікаў.

Абодва фестывальныя канцэрты ў маленькай утульнай зале дзіцячай музычнай школы прайшлі з аншлагам і з поспехам у зацікаўленай неабыякавай публікі. Прыемнай нечаканасцю было ўгледзець у зале твары знаёмых мінчукоў: мастацкага кіраўніка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюка і яе дырэктара І. Андрэева, знанага кампазітара В. Іванова і яго знаную жонку А. Бялову, музыказнаўцу-прафесара А. Ладыгіну. (Яе, дарэчы, паклікала ў Заслаўе настальгічнае пачуццё: даўняй, даваеннай парой бацькі А. Ладыгінай, мінчукі, наймалі ў тады памежнай заслаўскай "зоне" лецішча; з тых жа зямлёй, як высветлілася пазней, паходзіў дзед славутай Л. Александроўскай, пра якую А. Ладыгіна піша зараз

кнігу; ну, а перамагчы пажар на яе сучасным лецішчы ў блізкай Крыжоўцы дапамагала... заслаўская пажарная каманда!)

Падчас першага канцэрта мне памроіўся травеньскі Нясвіж. Прэса, як і там, атабарылася ў першым радзе. Як і там, панавала на сцэне беларускае слова: у прамовах афіцыйных асоб, у гамонцы нязменных абаяльных вядучых — народнай артысткі З. Бандарэнкі ды майстра папулярнага асветніцкага каментарыя, музыказнаўцы В. Дадзёмавай, якая распавядала пра мудрагелістыя повязі беларускай культуры, культуры-донара, з мастацкай спадчынай розных краін і народаў...

Кожны фестывальны вечар — зусім у традыцыях "Музаў Нясвіжа"! — складаўся з некалькіх канцэртных праграм, насычаных рознай музыкай.

Адкрываў імпрэзу Актэт драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Б. Нічкова ды Г. Гедыльтара, і першым нумарам прагучаў знакавы для беларускай музычнай культуры твор: уверцюра да оперы Я. Голанда "Агатка". Далей — не менш знакавы "Полацкі сшытак". І кантрданcы В. Казлоўскага. І Н. Орда. І родны нам М. Глінка. І М. Рымскі-Корсакаў, ад класа якога ідзе радавод сучаснай беларускай кампазітарскай школы. (За віртуознае выкананне славутага "Палёту чмяля" малады кларнетыст А. Яскельчык быў ганараваны авацыяй, а імянітыя педагогі, партнёры па ансамблі, адразу павіншавалі калегу поціскам рукі).

Ансамбль флейтыстаў "Сірынкс" пад кіраўніцтвам Н. Аўраменкі з канцэртмайстрам В. Сідаравым радаваў інтанацыйнай чысцінёй і захопленай ігрой у творах М. Кл. Агінскага ды Е. Фаміна, Э. Ванжуры ды А. Лядава...

Камерны аркестр пад кіраўніцтвам В. Сарокі з надзвычайным уздымам і натхненнем сабраў-увасобіў яркі букет беларускай рамантычнай музыкі: М. Ельскі, С. Манюшка, Л. Скрабецкі, Н. Орда... Маленькая сцэна не дазволіла музыкантам размясціцца на крэслах — мусілі граць стоячы, але гэта зрабіла выступленне аркестра больш эфектным.

Адметнасцю другога заслаўскага вечара сталася праграма Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы на чале з Л. Яфімавай, следам за якой выступілі трубачы — "Інтрада" пад кіраўніцтвам М. Волкава.

Пад знаёмую музыку ажывалі згадкі пра вясновы Нясвіж. Здавалася, выйдзеш на вуліцу пасля канцэрта — адчуеш свежы вечаровы травеньскі подых і няспешна пакіруеш да гатэля... Але мы выходзілі ў марозную сцішаную цемрадзь. Насалоджваліся чыстым паветрам. Азіраліся на чысты снег. Заслаўе — пад белым аркушам папяры. Ці пад свежым радном. Што накрэсліць на ім, пра што распавядуць летапісцы ды мастакі новага тысячагоддзя?

### За паўгадзіны ад сталіцы

Фестываль камернай музыкі будзе ў Заслаўі штогод. І ўжо цяпер В. Сітнік разважае пра яго перспектывы: надыдзе час, калі фестывальныя білеты пачнуць распаўсюджвацца сярод турыстаў з Расіі, Польшчы, Францыі, Германіі... Неўзабаве адновяць касцёл Раства св. Панны Марыі — значыць, можна дамаўляцца наконт правядзення ў ім канцэртаў арганнай, камернай, харавой музыкі. Турыста будзе вабіць не тое, што Заслаўе — сам па сабе старажытны горад, а тое, што ён зможа тут цывілізавана і прыгожа адпачыць. Дзеля гэтага трэба шукаць інвестараў, развіваць адпаведную інфраструктуру.

Паступова ў Заслаўі будуць зачынены экалагічна шкодныя прадпрыемствы. З Мінска перасяляцца некаторыя навучальныя ўстановы або асобныя факультэты. Дарэчы, ужо летась гарадскія ўлады дамовіліся з кіраўніцтвам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта наконт закладкі на тэрыторыі Заслаўя музея расліннасці — кшталту дэндрарыя, дзе змогуць займацца мінскія студэнты. Балазе, ад сталічнага вакзала сюды 35 хвілін язды электрычкай. У перспектыве чакаюць студэнтаў з Германіі, Францыі — паводле камерцыйнай праграмы т. зв. археалагічнага турызму. Яны з цікавасцю і карысцю зоймуцца раскопкамі унікальных заслаўскіх курганоў, а ўсе знаходкі, старажытныя каштоўнасці, знойдзеныя імі, застануцца ў нашай уласнасці.

Развіваць Заслаўе як горад-спадарожнік Мінска было кашчуннай памылкай. Яшчэ ёсць шанц сёе-тое выправіць, стварыць годнае і для гарадчукоў, і для турыстаў асяроддзе. Тады кожны госць сталіцы будзе лічыць за гонар — пабываць на гэтай гістарычнай зямлі. Памарым?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ТЭАТР

# "Вольная сцэна" — жыве!

Канфлікт, які разгараўся ў мінулым годзе вакол шматпакутнай "Вольнай сцэны" Валерыя Мазынскага, прывёў да заканамернага выніку: замест аднаго тэатра ўтварылася адразу два. Утульны будынак на вул. Крапоткіна, вялікая частка рэпертуару і новыя акцёры дасталіся Валерыю Анісенку. У афішы тэатра з доўгай назвай "Дзяржаўны тэатр беларускай драматургіі" — даўно знаёмыя "Стомлены д'ябал", "Апошняя пастараль", "Чорны квадрат", "Містэр Розыгрыш"... А "Вольная сцэна", тэатр-студыя пры Саюзе тэатральных дзеячаў, зараз і сапраўды вольная — пачынаць Валерыю Мазынскаму і тым акцёрам, што не пакінулі свайго майстра, даводзіцца з нуля. Вядома, без свайго памяшкання студыі прыйдзецца цяжка. Але базавая пляцоўка для яе ўжо знойдзена — Рэспубліканскі Палац культуры ветэранаў. Узначаліў студыю старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі Аляксей Дудараў. У яго асобе "Вольная сцэна" набыла не толькі новага мастацкага кіраўніка, але і лепшага на сённяшні дзень драматурга ў краіне. Ён з аптымізмам глядзіць на будучыню свайго тэатра і не чакае ніякіх пасла-бак на яго "нованароджанасць". Пазіцыю ж студыі акрэслівае наступным чынам: "Мы не збіраемся ні з кім канкурыраваць — хіба што ў творчым плане".

Першым спектаклем новай "Вольнай сцэны" стала прэм'ера дудараўскага "Вечара" ў пастаноўцы Валерыя Мазынскага. Адбылася яна на самай знакамітай сцэне — Купалаўскай — невыпадкова. Менавіта тут дзесяць гадоў таму нарадзілася лабараторыя беларускай драматургіі, дзякуючы якой многія зараз вядомыя пісьменнікі ўпершыню атрымалі магчымасць "убачыць сябе" на сцэне. І менавіта тут семнаццаць гадоў таму быў пастаўлены "Вечар". Гэта быў спектакль-падзея, спектакль, які сабраў купалаўскіх зорак першай велічыні: Галіну Макараву, Віктара Тарасава, Паўла Дубашынскага. Ставіў яго цудоўны рэжысёр — Барыс Эрын. Новы "Вечар" узору 2001 года быў задуманы як спектакль-прысвячэнне ім і многім іншым акцёрам і рэжысёрам, якія зрабілі Купалаўскі сапраўды Нацыянальным і сапраўды Акадэмічным.

Народны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак (Мульцік), акцёры Мікалай Кучыц (Гастрыт) і Тамара Міронава (Ганна) сыгралі амаль на мяжы. На мяжы шчырасці, адкрытасці і натуральнасці акцёрскага існавання на сцэне. Такога спектакля, такой драматургіі зараз ужо амаль не ўбачыш. Сыходзіць у гісторыю "вясковая проза", выміраюць апошнія шукшынскія "дзівакі". Беларускі тэатр сёння куды больш цікавяць "сівыя легенды", чым побыт неперспектыўнай савецкай вёсачкі васьмідзесятых. Але "Вечар" у прачытанні "Вольнай сцэны" ў каторы раз сцвердзіў: тэмы чалавечай адзіноты, сэнсу жыцця і невытлумачальнасці смерці не бываюць "неперспектыўнымі" і несучаснымі.

...Трое старых нерухома сядзяць на лаўцы, глядзячы прама ў глядзельную залу. Натруджаныя рукі спакойна ляжаць на каленях, твары — сур'ёзныя і ўрачыстыя. Звычайны пажоўклы фотаздымак, што мог бы вісець на сцяне ў любой вясковай хаце. Але нечакана ён ажывае: пад галашэнне пеўняў узыходзіць сонца, людзі бяруцца за штодзённую працу. Пачынаецца яшчэ адзін дзень адзіноты, чакання, надзеі...

"Пакуль працуем — жывём", — пра тое, што аб'яднала на схіле жыцця Ганну і Васіля са смешнай мянушкай "Мульцік". Хто ён — "дзівак", што моліцца сонцу? Ці філосаф, які сам, без мудрагелістых кніжак прыйшоў да такой простай на першы погляд думкі: "Дзеці і хлеб — гэта святое, гэта — усё?" Працавітасць у Мульціка ў крыві. Ён, як з іроніяй кажа Гастрыт, "з труны ўстане, каб бульбу выкапаць". І сапраўды, смерць жахаецца "цёплага" чалавека, які ўпэўнены: "Бог даў нам душу, каб сагрэць зямлю, неба ды іншых людзей. На такіх, як Васіль, трымаецца сусвет. Ён жыве ў недасягальнай для большасці людзей гармоніі з сабой і навакольнем. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія выпалі на долю ягонага пакалення, ён здолеў захаваць маральную чысціню і спагаду да іншага. Адсюль — права не на дыдактыку, а на ўвагу да яго жыццёвай пазіцыі.

Роля старой Ганны дасталася Тамары Міронавай, актрысы спачатку Магілёўскага абласнога тэатра, потым — труханаўскай "Дзеі", а з нядаўняга часу — "Вольнай сцэны" Мазынскага. Хто яна, Ганна? Звычайная жанчына, якая раджала, ваявала, рабіла. А цяпер усё сплыло, і пад вечар свайго жыцця Ганна засталася сам-насам з горкай думкай: "Няма што і пакінуць у свеце...". Вось толькі вешаць нос не ў яе звычках. Ганна і пажартаваць часам любіць, і нават станьчыць на зайздрасць дваім старым. Іграць такую ролю пасля легендарнай Галіны Макаравай — вялікая адказнасць. Тут аднаго майстэрства мала. Патрэбна нешта вышэйшае — веданне людской псіхалогіі і назіранне. Не за сабой — за іншымі. Дзе, у якой вясковай бабулькі падгледзела Галіна Васільеўна сялянскі манер рэзаць хлеб нажом да сябе, клапатліва прыкрываць чыстай хусцінкай гладыш з малаком, карыстацца фартухом замест ручніка, у задуменнасці пагладжваць вусны натруджанай рукою?.. Дзе "адкапаў" для Ганны мастак Максім Дудараў гэтую кранальную зялёную кашульку ды старэнькую, незразумелага колеру сукенку?.. Дзякуючы гэтым дробязям маналог Ганны пра сваё гаротнае жыццё гучыць без адзінай фальшывай ноты. І адзінота, і стомленасць, і пакорлівасць лёсу ў гераіні Тамары Міронавай — сапраўдныя. Душэўная чысціня насуперак перажытаму — таксама.

Вечны непакой ва ўсім — рухах, словах, вачах — такім робіць свайго Гастрыта Мікалай Кучыц. Колькі такіх Гастрытаў было ў савецкія часы! Ім казалі ісці — і яны ішлі, загадвалі гаварыць — і яны гаварылі... "Лінію праводзілі". Крывую, але сваю. Самі жабракі, бо па-сапраўднаму працаваць ленаваліся, зямлю не любілі, дык і астатніх жабракамі зрабілі. Каб зайздросціць не было каму. Але зайздрасць, вось дзіва, усё адно засталася, разам з крыўдай — за што?!. Не любілі іх, "сазнацельных", у вёсках. У вочы паважалі, а за вочы інакш, як Гастрытамі, і не называлі. Прысудам гучаць словы Мульціка: "Ты любіў мала, шкадаваў мала. плакаў мала. Разумней гэтага людзі нічога не прыдумалі". Але і ён для драматурга не пачвара — таксама чалавек. І таму нечакана нават для самога сябе Гастрыт пачынае пакрыху разумець, што "сазнацельнасць" ні ў якім разе не можа апраўдаць подлыя ўчынкі, што сродкі — усё ж выбіраюць.

...Ад гэтай прэм'еры для "Вольнай сцэны" залежала вельмі і вельмі шмат. Паспяховы старт для новага тэатра — палова справы. І мяркуючы па аднадушнай гледачоў, што стоячы апладзіравалі акцёрам пасля спектакля, гэты старт адбыўся. "Планка" паднятая на вельмі добрую вышыню. "Узяць" яе зноў "Вольнай сцэне" спатрэбіцца ў самым хуткім часе — на прэм'еры забароненага было дудараўскага "Прынца Мамабука".

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

**P. S.** *У бліжэйшы час спектаклі "Вечар" і "Прынц Мамабук" можна паглядзець 30 і 31 сакавіка.*

# "Песняры" — назаўсёды!

На ўжо адгрымеўшай "Рок-каранацыі-2000" кіраўнік ансамбля "Песняры", народны артыст Беларусі і СССР Уладзімір Мулявін быў названы музыкантам Міленіуму. На постсавецкай прасторы гэта, бадай, адзіны выпадак прызнання маладымі за натхняльніка музыканта старэйшага пакалення, так бы мовіць, афіцыйна прызнанага.

Гэты піітэт грунтуецца на прызнанні выдатнага ўнёску артыста ў збуданне сучаснай беларускай песеннай культуры, у падвышэнні да еўрапейскага ўзроўню выканаўчай культуры, на асэнсаванні яго вопыту сінтэзу беларускай мовы і мелодыкі з сучаснымі музычнымі плынямі...

Да таго ж, фанаграфія ансамбля складае каля дзесятка альбомаў накладам у мільёны асобнікаў. І вось апошняя навінка — фірмай "Каўчэг" выдадзены дыск "Песняры-2001", які прымеркаваны да трыццацігадовага юбілею ансамбля, а таксама да ўсталявання памятнага знака калектыву на плошчы Зорак і юбілейных канцэртаў у Маскве і ў Беларусі.

На новым дыску сабраныя песні ў выкананні салістаў ансамбля У. Мулявіна, Л. Барткевіча, В. Касенкі, В. Скаражонка, што выконваліся на розных этапах творчасці "Песняроў" ад пачатку кар'еры ("Александрына", "Алеся") да сучаснага этапа ("Чырвоная ружа", "Сівы голуб"), аўтарскія песні У. Мулявіна, песні беларускіх кампазітараў І. Лучанка, В. Шарапава, І. Паліводы, А. Моўчана, расійскіх кампазітараў А. Пахмутавай, Д. Тухманава, А. Фельцмана.

З першых жа нот знакамітай песні І. Лучанка "Спадчына" слухачоў ахінае чароўная стыхія супер-прафесійных апрацовак, спакойнага эмбіентнага гучання электронных і ўдарных інструментаў, разгорнутых вакальных партый. Стройная ансамблевасць найбольш яскрава стасуецца з голасам саліста ансамбля В. Скаражонка ў песні У. Мулявіна "Марыся", а таксама ў знакамітай "Белавежскай пушчы" А. Пахмутавай і М. Дабранравава...

А вось фрагмент тэксту песняроўскай "Чырвонай ружы" прапануем прачытаць больш уважліва:

***Чырвоная ружа***<br>
***Не стой на дарозе,***<br>
***Не стой на шырокай —***<br>
***Хто ідзе, той ламае.***<br>
***Не стой на дарозе, чырвоная ружа, —***<br>
***Хто ідзе, той ламае,***<br>
***Хто ідзе, той сшыбае.***<br>
***За што, за што мне якое дзіва?***<br>
***За тое, за тое як ты красіва...***

На канцэрце ў Маскве было аб'яўлена, што гэты твор выконваецца на агульнай для беларусаў і рускіх старажытнай мове. Таму для многіх расіян гэтая песня стала адкрыццём і ў лінгвістычным сэнсе. Ну а для беларусаў усё зразумела з першых радкоў "Чырвонай ружы" — беларускі фальклор не зблытаць ні з якім іншым па ўсёй Еўропе!

Асобным блокам на дыску "Песняроў" вылучаюцца песні І. Лучанка: "Жураўлі на Палессе ляцяць", "Паляна", "Алеся". На юбілейным дыску творы гэтага кампазітара пераараніраваны нанава і ад гэтага сталі яшчэ больш пранікнёнымі, лірычнымі, светлымі. Ну а завяршаецца праграма дыска ўзнёслай песняй-роздумам на верш Янкі Купалы. "Малітва" кампазітара А. Моўчана гучыць тут як надзея на лепшы лёс нашай Радзімы — нашай сінявокай Беларусі.



CD, "Песняры-2001", "Ковчег", 2001 г.

Да юбілейных імпрэз былі выдадзены і кампакт-дыск, і каляровы буклет. У іх з паслядоўнасцю, вартай лепшага ўжытку, паўтараецца выраз нейкага нявысветленага "крытыка" пра творчасць ансамбля як пра нейкае "рускае ўварванне на заходнім рок-фронце". І гэта пры тым, што і ў Злучаных Штатах, і ў Расіі "Песняры" ўспрымаюцца выключна як беларускі культурны феномен. Думаецца, ужо час асэнсаваць сённяшнія рэаліі!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



**ЧАСАПІС**

## *Сэрцу хочацца жыць...*

Васілю СУПРУНУ — 75

**Упершыню з творчасцю Васіля Супруна чытачы, бадай, па-сапраўднаму пазнаёміліся вясной 1989 года, калі на старонках "ЛіМа" была змешчана яго вершаваная перапіска з Ларысай Геніюш. Тады ж і даведаліся, які складаны, пакручасты лёс у Васіля Рыгоравіча. Тым больш не лішне гэта нагадаць сёння, бо, будзем справядлівымі, ёсць ахвочыя забыць страшныя часы, калі траплялі за краты толькі за тое, што па-сапраўднаму любілі Беларусь.**

**Нарадзіўся В. Супрун у вёсцы Глоўсевічы, што на Слонімшчыне, у сялянскай сям'і. У 1943 годзе, ратуючыся ад вывазу ў Нямеччыну, вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі. У тым жа годзе ў "Баранавіцкай газеце" выступіў з вершам "Бор". Дарэчы, поруч стаяў і верш дванаццацігадовага на той час Алега Лойкі "Восень". Алег Антонавіч, як вядома, хутка раскрыўся ўсімі гранямі свайго таленту, а В. Супрун...**

**Слушна гаворыць наконт гэтага сам А. Лойка: "Семінарыя вызваліла яго (В. Супруна. — Я. Л.) ад Нямеччыны, але не ад таго, што пачалося неўзабаве. У першыя пасляакупацыйныя гады малады паэт стаў працаваць у родных мясцінах дырэктарам школы, настаўнікам, завочна вучыўся. Закончыў Ганцавіцкае педвучылішча. А ў чэрвені 1947 года быў арыштаваны, як і многія выпускнікі сярэдніх школ Слоніма... Віна большасці з гэтых хлопцаў была толькі ў тым, што яны былі ў акупацыі, што падчас яе вучыліся, спрабавалі пісаць вершы..."**

**Прысуд для В. Супруна быў суровы: 25 гадоў зняволення і 5 — паражэння ў правах. І ўсё ж у снежні 1956-га змог вярнуцца на родную Слонімшчыну. З Л. Геніюш жа завочна пазнаёміўся ў 1953 годзе. Ад вядомага ўкраінскага літаратара, прафесара Г. Кочура, таксама, канечне, зняволенага, з якім сябраваў, даведаўся, што ўкраінцы праз сваіх землякоў на волі падтрымлівалі сувязь з іншымі лагерамі, у тым ліку і з лагерам у Абезі. Так і пачалася вершаваная перапіска з Ларысай Антонаўнай, яны пасылалі адзін аднаму свае паэтычныя "ксівы". Л. Геніюш, у прыватнасці, пісала:**

*Вы і я — гэта словы і словы*
*сярод тундры, як белая смерць.*
*Яны іскрацца ў сцюжы суровай,*
*ды не могуць як след абагрэць.*

**Васіль Супрун адказваў:**

*Часамі бывае нясказана цяжка,*
*На сэрцы — бы кошкі скрабуць.*
*Хоць слова, сяброўка, скажы, калі ласка,*
*Хачу твае слова пачуць.*

**Як не пагадзіцца з А. Лойкам: "...паэтычны дыялог 50-х гадоў — Ларыса Геніюш — Васіль Супрун — гэта унікальная старонка не толькі беларускай паэзіі. Гэта лірыка не толькі высокага грамадзянскага гучання, але і пранікліва-шчымлівая інтымная лірыка. Можа, якраз не так ад таго, што гэта было забаронена, — лагерная паэзія, а слова каханай, як Лаура ці Беатрычэ, жанчыне, можа, якраз і з-за гэтай не нюансавасці лішні раз затрымліваў паэт перапіску сэрца свайго пры сэрцы сваім. Можа! Іх было тады на свеце толькі двое".**

**Пра гэта Алег Антонавіч згадваў у сваіх развагах "Васілёк за калючым дротам", што сталі прадмовай да кнігі В. Супруна "Крык", выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1993 годзе. Першай кнігі! Ды хоць і запазнілася яна, але прынесла нямала радасці сапраўдным аматарам паэзіі. Прываблівў і лірычны герой — чалавек нязломны, які праз выпрабаванні захаваў у сэрцы нязгасную любоў да Беларусі. Ды і сама назва — "Крык" — нагадвала, што гэта крык душы, які было балюча, нясцерпна цяжка, але жыла. Дзеля той светлай будучыні, у якую верылася.**

**Была ў В. Супруна і яшчэ адна кніга — "За смугою часу", што пабачыла свет у выдавецтве "Полымя". Дзякуючы ёй, талент Васіля Рыгоравіча раскрыўся новымі гранямі. Змест зборніка — вынікі яго шматгадовых археалагічных і гістарычных даследаванняў, а імі В. Супрун займаўся па вяртанні ў Слонім.**

**"...А сэрцу хацелася жыць" — назва чарговай паэтычнай кнігі В. Супруна. На жаль, яна пакуль не прыйшла да чытача. А хацелася б, каб гэтая сустрэча адбылася хутчэй, бо тое, што піша Васіль Рыгоравіч, асабіста перажыта. У першую чаргу на нявольніцкіх дарогах. Да падобных твораў нельга ставіцца спакойна. Іх трэба чытаць, каб душа пазбаўлялася абыякавасці, каб жыццё набывала глыбокі і важкі сэнс.**

Язэп ЛІТВІНОВІЧ

ВІНШУЕМ!

# Кароль факта

ДА 70-годдзя Генадзя КІСЯЛЁВА

З Генадзем Кісялёвым я знаёмы з 1964 года, з таго дня, як ён у Мінску абараняў сваю кандыдацкую дысертацыю. Чытаю ўсё, што ён ні напіша, што ні апублікуе. Чаму, спытаецеся? Вельмі ўжо падабаюцца мне ягоныя працы як энцыклапедысту, як даследчыку таму, што ў іх заўсёды безліч фактаў, архіўных дакументаў, абавязкова знойдзеш штосьці-небудзь свежае, новае, невядомае, інтрыгуючае. Ну і аўтарская, часта па-мастацку зробленыя, тлумачэнні, інтэпрэтацыі, здагадкі, філігранная рэстаўрацыя таго, чаго у матэрыялах не хапала.

Але сярод мноства, іншага і слова не падбярэш, яго артыкулаў, кніг, брашур у мяне ёсць такія, да якіх я вяртаюся не раз і кожнае новае дакрананне, кожнае новае перачытванне прыносіць такое ж самае задавальненне, такую самую асалоду, як першы раз. Гэта найперш складзеныя ім зборнікі "Пачынальнікі", "Пуцявінамі Янкі Купалы", яго манаграфіі "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" і "Ад Чачота да Багушэвіча".

Мо хто і не пагодзіцца са мною, бо страшэнна цікавыя і ягоныя даследаванні пра паўстанне 1863—1864 гадоў на Беларусі і ў Літве, даследаванні, звязаныя з Кастусём Каліноўскім і яго эпохаю, якую Г. Кісялёў, перакананы, ведае лепш за любога нашага гісторыка, шматгадовыя росшукі аўтарства нашых ананімных паэм "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", за даследчую працу ў якія "Расшукваецца класік..." і кнігу "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" Генадзю Васільевічу прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі. Усё гэта справядліва. Але мне да душы найбольш менавіта кніжкі, якія я назваў вышэй.

"Пачынальнікі" дасюль вабяць сваёй заўсёднай інтрыгуючай, нязгаснай таямнічасцю, навізною, нязмерным багаццем гісторыка-літаратурных дакументаў з нашай літаратуры XIX стагоддзя, шматлікімі, яшчэ не разгаданымі таямніцамі. Ян Баршчэўскі і Рамуальд Падбярэскі, Ян Чачот і Аляксандр Рыпінскі, Арцём Вярыга-Дарэўскі і ягоны "Альбом" з безлічу невядомых да выдання Г. Кісялёва імёнаў, якія ён расшыфраваў, Ялегі Вуль і Геранім Марцінкевіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Фелікс Тапчэўскі, Адам Гурыновіч, Францішак Багушэвіч, Максіміліян Маркс, Аляксандр Ельскі і г. д. і г. д. Колькі славутых імёнаў, і ўсе такім ці іншым чынам звязаны з гісторыяй беларускай літаратуры, нашай культуры, якія пакінулі ў ёй свой незабыўны, адметны, прыкметны след.

"Пуцявінамі Янкі Купалы". Разам з кніжкаю В. Рагойшы "Напісана рукой Купалы" гэта кніга Г. Кісялёва мае ў мяне свой піітэт, сваю прыцягальную сілу. Як ёю па-добраму не захапляцца, як не быць удзячным укладальніку, які тут сабраў пад адну вокладку столькі цікавага, каштоўнага, пераважна архіўнага матэрыялу, што ў многіх выпадках упершыню ўводзіцца ў навуковы ўжытак. Укладальнік у 16 архівах і музеях выявіў новыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчым шляхам Янкі Купалы, зрабіў іх крыніцазнаўчы і тэксталагічны аналіз, навукова пракаменціраваў невядомыя і некаторыя вядомыя дакументы. У зборнік увайшлі пераважна біяграфічныя матэрыялы: радаводныя Луцэвічаў, дакументы аб паходжанні Я. Купалы, яго вучобе, службе, грамадскай дзейнасці, правядзенні юбілеяў Я. Купалы, ушанаванні яго памяці. Каштоўны ў кнізе па-мойму знойдзены менавіта Г. Кісялёвым метрычны запіс аб нараджэнні Я. Купалы. Упершыню прыводзіцца архіўны дакумент пра смерць бацькі Я. Купалы Дамініка, бо нават такі знавец жыцця і творчасці Я. Купалы, як У. Юрэвіч пісаў у сваім нарысе пра народнага паэта, што ягоны бацька памёр, як выбіралі бульбу, што з дакументам не згодна. Г. Кісялёў апублікаваў цэнзурныя матэрыялы, звязаныя з забаронай зборніка "Жалейка", судовую справу 1915—1916 гг. над Я. Купалам як рэдактарам "Нашай нівы" і іншыя невядомыя і малавядомыя ўспаміны, пісьмы і публіцыстычныя артыкулы Я. Купалы, што не трапілі ў ягоны Збор твораў у 7-мі тамах. Выданне праілюстравана рознымі фатаграфіямі Я. Купалы, факсімілe аўтографаў яго твораў, лістоў, дарчых надпісаў на фатаграфіях і кнігах, архіўных дакументаў і інш. Зборнік, такім чынам, стаў грунтоўным навуковым укладам у купалазнаўства. Дакументы і матэрыялы, звязаныя з жыццём і літаратурна-грамадскай дзейнасцю Я. Купалы, ён заканамерна ўключыў таксама ў свой зборнік "З жыццяпісу Якуба Коласа" (1982).

Манаграфія Г. Кісялёва "Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча" мае падзагаловак "Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў". Гэта ад сціпласці аўтара. Бо ў кнізе захапляльна расказана пра дакументы і матэрыялы, якія памагаюць узнавіць творчую і жыццёвую дарогу выдатнага, падкрэслім, смелага на свой час пісьменніка, які, фактычна адзін у моры нядобразычлівых, не пабаяўся пісаць на пагарджанай "мужыцкай" мове, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Вікенція Іванавіча Дуніна-Марцінкевіча. У кнізе яскрава паказана методыка работы над гісторыка-літаратурнымі крыніцамі. Можна сказаць, упершыню ў нашым літаратуразнаўстве Г. Кісялёў прааналізаваў трагічны лёс рукапіснай спадчыны В. Дуніна-Марцінкевіча, крыніцы тэкстаў і вырашыў многія пытанні іх атрыбуцыі, расказаў чытачу пра эпісталярную спадчыну пісьменніка, якая пакуль вельмі мізэрная (усяго 13 пісем, праўда, пасля кніжкі Г. Кісялёва прадаўжальнік яго справы Я. Янушкевіч знайшоў у Львове яшчэ два лісты В. Дуніна-Марцінкевіча да Яна Карловіча і апублікаваў іх), скрупулёзна прааналізаваў разнастайныя крытычныя матэрыялы пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, падрабязна разгледзеў крыніцы да ягонай біяграфіі, даволі заблытанай, іканаграфію, памятныя мясціны, што зберагліся да нашага часу, і асабістыя рэчы пісьменніка. Г. Кісялёў назваў сваю працу "спробаю", бо літаратурнае крыніцазнаўства ў нас яшчэ праходзіць сваю стадыю станаўлення. Але якая гэта залатая "спроба", можна пераканацца толькі з захапленнем і здзіўленнем чытаючы саму кнігу такога унікальнага даследчыка, якім з'яўляецца Генадзь Кісялёў.

Манаграфія "Ад Чачота да Багушэвіча" мае падзагаловак "Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літатары XIX ст." Кніга чытаецца як займальны дэтэктыўны раман. Колькі разоў да яе ні звяртайся, заўсёды знойдзеш для сябе штосьці новае, невядомае, цікавае. Не перастаю здзіўляцца, як столькі фактаў, столькі паправак у гісторыю можна сабраць аднаму чалавеку, нягледзячы на яго вялікую працавітасць і таленавітасць. Кніга ўпарта раскрывае перад чытачом увесь працэс цяжкага, часамі блытанага, станаўлення і развіцця новай беларускай літаратуры ў XIX ст. ад артыкула І. Цытовіча "Словы два аб мове і пісьменстве Белай Русі", які з'явіўся ў 1843 г. у пецярбургскім часопісе "Маяк" і данёс да нас тэкст беларускага віншавальнага верша "Чалом, чалом, айцец, татулька", і ажно да шматлікіх прац пісьменніка-краязнаўца А. Ельскага, які памёр у 1916 годзе, Г. Кісялёў сістэматызаваў і, як прафесійны літаратуразнавец, грунтоўна і пераканальна ахарактарызаваў асноўныя крыніцы, што адносяцца да гісторыі беларускай літаратуры XIX ст., намеціў метады іх выкарыстання ў далейшым, сказаў пра тыя складаныя праблемы, якія дасюль узнікаюць перад даследчыкамі і ў якіх трэба яшчэ разбірацца і разбірацца.

Генадзь Кісялёў нарадзіўся ў Каломне. Перазджаў за бацькамі ў Царыцын, Рэутава пад Масквою. З 1944 г. сям'я пераехала ў Беларусь, жыла ў Лепелі, Віцебску. Тут будучы даследчык скончыў сярэднюю школу. Яшчэ ў школе выявіў цікавасць да беларускай мовы і гісторыі. Скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. Працаваў у архіўных установах Літвы, жыў у Вільнюсе (колькі разоў тут мы з ім сустракаліся ў 1960-я гады, бывалі ў цікавых людзей і за горадам). З 1971 г. у Мінску, у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы нашай акадэміі навук. Тут абараніў і дысертацыю на годнасць доктара філалагічных навук. Пісаць і друкавацца ён пачаў у 1958 г. Гэта былі артыкулы пра К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 г.

Яго сур'ёзная адукацыя як архівіста дае магчымасць чуць сябе ў архівах і бібліятэках як дома, прафесійна, глыбока займацца крыніцазнаўствам, тэксталогіяй, археаграфіяй. Талент, божы дар, працаздольнасць, велізарныя спецыяльныя веды, спрыяюць шчаслівым навуковым адкрыццям, літаратурным знаходкам, якіх Г. Кісялёў зрабіў тысячы ў гістарычнай і літаратуразнаўчай навуках Беларусі.

Ужо раннія маскоўскія зборнікі архіўных дакументаў, у якіх ён прымаў самы дзейсны ўдзел ("Рэвалюцыйны ўздым у Літве і Беларусі 1861—1862 гг.", "Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг."), сталі вяхой у вывучэнні перадумоў і самога паўстання 1863—1864 гг.

Літаральна ў кожным артыкуле Г. Кісялёва чытач знаходзіць нейкі невядомы або малавядомы дакумент. Адметнай, вызначальнай рысаю даследчыка з'яўляецца тое, што ён ніколі не забываецца абавязкова падкрэсліць, што зроблена іншымі да яго, адзначыць станоўчы ці адмоўны плён працы папярэдніх капуноў-шукальнікаў, вельмі далікатна, інтэлігентна рабіць ім заўвагі, абгрунтоўваючы іх канкрэтнымі разважаннямі і інтэрпрэтацыямі. Гэта не можа не быць станоўча ацэнена рэцэнзентамі, біёграфамі Г. Кісялёва. І гэта вельмі і вельмі прывабная рыса даследчыцкай натуры, работы гісторыка і літаратуразнаўца.

Ён вельмі строга, як сапраўдны першаадкрывальнік, адносіцца да крыніц. Абгаворвае іх так усеахопна, з усіх магчымых бакоў, што яму верыш заўсёды: толькі так і магло быць і не інакш. Г. Кісялёў робіць дапушчэнні, а іх часта даводзіцца рабіць у працы першаадкрывальніка, вельмі і вельмі асцярожна. Пра гэта сведчаць хоць бы яго асцярожныя адносіны да магчымага аўтара "Тараса на Парнасе". Ён, у адрозненне ад некаторых нашых наўрымслівых даследчыкаў, якім здаецца, што яны ўжо ўсё спазналі, усё даказалі, быццам і згаджаецца на пэўныя высновы, пэўныя сцвярджэнні, але пакідае за сабой права, пакуль няма пацвярджэння нейкім дакументам ці аргументам глыбока і пераканальна, сумнявацца, допускаць, не выказвацца катэгарычна.

Генадзь Васільевіч часта папраўляе і сябе, удакладняе, па-новаму глядзіць на ўжо вядомае. Гэта выклікае яшчэ больш давер да ягоных прац. Калі гісторык і літаратуразнавец можа вось так адмаўляцца ад таго, што ён пісаў, гаварыў раней, давер'е да такога чалавека ўзрастае нязмерна.

Паглядзіце, як ён усебакова аналізуе эпоху Кастуся Каліноўскага, яго апублікаваную спадчыну. Гэта і публіцыстыка кіраўніка паўстання, і сувязь яго ў студэнцкія гады з рускім і польскім рэвалюцыйным рухам, і адносіны Каліноўскага да Варшаўскага нацыянальнага ўрада, да правых "чырвоных" і "белых" у час паўстання, і шматлікія выказванні ўдзельнікаў паўстання, яго будучых гісторыкаў, і "Мужыцкая праўда", і "Хорунгев свободы", і "Глос", і параўнанне "Пісем з-пад шыбеніцы" з карэспандэнцыяй "Глоса", і многае, многае іншае.

Г. Кісялёў яшчэ ў кнізе "З думай пра Беларусь" напісаў летапіс жыцця і творчасці, навуковую біяграфію К. Каліноўскага, уключыўшы ў яе шматлікія новыя дакументальныя матэрыялы. З таго часу праляцела ўжо шмат дзесяцігоддзяў. Каліноўскіяна разраслася, пашырылася, павялічылася нязмерна. Гэта пакідае чытачам спадзяванні, што энцыклапедыя "Кастусь Каліноўскі і яго час" наспела настолькі, што за яе пара брацца такім асам, як Г. Кісялёў, В. Шалькевіч, У. Казбярук, А. Белы і інш. Пра гэта вымоўна гавораць і апошняя кніга Г. Кісялёва пра К. Каліноўскага, яго асяроддзе, час, эпоху.

Не магу ўтрымацца, каб у такі ўрачысты момант юбілею даследчыка не выказаць яму сваё шчырае, сардэчнае беларускае дзякуй за дапамогу ў маёй нялростай, прызнаюся, нялёгкай, працы над расшыфроўкаю беларускіх псеўданімаў. Разумеючы яе значэнне, Г. Кісялёў прачытаў рукапіс-чарнавік да майго новага выдання слоўніка, усё, што ведаў, упісаў туды, нават памог расшыфраваць псеўданімы некаторых нашых навукоўцаў. І ўвогуле папаўнее мой слоўнік ужо многія гады. За гэта я шчыра ўдзячны сябру.

У літаратуры Г. Кісялёва ўжо называлі каралём факта. Толькі дакументу ён верыць, толькі на яго найчасцей спасылаецца ў сваіх працах, называючы факты паветрам вучонага. Я сказаў бы, што дакумент, факт — кроў навукі, той жывільны эліксір, без якога навука не можа абысціся ні ў якім выпадку. І Генадзь Кісялёў робіць з фактаў і дакументаў цуды, робіць дасканала, прафесійна, як сапраўдны літаратуразнавец і гісторык, крыніцазнавец, грунтоўны, самы сур'ёзны беларускі навуковец. Пажадаем жа яму здароўя, спору і плёну на яго нялёгкай і такой займальнай, фантастычна цікавай, напоўненай удачамі і пралікамі, дарозе расшукванняў новых, раней не вядомых і шырокаму чытачу і самому даследчыку, дакументаў, за што чытач заўсёды ўдзячны пісьменніку, вучонаму такога ўзроўню, такога высокага рангу, як Генадзь Васільевіч Кісялёў. Як кажуць у народзе, будзь здаровы, як зіма, вясёлы, як вясна, рабочы-працавіты, як лета, багаты, як восень!

**Янка САЛАМЕВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Галінкі Купалавага дрэва...

Літаратурны музей Янкі Купалы... Дом Купалы... Парк Янкі Купалы, бронзавы Купала ў ім, Фантан з "русалкамі"... Амаль усе наведнікі музея выказваюць захапленне прыгажосцю, непаўторнасцю і незвычайнасцю гэтай мясціны, называюць яе святой.

Яно і праўда, бо гэта тая мясціна, якая назаўсёды запанавала думкамі Купалы, куды вярнулася душа вялікага песняра пасля трагічнай смерці ў 1942 годзе, дзе жыве і заўсёды жыць будзе душа Паэта і Прарока.

Гэта святы куточак Беларусі, у якую толькі і верыў Янка Купала:

***І няма на свеце так вялікай меры,***
***І няма на свеце так каваных дзвераў,***
***Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі —***
***Беларусь са мною разлучыць пасмелі!***

Гэтыя радкі выяўляюць найвышэйшую меру знітаванасці сына з Радзімай, якая абгрунтоўвае місію Купалы ў лёсе Беларусі.

Жыве Купала сярод нас. Карані яго генеалагічнага дрэва трывала ўвайшлі ў родную зямлю, у яе гісторыю. І з кожным годам, з кожным новым пакаленнем крона гэтага дрэва робіцца ўсё больш разгалінаванай. Яно сваёй засенню ахінула ўсю Беларусь, і, вядома ж, тую мясцінку, дзе доўгі час жыў Янка Купала, дзе пісаў і адпачываў, дзе быў гасцінным гаспадаром, дзе даваў волю сваім захапленням і ўяўленням.

Галінкі Купалавага дрэва... Гэта браты і сёстры Янкі Купалы, пляменніцы і пляменнікі, унукі, праўнукі і прапраўнукі... Усе яны нясуць адказнасць за род Купалы. А гэта вельмі абавязвае. Вось чаму кожны стараецца зрабіць нешта добрае для свайго народа і для Бацькаўшчыны.

Галінкай Купалавага дрэва з'яўляецца і сённяшні дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Жана Казіміраўна Дапкюнас. Дырэктар музея і чатырох яго філіялаў. Нялёгка і няпроста трымаць столькі на жаночых плячах. І сіл стае, мусіць, таму, што ёсць вялікая адданасць справе, якая стала сэнсам усяго жыцця. Невыпадкова Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (жонка Купалы і першы дырэктар музея Янкі Купалы) яшчэ ў дзяўчынцы Жане ўбачыла сваю змену: з дзяцінства відаць быў характар, сур'ёзнасць і адказнасць, абавязковасць і патрабавальнасць да сябе і да іншых. Студэнткай Жана задумвалася над тым, што Купала — прарок, што ён ішоў "з навукай новаю к людзям". Але ці ўсе пачулі Купалава слова? Паспрыяць таму, каб слова Купалы дайшло да кожнага беларуса, і стала асноўным у яе жыцці і працы.

Прадчуванні і прадказанні Уладзіславы Францаўны спраўдзіліся. У 1986 годзе Жана Дапкюнас была прызначана дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы. Гэта стала вынікам вялікай самаадданасці справе захавання, даследавання і прапаганды літаратурнай спадчыны Народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

А ўвогуле ўжо 38 гадоў Жана Казіміраўна плённа шчыруе на музейнай ніве. Акурат — шчыруе, бо гэта — лёс, наканаванасць ад нараджэння, абавязак перад вялікім сваяком, які немаўляткам трымаў Жану на руках, які ратаваў яе разам з маці Ядвігай Юльянаўнай Раманоўскай ад жахлівай вайны, дапамагаў ім выехаць з палаючага Мінска.

Янка Купала заўсёды прысутнічае ў жыцці Жаны Казіміраўны. Для яе ён заўсёды жывы, побач, дапамагае, але — і абавязвае. Можа, таму Дом Купалы для Жаны Казіміраўны — гэта і яе дом, родны і дарагі, як і бацькоўскі. І таму, як і ў родным доме, прыйшоўшы ў музей, выпускніца БДУ не цуралася ніякай работы. З вялікай старannасцю яна выконвала абавязкі простага навуковага супрацоўніка. З заўзятасцю і апантанасцю распрацоўваліся і чыталіся ёю лекцыі, вяліся экскурсіі, гутаркі. А колькі душы было ўкладзена ёю ў стварэнне новай экспазіцыі музея, калі яна стала загадчыцай экспазіцыйнага аддзела. Пасады вучонага сакратара і намесніка дырэктара засведчылі пра тое, што жанчына і маці дваіх дзяцей, нягледзячы на ўсе жыццёвыя клопаты, дасканала авалодала якасцямі высокакваліфікаванага арганізатара музейнай справы. І тут ужо выявілася галоўная рыса Жаны Казіміраўны: ніколі не спыняцца на дасягнутым, адсутнасць самазадаволенасці, пастаянны пошук і імкненне да новых гарызонтаў.

Паняцце "гарызонт" — мнагазначнае і філасофскае. І яно вельмі адпавядае жыццёвым імкненням дырэктара музея Купалы. Колькі пройдзена і колькі зроблена! Але дасягнутае не з'яўляецца мяжой, не лічыцца набліжэннем да прывіднай лініі гарызонту. Хутчэй — наадварот.

Стаўшы дырэктарам музея, Жана Казіміраўна выявіла незвычайныя здольнасці гаспадарніка, будаўніка, фінансіста, мастака, рэстаўратара, рэжысёра... А самае галоўнае — яна па-ранейшаму з'яўляецца навукоўцам, даследчыкам, генератарам ідэй. Па яе ініцыятыве, яе намаганнямі была адроджана творчая калыска Янкі Купалы: у пачатку 90-х гадоў у Лагойскім раёне быў створаны філіял музея "Акопы", а затым была распрацавана дакументацыя ландшафтнага заказніка рэспубліканскага значэння "Купалаўскі" ў Мінскай вобласці. Шмат было прыкладзена ёю намаганняў для стварэння філіяла музея "Яхімаўшчына" ў Маладзечанскім раёне... Ды хіба ўсё пералічыш?..



*В. Зуёнак, Ж. Дапкюнас, А. Бутэвіч, 1988 г.*

Музей Янкі Купалы, дзякуючы дырэктару-навукоўцу і даследчыку, стаў сапраўды навукова-даследчай установай, дзе нараджаюцца ідэі правядзення рэспубліканскіх, міжнародных навуковых канферэнцый і семінараў, злётаў школ імя Янкі Купалы, выдання энцыклапедычных даведнікаў і каталогаў, узнаўлення публіцыстыкі Янкі Купалы і выпуску яе асобнай кнігай, перакладаў на асноўныя мовы Еўропы санетаў Янкі Купалы і выдання іх асобным зборнікам, каб паказаць свету, як годна беларусы ўвайшлі ў класічную форму санета. Тут нараджаюцца ідэі новых тэлеперадач і кінафільмаў, сцэнарыі вечароў, новых буклетаў, плакетак, медалёў, альбомаў і календароў...

Лінія гарызонту ўсё аддаляецца, прастора для дзейнасці ўсё пашыраецца. І Жана Казіміраўна выношвае ідэю пашырэння кантактаў музея Янкі Купалы з музеямі Расіі і Украіны, Латвіі і Літвы, Польшчы і Англіі... А колькі было зроблена дырэктарам музея дзеля рэалізацыі Міжнароднага праекта "Літаратурны экспрэс "Еўропа-2000", у якім прымала ўдзел 45 краін Еўропы. У выніку — вялікае свята культуры ўсёй Еўропы ў Беларусі, свята ў Вязынцы, на радзіме Янкі Купалы, святы ў музеях і бібліятэках Мінска. І паэсуюль мілагучна і пяшчотна, годна гучала мова Купалы поруч з рознымі мовамі еўрапейскіх народаў. І паўсюль поруч з гасцямі была клапатлівай, добразычлівай, інтэлігентнай, абаяльнай і руплівай гаспадыняй ад Беларусі нястомная Жана Казіміраўна.

Жыццё ідзе, спараджае новыя праблемы, клопаты, ідэі, ды лінія гарызонту для Жаны Казіміраўны па-ранейшаму будзе толькі прывідам, нялёгкі шлях дырэктара музея Янкі Купалы будзе плённым і творчым.

**Алена БУРБОЎСКАЯ**

*Фота Ул. КРУКА*

# Каб не знікалі далягляды

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 6—7)*

**М.Кенька.** Я сустракаўся з Куляшовым пасля таго, як ён пераклаў "Спеў аб Гаявацe" Г.Лангфела. У яго, у адрозненне ад Буніна, атрымаўся пераклад эквілінеарны. Куляшоў сказаў, што свядома не перачытваў пераклад Буніна, каб ён яго не збіваў.

**І.Чарота.** Сёння перакладчык, нават калі ён знакавая постаць, не з'яўляецца нават паўнапраўным прадстаўніком аўтара, не тое, каб яго самога прызнавалі паўнавартасным аўтарам. На працягу дванаццаці гадоў я вяду адпаведныя даследаванні. З тых, хто чытае пераклады, **толькі адзін працэнт** (!) ведае імя перакладчыка. А тых, хто ацэньвае якасць перакладу, яшчэ менш. Вольга Іпатава слушна заўважыла, што асноўная праблема ўсіх нас у змяненні колькасці носьбітаў беларускай мовы, а значыць, і паўнавартаснага масавага чытача. У сваім вузкім коле мы можам ацэньваць калег і як творцаў-геніяў. Але па-за гэтым колам мы ў пэўным сэнсе ананімныя талмачы. Я ведаю, што маладыя перакладчыкі з гэтым не згаджаюцца, і нават пажадаў бы ім, каб не расставаліся з гэтай сваёй ілюзіяй. Хоць некаторыя ілюзіі варта развейваць. Вось Андрэй Хадановіч кажа: "Чаму ў Савецкай Беларусі доўга не друкавалі "Дзядоў"?" А хто іх прапаноўваў да друку?

**С.Мінскевіч.** "Дзядоў" Міцкевіча і зараз надрукаваць у дзяржаўным выдавецтве немагчыма, і не толькі мой пераклад, але і Кастуся Цвіркі.

**І.Чарота.** Я чытаю курс лекцый па югаславістыцы на беларускай мове, даю студэнтам грунтоўнейшую бібліяграфію перакладаў на беларускую мову. Пытаюся на лекцыі пра Іва Андрыча, хто чытаў яго творы ў арыгінале, хто на рускай мове? Рукі падымаюцца. Пытаюся, хто чытаў у беларускім перакладзе — ніхто рукі не падымае.

**В.Іпатава.** Не трэба крыўдзіцца...

**І.Чарота.** Я і не крыўджуся. Хоць сам і перакладаў. Гэта проста наша рэальнасць. Зборнік вершаў выдатнай сербскай паэткі Дэсанкі Максімавіч, на выданне якога існавала дамоўленасць, дасюль ляжыць без руху ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

**У.Анісковіч.** Той жа лёс напаткаў кнігу выдатнага балгарскага сатырыка і гумарыста Петара Незнакомава, якога, на вялікі жаль, ужо няма сярод жывых. Рукапіс быў ухвалены, у выдавецтве нават выказалі ўпэўненасць, што зборнік балгарскага гумарыста будзе мець поспех у чытача і кніжка будзе прыбытковай.

**А. Хадановіч.** А я маю досвед правядзення практычных заняткаў са студэнтамі па беларускіх перакладах, у тым ліку па перакладзе гётэўскага "Фаўста". Нават у "расійскіх" групах — і гэта пры існаванні вольнага, але геніяльнага перакладу Б.Пастэрнака — знаходзіліся тыя, хто чытаў "Фаўста" ў беларускім перакладзе В.Сёмухі.

**І.Чарота.** Сёння згадваўся ўразлівы прыклад , як Леанід Галубовіч цытуе Чэслава Мілаша па-руску, хоць ужо год, як друкаваўся беларускі пераклад — малафункцыянальны.

**С.Мінскевіч.** Беларускі пераклад надзвычай важны, бо імя аўтара твора, перакладзенага на беларускую мову, ёсць рэклама для нашай мовы. Вячаслаў Рагойша гаварыў, што кожны пераклад мае нацыеахоўчую функцыю.

**Н.Гальпяровіч.** Калі б пераклад Васіля Сёмухі "Парфума" Зюскінда быў выдадзены і самым вялікім накладам, ён бы разышоўся. Зрэшты, як і некаторыя іншыя. Тут падвойны эфект — ад папулярнасці і значнасці аўтара і ад таго, як яго беларускае ўвасабленне паслужыць пашырэнню ўжытку роднага слова.

**М.Кенька.** Калісьці ў "Даляглядах" надрукавалі апавяданне Гарсія Маркеса, і менавіта гэты нумар адразу разышоўся, бо на рускай мове гэтага апавядання яшчэ не было. А цікавасць да творчасці Маркеса была дужа вялікая.

**І.Чарота.** Тут згадвалася пра рускую школу перакладу. У рускіх сапраўды ёсць выдатныя рэчы ў гэтай галіне творчасці... Але я ніколі не даю, падобна свайму маладому калегу Хадановічу, эпітэт "геніяльны"...

**М.Кенька.** Скупаваты...

**І.Чарота.** Сапраўды так... Між тым пры вельмі значных здабытках іх школа перакладу мае шмат заганаў, узведзеных нават у сістэму. У расійскай перакладчыцкай практыцы сярэдзіны дваццатага стагоддзя склаўся перакладчыцкі жаргон. Умоўная перакладчыцкая мова, валапюк, які не працуе на сувязь з арыгіналам і не мае нічога агульнага з тым, што мы назвалі стылізацыяй. Ён проста нясе адцягненую інфармацыю пра арыгінал. У беларускім перакладзе, дарэчы, такога ніколі не было.

**Л.Рублеўская.** Ну, маладыя перакладчыкі пастараюцца і складуць свой, беларускі, жаргон.

**І.Чарота.** Давайце акрэслім асаблівасці беларускага перакладу. Па-першае, наяўнасць перакладу апасродкаванага. Калі будзе пісацца гісторыя беларускага перакладу, то ў ёй пласт перакладу апасродкаванага будзе ў тры разы пераважаць пераклад з мовы арыгінала. Васіль Сёмуха можа ўдакладніць гэтую лічбу...

**В.Сёмуха.** У тры цэлых і адну дзесятую...

**І.Чарота.** І другая асаблівасць — беларускую літаратуру перакладаюць у свеце мінімум на дзевяноста пяць працэнтаў з рускай мовы. Ніякая іншая літаратура такой рэцэпцыі не мае. І трэцяя асаблівасць — гэта наяўнасць аўтаперакладу, якога ў такім маштабе ніводная літаратура свету не ведае.

**Л.Рублеўская.** Сёння мы маем магчымасць параўнаць справу беларускага мастацкага перакладу не толькі з расійскай, але і з нямецкай сітуацыяй. Ці ў Германіі перакладчык мастацкіх твораў таксама трактуецца як "недалітаратар"?

**Б.Кахловіус.** У мяне ёсць досвед зносінаў з нямецкімі пісьменнікамі, якія перакладаюць з іспанскай мовы. Павінна сказаць, што ў Германіі перакладчык мастацкіх твораў можа жыць за свае працы, але вельмі бедна.

**І.Чарота.** Ну, па нашых і па вашых мерках "бедна" разумеецца не аднолькава.

**Б. Кахловіус.** Нядаўна перакладчыкі аб'ядналіся і спрабуюць змяніць сітуацыю. Паставілі перад выдавецтвам умову: іх прозвішчы павінны называцца не недзе напрыканцы маленькімі літарамі, а на тытульным лісце. І ўжо пачынаецца пераацэнка стаўлення да перакладчыкаў. Калі пісьменнік адзначае свой юбілей, падчас урачыстасці называюцца яго перакладчыкі. Таксама перакладчыкі, якія не вельмі многа маюць за сваю працу, могуць атрымліваць падтрымку ад спецыяльнага фонду. Цяпер у мяне ёсць пытанне да ўсіх прысутных. Я заўважыла, што ўсе вы перакладаеце з некалькіх моў. Ці азначае гэта, што вы ўсе добра валодаеце гэтымі мовамі, ці другімі мовамі валодаеце не так добра і перакладаеце праз рускую мову?

**М.Кенька.** Я думаю, ніхто з нас не называў тыя мовы, з якіх ён можа перакладаць толькі з дапамогай падрадкоўніка ці праз пасрэдніцтва рускай мовы.

**І.Чарота.** Дзеля абагульнення я прапанаваў бы, каб старэйшыя і лепшыя з нас выказаліся, як ён бачыць перспектыву беларускага мастацкага перакладу. Маю на ўвазе Васіля Сёмуху.

**В.Сёмуха.** Для сябе я перспектывы не бачу. Я бачу перспектыву ў тых маладых перакладчыках, якіх я назваў на самым пачатку. Яны вельмі таленавітыя і інтэлектуальна адукаваныя. Тое, што ў нас падрастае плеяда перакладчыкаў, якія заявілі пра сябе і маюць свой голас, бясспрэчна.

**І.Чарота.** А як наконт прафесійнай ацэнкі перакладу? Як ацэньваць прафесіяналізм перакладчыка?

**М.Кенька.** Ну, гэтая ацэнка мусіць быць многааспектнай...

**І.Чарота.** Дык вось, мы павінны падрыхтаваць тых, хто будзе рабіць прафесійны аналіз якасці мастацкага перакладу. І толькі тады многія нашы праблемы калі і не знікнуць, але вызначыцца шлях да іх вырашэння.

**В.Іпатава.** Думаецца, такія шляхі трэба шукаць у практычнай сферы, у падтрымцы Саюза пісьменнікаў, супрацоўніцтве з дзяржаўнымі выданнямі, гэтак жа, як і з незалежнымі. Чым болей добрых перакладаў прачытае беларускі чытач, тым лепш.

**Л.Рублеўская.** А аддзел крытыкі "ЛіМа" будзе чакаць водгукаў ад тых, хто пачытае гэтую нашу размову.

**слухаўшыся іхніх канцэртаў. Песня наша, здаецца, часцей была больш мінорная, чым мажорная?..**

— Вы згадалі "Песняроў"... Я быў не толькі на адкрыцці Дзён культуры Беларусі ў Маскве, але й на закрыцці. У канцэртнай зале "Расія" быў вялікі канцэрт, больш чым на чатыры гадзіны, які даваў ансамбль "Песняры" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мулявіна. У зале не было ніводнага вольнага месца, хоць білеты былі не самыя танныя, іх кошт даходзіў да 50 долараў. Канцэрт прайшоў пры такім прыёме маскоўскай публікі, якога я даўно не бачыў. Чаму я гэта прыгадваю? Некаторыя спрабавалі адсунуць "Песняроў" на другі план, маўляў, іх творчасць ужо не такая цікавая. Я з гэтым не пагаджуся. Дарэчы, мы плануем, каб "Песняры" з'явіліся і ў Маладзечне на фестывалі. Што да "Харошак", дык гэта адзін з тых калектываў, якія працуюць вельмі цікава і напружана; гэта адзін з тых калектываў, якімі мы па праву ганарымся. Дарэчы, пры "Харошках" ёсць дзіцячая студыя, дзе гадуецца змена сённяшнім артыстам. Гэта заслуга нязменнага кіраўніка "Харошак" Валянціны Гаявой. Пра мастацкі ўзровень калектыву гаварыць не выпадае, няма патрэбы — агульнавядома, што ўзровень гэты найвышэйшы. Іх запрашаюць у шматлікія замежныя паездкі, мы нават не заўсёды можам задаволіць гэтыя, скажам так, запатрабаванні.

Коратка пра іншыя калектывы. Ну, скажам, "Бяседа". Гэты калектыў не Міністэрства культуры, а Дзяржтэлерадыёкампаніі. Зрэшты, мы ніколі не лічылі і не лічым, што ён не наш. Вядома ж, наш! Ён з годнасцю паўсюль прадстаўляе нашу беларускую культуру, наша беларускае мастацтва, у прыватнасці — у часе Дзён культуры Беларусі ў Маскве, дзе яго выступленне таксама, як і "Песняроў", прайшло надзвычай паспяхова і на высокім узроўні. На чале "Бяседы" стаіць высокапрафесійны чалавек — народны артыст Беларусі Леанід Захлеўны, мы з ім з задавальненнем супрацоўнічаем.

Ну а што да мінору і мажору нашай песні, то я не надта хачу пагаджацца з вамі — хай лепш будзе больш мажору.

**— І яшчэ адно пытанне, Леанід Паўлавіч, — моўнае. З нейкага часу стала рабіцца нешта не надта зразумелае. Слова беларускае ці не паўсюль ігнаруецца, яно ўсё больш пакідае сцэны клубаў, дамоў і палацаў культуры, падмосткі тэатраў, эстрады і г. д. Здаецца, і самі работнікі культуры ўсё больш адмаўляюцца ад роднага слова. Вас гэты папрок не датычыцца, а вось многіх іншых... У тым ліку і чыноўнікаў ад культуры. А многія з іх яшчэ зусім нядаўна вельмі хораша размаўлялі па-беларуску. Прозвішчаў называць нявартa, гэта з'ява — масавая, на жаль. Беларускае слова, як ніколі, сёння не ў пашане. Вынікі вядомага рэферэндуму, здаецца, многія зразумелі і ўспрынялі вельмі аднабакова. Вам так не здаецца?**

— Хацеў бы адразу сказаць, што ў Міністэрстве культуры літаральна ўсе супрацоўнікі размаўляюць на беларускай мове. Усё справаводства ў нас вядзецца толькі на беларускай мове. Ну а што да ўсяго астатняга... Я лічу, што гэта залежыць перш за ўсё ад самога чалавека, а не ад дзяржаўнай палітыкі ў гэтым пытанні. Ніхто беларускую мову нам не перакрэслівае, ніхто ніколі не кажа ні чыноўніку, ні мастацкаму кіраўніку не размаўляць па-беларуску. Калі твой стан душы вымагае гэтага — размаўляй на роднай мове, ні на што і ні на кога не трэба азірацца, бо няма ніякіх дзяржаўных установак ці забарон.

**— На заканчэнне — амаль пра асабістае, Леанід Паўлавіч. Пра наш "ЛіМ". Вы не маеце, вядома, да гэтага дачынення, але ўсё ж хочацца спытацца. Ці не дзіўна гэта, што Міністэрства культуры адмовілася быць заснавальнікам старэйшага выдання — "ЛіМу" ідзе сямідзесяты год! — у назве якога вось гэтыя два словы — літаратура і мастацтва? "ЛіМ", дзякаваць Богу, застаўся "ЛіМам", аднак жа пытанне, як кажуць, узнікае?**

— Адказваць на пытанне пра рашэнні, якіх сам не прымаў, ніякавата, нават складана. Усё ж скажу вось што. Калі ў назве газеты ёсць словы літаратура і мастацтва і калі яны адпавядаюць зместу выдання, дык, мне думаецца, і асаблівых пытанняў не павінна быць.

**— Дзякуй вам, Леанід Паўлавіч, што згадзіліся на гэтую гутарку і не пашкадавалі на яе нямала не лішняга для вас часу. Усялякіх вам поспехаў і здабыткаў ад імя ўсіх лімаўцаў!**

**Гутарыла Марыя МІХАЙЛАВА**

СУСТРЭЧЫ

# Сумежжа духоўнасці

*Быў час, калі жыццё кіпела:*
*Святы быў час.*

**Эмілія КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ, настаўніца беларускай мовы ў даваеннай Латвіі.**

У Скарынаўскім цэнтры адбылося пасяджэнне "круглага стала" на тэму: "Беларусь — Латвія: краіны-суседзі на мяжы тысячагоддзяў".

Аспекты беларуска-латвійскіх узаемадачыненняў былі цікавымі для акадэмічных вучоных і прафесараў-выкладчыкаў, для працаўнікоў грамадскіх арганізацый і дзяржаўных установаў. Прыйшлі прадстаўнікі Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей (Ніна Ходар), Міністэрства замежных спраў (Алена Копанева), Таварыства дружбы і інш.

Пасяджэнне міжнародных "круглых сталоў" ужо праходзілі тут. Чарговае адкрыла дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

Многа цікавага пра сучаснае жыццё ў Латвіі дазналіся ўдзельнікі "круглага стала" з вуснаў Часовага Паверанага ў справах Латвійскай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь сп. Эганса Нэйманіса. За час працы ў Мінску Беларусь яму стала больш зразумелай. Дарэчы, ён зазначыў, што нашыя народныя песні вельмі сугучныя з латышскімі і паводле духу і паводле настраёвасці. Перагукваюцца колеры нашых арнаментаў, многа "роднаснага" і ў народных строях.

Гэта сцвердзіла і археолаг Людміла Дучыц на аснове балцкіх элементаў, знойдзеных у курганах. А ўвогуле ў дыскусіі "круглага стала" прынялі ўдзел не толькі людзі з навуковымі званнямі (Л. Дучыц, В. Райгоша, А. Ліс, Т. Процька, І. Яшкін, Ф. Клімчук), але і людзі, каму блізка да сэрца латышска-беларускае добрасуседства. Многія гады пражыла ў Латвіі Эма Уладзіміраўна Чупракова, дасканала валодае латышскай мовай. У Мінску адшукала многа латышоў і яны часта збіраюцца разам. Працуе "клуб па інтарэсах". Эма Чупракова і падзялілася сваімі назіраннямі: чым жа на побытавым узроўні адрозніваюцца латышы ад беларусаў і якія рысы менталітэту ў іх агульныя.

Яшчэ да заснавання Рыгі (а сталіцы Латвіі сёлета спаўняецца 800 гадоў) палачане мелі выхад да мора. І ўсё ж самымі насычанымі беларуска-латышскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні былі ў XX стагоддзі. У 1918 годзе створана незалежнае Латвійскае гаспадарства. Сярод насельнікаў — людзі розных канфесій, стракаты нацыянальны састаў. Але ўжо праз некалькі гадоў Ліга Нацый ставіла Латвію ў прыклад за гарманічнае вырашэнне міжнацыянальных стасункаў. Пашанцавала і амаль 70-тысячнаму беларускаму карэннаму насельніцтву. Вось як піша пра гэта д-р Ілга Апіня: "Галоўным напрамкам жыцця беларусаў Латвіі ў 1920—30-х гг. было яркае нацыянальнае адраджэнне, чаму садзейнічалі рэальна існуючая ў краіне мадэль культурна-нацыянальнай аўтаноміі, дзяржаўныя субсідыі, падтрымка з боку мясцовых уладаў".

Удзельнікі "круглага стала" змаглі агледзець у Скарынаўскім цэнтры выставу, наладжаную таварыствам "Беларусь—Латвія". Экспанаты яе — якраз і сведчаць аб руплівай творчай працы падчас названага І. Апіняй адраджэння.

А сама выстава прымеркавана да 80-годдзя ўтварэння ў Латвіі культурна-асветнага таварыства "Бацькаўшчына". 25 сакавіка 1921 года група беларускай інтэлігенцыі на чале з настаўнікам Янам Харлапам абвясціла ў Дзвінску (Даўгаўпілсе) пачатак падзвіжніцкай чыннасці сярод беларусаў латгальскай зямлі — на развіццё сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці, пашырэнне асветы, усталяванне ўзаемаразумення з іншанацыянальнымі супольнасцямі і ў першую чаргу — з тытульнай, як бы сёння сказалі, нацыяй. Пры падтрымцы латышскай інтэлігенцыі, спрыянні Яніса Райніса Міністэрства асветы заснавала Беларускі аддзел для кіраўніцтва навучальнымі ўстановамі. І вось адкрыта каля 60 школ, дзве гімназіі, настаўніцкія курсы... Пазней пачалі дзейнічаць таварыствы "Прасвета", "Рунь", "Аратай", аб'яднанні настаўнікаў, выбаршчыкаў, беларускай моладзі... З 1928 года працавалі два нацыянальныя тэатры — у Рызе і Даўгаўпілсе.

З 1926 да 1934 года існавала ў Рызе "Беларускае выдавецкае таварыства". Вынік яго працы — зборнікі вершаў, падручнікі, перакладныя кнігі, навуковая літаратура, паштоўкі, ноты... Асобныя экземпляры прадстаўлены на выставе ў Скарынаўскім цэнтры. З яе вынікае, што мелі беларусы ў Латвіі свае так бы сказаць сродкі масавай інфармацыі. Удзельнікі "круглага стала" ўбачылі тонкія сшыткі штомесячнага навукова-папулярнага, педагагічнага і літаратурна-грамадскага часопіса "Беларуская школа ў Латвіі", заснаваны як орган "Таварыства беларускіх вучыцялёў ў Латвіі" і педагагічны дадатак да газеты "Голас Беларуса". Выдаваўся ў 1926—29 і 1932—33 гадах.

А штотыднёвая сялянска-работніцкая газета "Голас Беларуса" выходзіла ў Рызе з 1925 да 1930 года. Былі і газеты-аднадзёнкі. Асаблівую пяшчоту выклікаюць выдрукаваныя на гектографе нумары вучнёўскіх часопісаў "Школьная праца" і "Ластаўка" (была і гімназійная перыёдыка!)

У выступленнях А. Дзядзінкіна, А. Вабішчэвіча, М. Цыбульскага адзначалася, што набыты вопыт латышска-беларускіх узаемадачыненняў можа быць карысным у будучыні. Прамінулыя вякі выпрацавалі нашую гістарычную, геаграфічную, этнічную блізкасць. "Гэта не якая-небудзь простая дружба", — гаварыў Я. Райніс у 1922 годзе ў сваёй прамове на Сойме, абараняючы інтарэсы беларусаў.

Сумежжа нашай духоўнасці пранізвае, як пісала І. Апіня, "адна лёсавызначальная рака — Даўгава (Дзвіна), бо "агульным для абодвух народаў быў водны шлях да Балтыйскага мора". У новым тысячагоддзі ўзаемазлучальных шляхоў паболее, культурны абмен павялічыцца. І "круглы стол" вызначыў контуры супрацоўніцтва, якое будзе ажыццяўляцца навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі, пісьменнікамі... Народны паэт Латвіі Оярс Вацыетыс аднаго разу быў госцем "Дня паэзіі" на Беларусі. Яго словы 30-гадовай даўнасці могуць быць пастскрыптумам сёлетняга "круглага стала" ў Скарынаўскім цэнтры: "...самім лёсам нам дадзена суседства, роднасць душ. Астатняе ствараем мы самі".

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**старшыня таварыства "Беларусь—Латвія"**

дык і будзем да канца беларусамі... А ты? Што ты зрабіў з сабою?

— Не я, а яны...

— А хто ты, што з цябе можна віць вяроўкі? Які ты чалавек?

— Я звычайны чалавек. Слабы. З мяне можна віць вяроўкі. З каго нельга — той ломіцца. І канцы... І няма чалавека... Я хацеў жыць... Вось таму і вярнуўся дадому... У бацькаву хату...

— Але ты ўжо не сын свайго бацькі! Ты ўжо тут чужынец! Ты здрайца, калі хочаш ведаць! Каб твой бацька жыў, ён не пусціў бы цябе на парог, бо ён быў шчырым беларусам.

— Можа, ты кажаш і праўду, але факт застаецца фактам: мы выракаемся свайго не так проста, як можна падумаць. Калі хочаш жыць, рабі тое, што табе кажуць. Што ты будзеш выбіраць? Смерць? Яшчэ невядома...

Яна чакала ад яго абурэння, злосці, крыўды — чаго хочаш, толькі не такое вось развагі. Проста ён выбіў у яе з рук апошні козыр.

— Дык выходзіць, што ўсе, хто вярнуўся адтуль, адракліся ад свайго, сталі здрайцамі?

— Я гэтага не скажу, у кожнага свая дарога, але мне давялося вяртацца вось такою пакручастаю, у зігзагі. Можаш мяне за гэта ненавідзець... А можаш пашкадаваць, прытуліць і гэтак далей...

— Хай цябе твая жонка шкадуе... і гэтак далей.

— Сёння жонка — трэці лішні. Я ўвесь час быў трэцім лішнім. О, гэта цяжка! Нават невыносна...

— Ну, у жонкі ты, можа, першы, а не трэці, — укалола яго Ружэна, на што ён нічога не адказаў, толькі крыва, адным бокам рота, усміхнуўся, паказаўшы свае "жалезныя" зубы. — Так што можаш супакоіцца — дадала яна пасля паўзы. — Толькі я не разумею чалавека, які аддаў ці прадаў усё сваё, роднае, самае дарагое на свеце — матчыну мову! — і жыве спакойна, як і нічога не здарылася! Ды я памерла б ад сухотаў, ад дакораў сумлення, ад крыўды на сябе самую, што я такая нікчэмная — і мною папіхаюць, як свіною ражкаю, не лічаць за чалавека, не лічацца з маім чалавечым гонарам і годнасцю, урэшце, з нацыянальнай гордасцю, якая жыве ў душы ў кожнага чалавека! Няўжо ты гэтага не разумееш? Няўжо да цябе не даходзяць такія элементарныя паняцці? Цябе прынізілі, цябе растапталі, як чалавека, як асобу, як беларуса — а ты мо яшчэ і рады, што ты вось вярнуўся ў бацькаву хату з жонкаю, якая...

Тут яна глянула на яго і — замоўкла: Стафан, схіліўшы галаву на грудзі, мірна спаў, нават злёгку пахрапваў. Рот яго быў адкрыты, і з левага кутка вуснаў сцякаў струменьчык на падбародак, на яго паласатую "зэкаўскую" кашулю.

Яе скаланула ад такога відовішча. Усхапіўшыся са свайго крэсла, яна ўзяла сваю сумку з хлебам і скіравалася на выхад — яна не верыла, што ён замкнуў дзверы з сяней на двор. Але так яно і было — дзверы былі замкнёныя. Яна вярнулася назад, нерашуча пастаяла ля Стафана, а потым асмялела і з агідаю, якой ніколі не адчувала, бо не лазіла па чужых кішэнях, вымушана была асцярожна запусціць руку ў кішэню яго кашулі, але там было пуста, і яна палезла ў другую. На яе шчасце, звязка ключоў ляжала менавіта там. Яна ледзь не бягом кінулася ў сені, стала прымяраць адзін ключ, другі — не падыходзілі. Урэшце трэці аказаўся той, што патрэбны: яна павярнула яго сюды-туды — і ён адамкнуў дзверы. Яна схапіла сваю сумку і кінулася цераз двор на вуліцу.

На дварэ ўжо шарэла. Вецер гнаў па вуліцы першыя апалыя лісты з навакольных дрэў, пераважна садовых, што раслі пры дарозе і ў агародах. На небе з захаду паволі плылі шэрыя хмары, яшчэ не дажджавыя, таму лёгкія і зусім не страшныя на выгляд.

Ружэна з палёгкай уздыхнула на поўныя грудзі. "Я з тваё пасткі вырвалася. А вось ты там, відаць, і застанешся да скону, — падумала яна пра Стафана. — Зрабілі цябе рабом, павесілі ашыйнік, а ты яшчэ і ўдзячны: памілавалі, не адабралі жыцця... Ах, якое шчасце! Ды што гэта за жыццё, калі ты ўжо сам не свой, ты ўжо нейкі там... невядома хто, а не той, кім былі твае бацькі, дзяды і прадзеды... Яны ўжо цябе не пазнаюць на тым свеце, яны не прызнаюць цябе сваім сынам, сваім братам і сваяком. Ты для іх будзеш чужаніцаю, на якога яны нават не глянуць. Бо яны былі людзьмі, былі сынамі гэтай зямлі і імі засталіся, а ты прадаў і гэтую зямлю, і іх таксама. Дык хто ты пасля гэтага?"

І ўжо спакайней дакарала сябе, што пайшла на Стафанава запрашэнне, што адразу не адмовілася. Але хіба яна магла ведаць, што яе чакае? Добра, што ўсё так завяршылася. А магло... Але нічога. Цяпер яна будзе разумнейшая і не стане, не зведаўшы броду, лезці ў воду. Яна перахрысцілася сама сабе і падзякавала Богу, што ўсё так скончылася.

Потым яшчэ падумала пра Віктара. Можа, і добра, што ён тут не застаўся... У яго і ў яе была б драма, а мо нават і трагедыя. Іх разлучылі б — і мо нават назаўсёды. Дык лепш ужо разлучыцца па сваёй волі, як атрымалася ў іх. І мо нават тое, што яны не перапісваліся па віне яе маткі, не такая ўжо вялікая страта — гэта было б проста соль на іх раны. Хай будзе так: зробленага ўжо не пераробіш.

КНІГАРНЯ

# Працяг даследаванняў

Аркадзь Падліпскі, віцебскі журналіст і краязнаўца, даўно і рупліва збірае матэрыялы, якія праліваюць святло на повязь Марка Шагала з Віцебскам. Як плён такой работы — кнігі "Васільковыя гады Марка Шагала, альбо Віцебск у лёсе мастака" (Віцебск, 1997) і "Віцебскія адрасы Марка Шагала" (Віцебск, 2000). І яшчэ ў 1993 годзе А. Падліпскі выдаў работу "Марк Шагал. Асноўныя даты жыцця і творчасці" (між іншым, тыраж кнігі тады склаў 5000 экземпляраў). Напрыканцы 2000 года ў Віцебску пабачыла свет новае, другое па ліку, выданне жыццяпісу вялікага мастака сучаснасці. Сам А. Падліпскі наступным чынам тлумачыць вартасці дадзенага даследавання: "Лаканічнае пералічэнне дат і падзей пры ўсёй сваёй сухасці мае і перавагі перад манаграфіямі і аб'ёмнымі працамі. А кароткія цытаты з выказванняў самога мастака, яго сяброў і знаёмых, мастацтвазнаўцаў, архіўных дакументаў, газетных і часопісных артыкулаў па-свойму ілюструюць сказанае і болей поўна і аб'ёмна характарызуюць падзеі".

Адлік, як вядома, пачынаецца з 6 ліпеня 1887 года ("У сям'і дробнага гандляра ў Віцебску нарадзіўся Марк (Маісей) Шагал. "Я бязмежна люблю свой родны Віцебск". (М. Шагал). Альбо — 1907 г., вясна ("Вучоба ў мастацкай студыі Юдэля Пэна" (1854—1937). "Многія з пэнаўскіх рысаў атрымаў у спадчыну юны Шагал. Гэтым я схільны тлумачыць сюжэты большасці яго твораў віцебскага перыяда — жыццё беднаты, абстаноўка каларытнага быта... М. Лерман, навучэнец Віцебскай мастацкай школы".

Даведнік, пагадзіцеся, носіць унікальны характар. Жыццяпіс Марка Шагала не трэба зараз удакладняць па розных крыніцах — уся інфармацыя сканцэнтравана ў адной кнізе А. Падліпскага.

Адметна, што кніга багата ілюстравана. Яшчэ адна адметнасць выдання: А. Падліпскі падае шырокую інфармацыю пра крокі па ўшанаванні Шагала пасля яго смерці.

Разам з тым хацелася б выказаць некалькі заўваг да жыццяпісу, які, безумоўна, сёння можна лічыць здабыткам у шагалазнаўстве. Выданне патрабуе даведачнага апарата. Найперш — бібліяграфіі выкарыстання крыніц, а таксама, магчыма, і каментарыяў да асноўнага тэксту. Напрыклад, распавядаючы пра 1981 год, А. Падліпскі сведчыць: "Марку Шагалу прысуджаецца прэмія Р. Вольфа". Далей краязнаўца дае даведку адносна Вольфа (у тым ліку і наступнае падказвае: "Адна з самых прэстыжных прэмій свету"). Але чытач не ведае, хто яшчэ быў адзначаны гэтай узнагародай. Той жа 1981 год... Даведка пра Шагала змешчана ў энцыклапедыі "Балет" (Масква). Чаму б ніжэй не падаць тэкст даведкі ці пэўнага энцыклапедычнага артыкула? Патрабуе кніга іменнога і геаграфічнага паказальнікаў.

Пэўна ж, гэтыя недахопы будуць ліквідаваны. У храналагічнага нарыса "Марк Шагал" — вялікае, доўгае жыццё. Наперадзе — новыя выданні.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**Калектыў рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі ГУЗЯЛЕВІЧ Раісе Паўлаўне з прычыны вялікага гора — смерці бацькі.**

# Музей у Старых Дарогах

На пачатку снежня 99-га ў Старых Дарогах быў адкрыты мастацкі музей Анатоля Белага. На першым паверсе — своеасаблівая карцінная галерэя. Тут прадстаўлены жывапісныя творы мастакоў Л. Шчамялёва, В. Цвіркі, Г. Вашчанкі, Р. Кудрэвіч, І. Рэя, Н. Гоманава і інш.

А на другім паверсе музея — зала партрэтаў, на якіх дзеячы беларускай гісторыі і культуры, адраджэнцы, стваральнікі незалежнай Беларусі, славутыя прадстаўнікі беларускага замежжа. Сярод твораў — вялікая колькасць карцін, прысвечаных гістарычным гарадам Беларусі, лепшым помнікам яе дойлідства. Прадстаўлены тут радавод Полацкіх і вялікіх князёў Літоўскіх, карта старажытнай Беларусі часоў Вітаўта Вялікага, партрэты полацкіх князёў, князёў Вялікага Княства Літоўскага, яго палкаводцаў і гетманаў.

Змешчана тут вялікая колькасць скульптурных твораў, прысвечаных дзеячам беларускай культуры і адраджэння.

Ёсць у музеі і зала мастака Аляксея Пятрухны, які пасля смерці завяшчаў свае творы А. Беламу, што быў арганізатарам адзінай пасмяротнай выставы Пятрухны ў 1999 годзе. Цяпер каля 150 ягоных твораў пастаянна экспануюцца ў мастацкім музеі, працуюць на карысць народа і на папулярызацыю творчасці выдатнага беларускага мастака, які пры жыцці не быў ушанаваны і ўхвалены крытыкамі і чыноўнікамі ад мастацтва.

Ужо дзейнічае другая чарга музея, дзе прадстаўлены каля 200 графічных твораў і вельмі цікавая і багатая калекцыя медальернага мастацтва. На медалях адлюстраваны важныя гістарычныя падзеі, знакамітыя асобы: дзеячы навукі, культуры і асветы нашай дзяржавы. Самы старажытны медаль — 1700 года. На ім — выява Аўгуста III, караля Польшчы і вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага. На самых найноўшых медалях выявы Уладзіміра Высоцкага, паэтэсы Ларысы Геніюш, беларускага гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага. Шмат тут медалёў, прысвечаных Францішку Скарыну, Міколу Гусоўскаму і дзеячам эпохі Адраджэння. Ёсць падборка медалёў, якія распавядаюць пра Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў па паўстанні 1863 года. Шмат медалёў з выявамі Купалы, Коласа, Цёткі, Багдановіча, Гарэцкага... Прывабліваюць медалі, якія адлюстроўваюць традыцыйную культуру беларусаў: рамёствы, танцы, працоўныя прылады, старажытныя звычаі, абрады і вераванні беларусаў, помнікі дойлідства, гербы беларускіх гарадоў. Ёсць нават медаль, прысвечаны Старым Дарогам, з адзнакамі дат закладкі горада і першага ўпамінання аб ім.

Медалі створаны з розных матэрыялаў: бронзы, сілуміну, тэракоты, фарфору і шкла, ёсць нават медалі з чыстага срэбра. Заўважу: у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі захоўваецца 24 творы медальернага мастацтва, а ў музеі А. Белага прадстаўлена аж 500 медалёў. Ёсць сярод іх унікальныя: напрыклад, медаль Петраркі (аўтар Генадзь Кобрын), які ў свой час набыла Траццякоўская галерэя.

У музеі прадстаўлена вялікая колькасць графічных твораў беларускіх мастакоў. 200 работ размешчаны па трох раздзелах: Беларусь старажытная, змагарная і маладая. У графічных працах мастакі звярнуліся да жыцця і творчасці Каліноўскага, Багдановіча, Касцюшкі, дзеячаў маладой Беларусі: ад Луцкевічаў да Быкава і Адамовіча...

Я запыталася ў Белага:

— Анатоль Яўхімавіч, як вам удалося сабраць такую калекцыю, стварыць мастацкі музей?

— Збіраў усё свядомае жыццё. Яшчэ ў школе мяне цікавілі гістарычныя знаходкі, творы мастацтва. Зараз у маёй калекцыі ёсць экспанаты, за якія мне прапаноўвалі "мерсэдэс", але не прадам ніводнай рэчы. Гэты бясцэнны нацыянальны скарб належыць нашай краіне, нашаму народу. Да гэтага скарбу спрычыняюцца мае землякі, усе тыя, хто жадае атрымаць у музеі эстэтычную асалоду і папоўніць свае веды... Ніякай платы за наведванне мы не бяром.

Добрым словам узгадаў Анатоль Яўхімавіч сваю жонку Алу Мікалаеўну. Маўляў, цудоўны памочнік яна ва ўсіх справах. Па прафесіі — выкладчык музыкі. Умее цікава правесці экскурсію, расказаць пра кожны экспанат музея. Ала Мікалаеўна і галоўны "прараб" на будаўніцтве музея...

— Анатоль Яўхімавіч, некалькі слоў аб будучыні музея.

— Ён будзе папаўняцца экспанатамі, багацець. У нас ёсць дачка, унук, зяць. Можа, іх гэта зацікавіць, можа,






яны і працягнуць справу майго жыцця. Дзейнічае ж у Маскве Траццякоўская галерэя, а чаму ў Старых Дарогах не можа быць мастацкага музея Белых?..

Нядаўна Анатоль Белы з жонкай пабываў у Амерыцы. У Кембрыджскім універсітэце яго прызналі лідэрам культуры XX стагоддзя, узнагародзілі адмысловым дыпломам. Але ж кліча Мінск, радзіма, Старыя Дарогі. Тут бацькоўскі дом, карані, музей. Шмат карыснага Анатоль Яўхімавіч зрабіў для Белдзяржуніверсітэта, дзе працуе выкладчыкам. Помнікі Францішку Скарыну, Еўфрасінні Полацкай, Міколу Гусоўскаму, Сымону Будному і Васілю Цяпінскаму пастаўлены ва універсітэцкім дворыку па яго ініцыятыве. Акрамя гэтага, Анатоль Яўхімавіч прымаў удзел у адкрыцці помнікаў Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі, Еўфрасінні Полацкай у Полацку і Адаму Багдановічу ў Халопенічах. Менавіта Белы стварыў у Мінску клуб "Спадчына", які аб'ядноўвае патрыятычна настроеных пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, музыкантаў, выкладчыкаў, кампазітараў, артыстаў. Клуб выдае альманах "Скрыжалі спадчыны".

Хто не шануе мінулага, той не мае будучыні.

**Яніна МУРАШКА**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

**Тэатр балета**

*23 сакавіка* — "Спартак"
*25* — "Доктар Айбаліт"
*28* — "Рамэа і Джульета"
*30* — "Лебядзінае возера"

**Тэатр оперы**

*24 сакавіка* — "Трубадур"
*25* — "Віват, Вердзі!"
*27* — "Севільскі цырульнік"
*29* — "Барыс Гадуноў"
*31* — "Царская нявеста"

**Купалаўскі тэатр**

*23 сакавіка*— "Вечны Фама"
*24* — "Ромул Вялікі"
*25*— "Парфён і Аляксандра"
*26, 28*— "Чорная панна Нясвіжа"
*29* — "Паўлінка"
*30* — "Жаніцца — не жырыцца"
*31* — "Лес"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*25 сакавіка*—"Каварства і каханне"
*30* — "Брат мой, Сымон"

**Тэатр імя Горкага**

*23 сакавіка* — "Тата, тата, бедны тата!"
*24, 25 і 28* — "Іван ды Мар'я"
*27* — "Пестуны лёсу"
*29* — "Прыцемкам"
*30* — "Раскіданае гняздо"
*31* — "Хрыстос і Антыхрыст"

**"Хрыстафор"**

*24 сакавіка* — "Гаворыць і паказвае"
*25* — "Дзень танкіста"
*31* — "Выбранае"

**Тэатр лялек**

*24 і 25 сакавіка* — "Чараўнічая лямпа Аладзіна"
*27 і 28* — "Вясёлы цырк"
*29* — "Кот у ботах"
*30 і 31* — "Тыграня Петрык"

**Музычны тэатр**

*27 сакавіка* — "Шляпа Напалеона"
*28* — "Шклянка вады"
*29* — "Севастопальскі вальс"
*31* — "Цыганскі барон"

Міхась МІРАНОВІЧ

# Фрашкі

### *За што?*

*Гадамі мы ўсё*
*За штосьць біліся,*
*За што —*
*Ужо нават забыліся.*
*І ўсё зразумець*
*Намагаемся:*
*За што мы, уласна,*
*Змагаемся?*

### *Сярод шасцідзесяцігадовых*

*У дыскатэцы*
*"Маладосць"*
*Спытала Светку*
*Інка:*
*— А ў цябе ўжо*
*Хлопец ёсць?*
*— Не, у мяне —*
*Дзяўчынка.*

### *Бедны і багаты*

*Вам скажа нават*
*І аскет зацяты,*
*Які на грошы*
*Пазірае хмура:*
*Багаты дурань —*
*Усё адно багаты,*
*А бедны дурань —*
*Усё роўна дурань.*

### *"Палатнік"*

*Вось ты — аграрый.*
*Дык хачу спытацца:*
*Які ў парламент*
*Чорт цябе нясе?*
*Як зможаш ты*
*Ў законах разабрацца,*
*Не разабраўшыся*
*У жыце і аўсе?*

### *Калі ж?*

*На злосць усім тым*
*Загніваючым буржуям*
*Мы дружна будучыню*
*светлую*
*Будуем.*
*Але нарэшце*
*Ці ўнясе хто яснасць:*
*Калі ж мы возьмемся*
*За светлую сучаснасць?*

### *Пакуль што...*

*— Гадоў Вам колькі зараз,*
*Цётка?*
*— Ды хутка*
*Шэсцьдзесят міне.*
*— Ці замужам?*
*— Не, мая котка, —*
*І дадала:*
*— Пакуль што — не!..*

### *Халасцякова крэда*

*— Чаму не жэнішся,*
*Фядот?*
*У адзіноце*
*Жыць жахліва!..*
*— Ты ж не купляеш*
*Піўзавод,*
*Як хочаш выпіць*
*Кухаль піва...*

### *Па заслугах*

*Яму*
*Усё здаецца,*
*Што іншым*
*Больш даецца.*
*Але*
*Не разбярэцца:*
*З яго ж*
*І менш бярэцца.*

ПАРОДЫІ

Міхась СКОБЛА

## Паэт і цары

Хоць бедны я, ды востры
на язык,
служыць царам не ўмею,
не прывык,
і неаднойчы кончыкам пяра
я забіваў магутнага цара...

**Хв. ЖЫЧКА**

***Як мой пячорны продак на звяроў,***
***я паляваў бясстрашна на цароў.***
***Я іх спачатку вершамі смяшыў,***
***пасля пяром, як доўбняю, глушыў.***
***А потым я казаў натхнёна "цыц"***
***і мужна падступаўся да царыц...***
***Зайздросціў Грынявіцкі мне Ігнат —***
***ён аднаго, а я іх знішчыў шмат.***
***Бывала, ледзь паспееш рот адкрыць,***
***а цар ужо кантужаны ляжыць.***
***Здавалася, такі магутны цар!***
***За кожнага плацілі ганарар.***
***Спрачаліся калегі па пяры —***
***не дагадзілі Жычку чым цары?***
***Ні прэмій не далі, ні медаля.***
***Няхай ім пухам станецца зямля.***
***А чытачы звярнуліся ў ААН:***
***— Мо ёсць яшчэ***
***на свеце цар ці хан?***
***Народы! Дэмакратыя найперш —***
***хай Жычка прачытае яму верш...***

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 22.3.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1639

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12